І ў нашых (увесь час савецкая прапагандысцкая малатарня па-гебельсаўску трашчала пра іхнія, фашысцкія лагеры) лагерах смерці закон сацыялізму дзейнічаў. Страшней і люцей за Дантава «Пекла» жахаюць радкі:

Прывяжам бірку мы табе з фанеры
на твой вялікі палец на назе,
каб там Пятро, у рай адкрыўшы дзверы,
адразу бачыў, хто гэта брыдзе.

Гэта жанчынам, гэта паэтцы савецкі лад жыцця дазволіў працаваць па-стаханаўску. (Хоць цяпер вядома, што ўся брыгада Стаханава працавала на рэкорд, а сам ён болей у шахту не спусціўся, а толькі агітаваў і расказваў, як працаваць па-сталінску.) «Здавалася нам, што ад тых цяжэрных кувалдаў, калі дзьвігаеш, варочаюцца кішкі ў жываце й абрываюцца ўсе селязёнкі... Бывала, кіркавалі па 14 гадзін у тундры без ніякага вогнішча ў найлюцейшы мароз... саграваемся слязьмі... альбо заганяюць нас у ваду, і так мы часамі па шыі ў ледзяной вадзе папіхаем наперад нагрувашчаны лес, кіламэтрамі йдучы па вадзе».

Грэла малітва да Бога. На анучцы ўкраінскія манашкі вышылі абразок і тры заклінальныя літары БББ (Боже, барані Беларусь). Пра ўкраінскіх манашак з Львова ўспамінае паэтка: «Некалі будзе музэй змагання й болю гэтай зямлі й чалавецтва паклоніцца бабусям пабожным і мужным і «каранаваным» дзяўчатам... Гэта чэкісты ставілі ля сьценаў дзяўчат і абстрэльвалі ім кароны вакол галавы. Ад гэтага сівелі, дурэлі, а ў адной «каранаванай» Вольгі так і засталася дзірачка на чале».

У лагерах грэлася слязамі, а потым у вершы прызнавалася:

Я з вамі гутару, сябры,
слязінаю скупою.

Скупая слязіна — не сталы эпітэт, проста ўжо слёз не ставала, а плакаць не любіла. Накалеўшыся, назалеўшыся на суравеях паўночных і людскіх, дома магла адчуць — «цяплеюць вятры».

Недзе на пачатку 80-х гадоў адзін узбекскі паэт з гонарам паведаміў мне сваё няўтойнае шчасце — Рашыдаў (для моладзі мушу ўдакладніць — першы сакратар ЦК Кампартыі Узбекістана, член Саюза пісьменнікаў, празаік, які выдаваўся і ў нас у перакладзе Паўла Кавалёва па-беларуску), прачытаўшы ягоны твор, выклікаў па-бацькоўску да сябе і падарыў аўтаручку з залатым пяром. Партыя пада-

рыла паэтцы Ларысе Геніюш кайло і лом і незлічоныя кіламетры чыстай паперы паўночных снягоў.

Цяпер — пра почыркі. Почырк — своеасаблівая кардыяграма душы паэта.

Купалаў. Нецярплівы, імпульсовы, як яшчэ не дакутыя на кавадле, гарачыя яшчэ падковы. Такое ўражанне, што кірыліца для рукі прарока — не спаконвечная. Так і думаецца, што пачынаў з лацініцы.

Коласаў. Самавіты, грунтоўна-разважлівы, гаспадарскі. Кожная літара выпісана да канца, па іх можна ў школе вучыцца пісаць. Цяжка ўявіць, як, напрыклад, выглядала б у яго лацінка.

Багдановічаў. Імпэтны, летуценны, небаўзлётны. Рука анёла нацыі, кніжніка і хутка, і ўпэўнена можа пісаць і кірыліцай, і лацініцай, перапісаць у арыгінале Верлена і ўрывак з летапісу крывіцкага.

Геніюшаўскі. Не ведаю далагернага, вольнага. Ведаю з тых аўтографаў, што маю, паслялагерны. Надрыўны, зрывісты, упэўнены. Рука пакутніцы трымала ручку пасля лома і кайла. Відаць, лацініца лепей бы слухалася спрацаваную на гаспадарцы руку, чымся кірыліца. Пісаць даводзілася замерзлымі пальцамі (так і назвала адзін са сваіх вершаў).

Некалі Мікола Хведаровіч распавядаў, што ў полацкай перасыльнай турме ў чэкістаў быў у модзе і такі метад зняваги — «зрабіць шакаладным». І прымяняўся ён найбольш да беларускай інтэлігенцыі, да ненавісных энкавэдыстам пісьменнікаў. Ахвяру ставілі ў яміну, якую запаўнялі разведзеным чалавечым калам, чакалі, пакуль дойдзе брыда да рота, па ніжнюю губу. Каб выцягнуць патрэбнае для пратакола прызнанне. Паэтцы Ларысе Геніюш даводзілася бачыць іншае: «Крывавыя рукі савецкіх гінеколагаў патрашаць без перарыву бедных жанчын... Працуючы сястройгаспадыняй больніцы, з жахам я глядзела на трупікі ў сьметніку, у рэчцы Зальвянцы. Калі чысьцілі ўборную, дык іхнія галоўкі затыкалі шланг і трэба было яго дадаткова чысьціць... О мае ненароджаныя Купалы, можа, Багдановічы, ■ можа, і Кастусі... Засталіся зубры ў Белавежы, якіх, праўда, па-расейску гутарыць не навучаць, яны ня людзі». Па-цяперашняму кажучы, не ператворацца ў «русскомычащее стадо».

Паэтка разам з дзяўчатамі, выпрасіўшы нітак у не самай зверавітай надзоркі, не «з пароды партыйных выдраў», вышывала хлопцам торбачкі на хлеб роднымі васількамі. Хлопцы працавалі найбліжэй да апраметнай, у шахтах.

І багдановічаўскі васілёк быў хлебам духоўным. Лютую конніцу белых завеяў пераганяла Пагоня, перамагала. Нёман у снах праганяў смагу, даваў сілу. Белавежскі зубр быў узорам вольнасці і нескаронасці. Да вобраза гэтага валадара пушчанскай паганскасці неаднаразова вярталася паэтка.

Вабяць хлеба смачнейшаю лустай:
— Станавецесь валамі, Зубры!
Халуём няхай будзе халуйства,
Мы зямлі свае гаспадары!

Дух паганства, дух першароднай самавітасці Ларысы Геніюш сягаў у нябёсы і меў трывалае апірышча на крывіцкай зямлі.

Мы, як дубы,
нас можна знішчыць громам,
але з зямлі нас роднай
не скрануць.

Улюбёнец сівога Перуна — дуб увасабляе сабой адданасць роднай зямлі, моц вернасці і ахоўнай любові да Бацькаўшчыны.

Зубр — сімвал Беларусі, яе вальналюбнасці і сілы непаказной, бо старадаўнасцю роду і цярплівасцю характару з беларусам сыходзіцца. Паэтку вобраз зубра яшчэ вабіць і тым галоўным, што сам за сябе можа пастаяць, што ён, як бы мовіць, асоба. І ў доказ таму прывяду колькі радкоў з верша «Зубр-адзінец»:

Каго палюбілі аднойчы багі,
сіла яго — адзінота.

Красуецца статак прыплодам цялят,
гульнямі ў травах пахучых.
А ў сэрцы адзінца інакшы загад —
быць рыкам адвечнае пушчы.

Каго палюбілі аднойчы багі,
са статкам той не сальецца.

Быць рыкам пушчы і не зліцца са статкам. Гэта не значыць паставіць сябе над усімі. Гэта значыць — клікаць марудлівых на свядомасць, ахвяраваць нармальным жыццём у імя барацьбы за Айчыну, за народ, каб, працягваючы купалаўскі заклік, «Быць людзьмі. Не толькі імі звацца».

Вобраз зубра-адзінца напаўняюць канкрэтнай чалавечай, змагарскай чыннасцю і словы Споведзі: «Мяне сьледавацель назваў са злосьці адзіночкай у змаганьні, мусяць, гэта была адзіная праўда, якую той нехрыст сказаў. Лёс



2—1460

мяне не акружаў сябрамі, з якімі лягчэй было нясьці, нейкай сілай ускладзеную, ношу адказнасьці за лёс сваяго народу...» Заўважце, як следчага, яўна загартоўкі «а ля жалезны Фелікс», называе на першы погляд мякка для ката — нехрыст. Але колькі вякоў веры ў Хрыста стаіць за гэтым быццам бы нейтральным словам. Зразумела, што мае пакутніца пад нейкай сілай. Толькі Богам абраныя ідуць на барацьбу з нехрыстамі за сваю Бацькаўшчыну. Адчуванне такой абранасці, вера ў Бога давалі моц, не давалі зліцца са статкам.

А нявольнікам, галодным хацелася «бульбы, звычайнай паранай бульбы, якою на Беларусі кормяць сьвіней».

Як і некалі Тарас Шаўчэнка марыў пра садок вішнёвы каля хаты, марыла паэтка Ларыса Геніюш «Быць пры сваіх дзецях, быць з мужам, мець сваю хатку, гдзе хлеба ўволю на стале і ціха, ціха, як у храме...». У «Споведзі» — услухайцеся! — сам сабой узнікае паэтычны радок з вечным, біблейскім гучаннем і па гукапісу, і па сэнсу, аж хочацца паўтарыць: «...гдзе хлеба ўволю на стале і ціха, ціха, як у храме».

І з храма пераносілася Беларуска, менавіта з вялікай літары, Ларыса Геніюш на сапраўды грэшную, савецкую зямлю: «... а там, гдзе была наша сяліба, стаіць толькі даўгі мураваны хлеў і некалькі дрэў, якіх яшчэ не пасьпелі выкарчаваць на апал сяляне. Калі бываю там, дык прашу: «Пакіньце яшчэ хоць гэтыя дрэвы...»

Самую драбніцу прасіла пакінуць Ларыса Геніюш (у дзявоцтве Міклашэвіч). Гэта ў фальварку Жлобаўцы нарадзілася яна 9 жніўня 1910 года, тут вучылася

> Любіць зямлю сваю бязмерна,
> Як толькі любяць жаўрукі.

Як гісторыя праз вякі не жадала даць Беларусі сталай дзяржаўнасці і сталых, не абскубаных суседзямі межаў, так і лёс не хацеў даць паэтцы сталага гнязда, бурыў усе гнёздоўі, ганяў па свеце, кідаў з чужыны ў чужыну. То салавей эміграцыі, то савецкі зэк.

> Крывёй напоўніліся поймы рэк,
> Бурліць адчаем слёз людскіх разводдзе.
> Гляджу на свет. Я — лагернік, я — зэк,
> Засуджаны на мукаў чвэрцьстагоддзя.
>
> Мяне драты, сабакі сцерагуць,
> Дзікіх надзораў зграя нада мною,
> І лоб штодня мой на прыцэл бяруць
> Навучаныя забіваць канвоі.

За калючым дротам сама сабе гаворыць паэтка: «Я ўмею шапкі шыць і рукавіцы... А як там мой муж, мой сын, і ім, пэўна, холад... А ўся мая сям'я? Ад'язджаючы, я пакінула ўдома бацькоў абаіх, трох братоў, трох сястрычак. Гэта было ў канцы 37 года, я ехала ў Прагу да мужа. Яны ня плакалі, а мне плач разьдзіраў грудзі. Яны не паэты, гэта паэты ўсё чуюць наперад. Цяпер тата мой, мажны й харошы, арыштаваны ў 39-м годзе, забіты ў гродзенскай турме, мама памерла на высылцы ў Казахстане ў 1945 годзе. Каханы з братоў Расьціслаў... з галавою, як залацісты сноп жыта, загінуў пад Бэрлінам 28 красавіка 1945 года. Маладзенькі Аркадзі, які разам з Аляксеем пайшоў з высылкі ў армію Андэрса, ляжыць у польскай братняй магіле ў Ларэта ля Рыма, маленькая Люся ў 1954 годзе загадкава памерла ў Вроцлаве, Аляксея велікадушна Англія прыгарнула, а Ксеня й Ніна выстаўленыя на ўсе правакацыі ў Польшчы, як і няшчасны мой сын... Муж зусім адзін у Варкуце...»

Гэтага маналога аднаго хапіла б на любую трагедыю ад антычнасці да нашых дзён. Вось яна, радасць уз'яднаньня Заходняй Беларусі з Усходняй. Уся Беларусь застагнала пад сталінска-энкавэдысцкім ботам.

Маналог з-за калючага дроту, крык з апраметнай. Гэта вязень (дарэчы, мова нават не знайшла формы слова ў жаночым родзе) хацеў быць пачутым. Спадзяваўся, прынамсі. І гэты ж вязень маладзічком свайго жыцця думаў светла пра жыццё. «Падсьведама і я думала аб мужу нейкім, але ён мусяў быць Беларус». І кранаюць сваім святым наівам словы пра тое, як матчына прыяцелька пані Ядвіга Зелянкевічыха Лахваліла маладую дзяўчыну: «Няма кавалера для панны Ларысы, толькі Пілсудскі!» І ласкава, але цвёрда пярэчыла панна Ларыса: «Гэта быў вялікі камплімент, у якім мілая пані Ядзвіга абсалютна забывалася аб позьнім веку польскага маршала й думала толькі аб яго знатнасьці. Для мяне нават ён не прыйшоў бы ва ўвагу, бо ж быў не беларус...» Праўда, апошнія газетныя звесткі выбіваюць гэты важкі аргумент. Нібыта Пілсудскі пад час аднаго з арыштаў царскімі ўладамі на допыце прызнаваў сябе беларусам. Знайшоўся сапраўдны, шчыры беларус Янка Геніюш, «пражскі студэнт і амаль ужо доктар!». І стала Ларыса Антонаўна Міклашэвіч Ларысай Геніюш, каб ёю і застацца ў нашай літаратуры, у нашай духоўнасці. «І так ішлі мы ў жыцьцё з ярым кляймом беларускасьці на чале».

Загадка Багдановіча. Яе паспрабаваў адгадаць наш тале-

навіты Міхась Стральцоў. Ёсць і загадка Геніюш. Адкуль нязломнасць, адкуль утрапёная, апантаная, шалёная любоў да ўсяго беларускага? Нават пра маленькага хлопчыка кажа яна — Беларусянятка, абавязкова з вялікай літары. Тым самым, як падлётку, жадае яму размаху ў крылах і вышыні ў палётах.

Вядома ж, яна не была саветызаванай ні думкамі, ні словам і выстаяла супраць саветызацыі.

Вядома ж, мела характар, які не цярпеў ніякага прымусу, прыгнёту. Прынцып бярэзіны: чым ніжэй хочуць прыгнуць, тым мацней ударыць у адказ, тым імклівей у неба выпрастаецца.

Вядома ж, адчувала сябе ўнучкай Францішка Скарыны, аднадуміцай Ефрасінні Полацкай і сястрой Кастуся Каліноўскага.

Можна доўга меркаваць, угадваць, але загадка Геніюш — гэта загадка беларускай паэзіі, менавіта беларускай, бо толькі ёй даводзіцца на ўціск адказваць выбухам.

Тастаментныя вершы (згадайце Шаўчэнкаў «Запавет») найбольш глыбінна і падсвядома шчыра выяўляюць сутнасць паэта і паэзіі ягонай. І таму прыводжу поўнасцю праславянска-беларускі, па-паганску зямны верш Ларысы Геніюш:

За акном у сутонні
сонца нікне са стрэх.
Дождж мне вымыў далоні.
Шчокі выбеліў снег.

Ільняную кашулю
на мой змучаны стан
каб на ноч апранулі,
ды паслалі дыван,

ды паклалі на ўзлеску
у старым дзірване,
каб цягучыя песні
калыхалі мяне.

Некалі ў Празе адзін хлопец з арміі Балаховіча пасля вайны прыняў савецкае падданства і прынёс анкеты Ларысе Геніюш. Яна адмовілася іх запаўняць. І тады хлопец сказаў: «Вы будзеце вялікай па сьмерці». Словы гэтыя паэтка помніла і занатавала іх у «Споведзі».

З зубром-адзінцом хацела параўнацца змагарка. Але і самотнай кнігаўкай была яна. Адно гняздо ацаліў лёс — хату мужавых бацькоў. Яна была першай хатаю, куды прыйшла паэтка з бацькоўскай, яна стала і апошняй, адкуль Ларыса Геніюш пайшла на вечны спачын.

О, сям'я Генюшоў! Блаславёная хата,
ў тваe сцены калісь мяне мілы прывёў.
Нат вайна захавала цябе, быццам святасць,
мілы роду парог, каб прыняў ты нас зноў...

Спачываюць палі, спіць зямля пад снягамі,
каб на ёй узрасці беларускай душы.
Усім сэрцам сваім я з мінуласцю, з вамі,
прадаўжаю ваш след на зямлі, Генюшы.

След на зямлі і ў сэрцах беларускіх прадаўжае подзвіг паэткі.

Дакорам гучаць словы святой пакутніцы зямлі Беларускай, у гэтым свеце — былога вязня сталінскіх катоўняў за нумарам 0-287: «...ні адзін народ так ня зьдзекаваўся нада мною й над маёю сям'ёю, як беларускі... Ні адзін народ так не ўніжаў сваіх паэтаў, сваіх жанчын».

Адна супраць злыдняў бярозкай стаю,
Пот, не слёзы, мой твар залівае,
Я люблю цябе, край мой, як душу сваю.
Я знаю — за гэта ўміраюць.

На допыце следчаму, што енчыў ад бяссілля зламаць дух беларускай патрыёткі: «Павесіць яе на вуліцах Мінска!» — паэтка крычала: «Яшчэ ня вырасла тая бяроза, на якой вы мяне будзеце вешаць, усіх нас вам не перавешаць!»

Памерла, каб пайсці ў неўміручасць, каб «памяць пакінуць, як ясны паром».

Паэтка Ларыса Геніюш казала: «Паэты не забіваюць, паэты не забываюць крывавага».

Дык хоць кайліва будзем памятаць гэта.

Будзьма памятаць паэтку і помнікамі.

Хоць гэта трэба было рабіць пры жыцці, напісаў я радкі, прысвечаныя Ларысе Геніюш.

*З рук Вашых мужных*
*Сціло выбівалі.*
*Вам давяралі кайло душагубы.*
*Даў Вам з калючага дроту каралі.*
*З Вас пасміхаўся*
*Край Ваш найлюбы.*

*Вы на радзіме былі сіратою.*
*Зонечна Вам было,*
*Сонечна катам.*
*Толькі ў нябёсах над лютай Інтою*

*Бацькам быў Бог,*
*Маткай — Вера,*
*Гнеў — братам.*

*Птушка дакору, адчаю і жалю,*
*Вы цішыню распазнаеце ў гуле.*
*Нашай віны сцяжалелую шалю*
*Вы сваім лёткім крылом*
*Зварухнулі.*

*1992*

# *І кожны ў мур цаглінай лёг жывой...*

Сапраўдны паэт адкрыты, як бор, дзе неруш можа знайсці толькі той, хто бор гэты любіць і ведае.

Сапраўдны паэт шчыры ва ўсіх праявах сваіх. Шчыры ў прароцтве, шчыры ў споведзі, шчыры ў памылках сваіх.

Сапраўдны паэт — летапісец не дакладны ў датах і ў розных лічбах, але шчымліва дакладны ў душэўных парываннях, у паказе бяды і радасці сваіх адначаснікаў, дакладны ў сваім часаўспрыманні, сугучны агульнаму настрою.

Яўрэйскі паэт Ізі Харык быў паэтам сапраўдным. Ды тут адразу хочацца зрабіць папраўку. Нельга, відаць, пра паэта казаць быў. Паэт, калі перафразоўваць Шолама Алейхема, як талент: калі ёсць, дык ёсць. Дык вось, Ізі Харык — паэт сапраўдны. І гэта ў свой час ва ўступным слове да аднатомніка паэта пацвердзіў выдатны знаўца паэзіі, незабыўны Рыгор Бярозкін: «Ізі Харыку пашчасціла пры жыцці зведаць гучную славу і папулярнасць. І славу натуральную, што ідзе ад арганічнага ўзаемаразумення паміж паэтам і яго чытачом».

Адданасць. Гэтым актыўна-эмацыянальным словам названа адна з лепшых па выкананні паэм Ізі Харыка, гэтым падкрэслена-прыналежным словам іменаваны і томік яго выбранае паэзіі. Адданасць свайму народу, сваёй мове, нарэшце, адданасць справе рэвалюцыі вылучала Ізі Харыка з усёй паэзіі, што ўзнікла пасля Кастрычніцкага перавароту. Менавіта рэвалюцыі ў бальшавіцкім разуменні быў найболей аддадзены Ізі Харык. Сын местачковага шаўца-рамесніка паверыў бальшавікам. Паверыў, што будзе развівацца мова ягонага народа, што ўсе будуць роўнымі, што новы лад нясе шчасце, пра якое вякамі марылі шмат якія народы Расійскае імперыі. І шчыра апяваючы ўсе рэвалюцыйныя змены, паэт тым самым пакінуў сведчанне абуджанага да дзеяння хамства натоўпу, якое звалі справядлівым гневам рабочых і сялян:

І добра так, і люба так
Цяжкім абцасам — на гардзіны,
І добра так,
І люба так
У ботах тупаць цераз залу...

Гераізацыя працы ўспрымалася тагачасным чытачом як належнае. Сёння ж гэта — паэтычны дакумент аб рабскай працы, толькі пад сацыялістычным лозунгам:

Было чутна, як людзі стараюцца вочы самкнуць...
Спяць героі мужнай працы і не бачаць зор.
І цяпер ім, мусіць, сніцца той жа самы торф.

Ды калі паэт адыходзіў ад маштабаў сусветнай рэвалюцыі, услаўлення сацыялістычных будняў, ён рабіўся паэтам вобраза, радка, дэталі. Бо глядзеў на свет вачыма сына рамесніка, вачыма чалавека, цесна звязанага з Беларуссю. Нават трамвай яму здаецца жывой істотай:

Выпаўз апошні трамвай
І спіць на хаду, нібы конь...

Толькі вока паэта, які ўвесь час думае пра вечнае, пра жыццё і смерць, магло ўбачыць:

Ціха цягнуцца калёсы,
Ды ўсё роўна мерцвяку.

Славіў рэвалюцыю, блізіў прывід, які доўга блукаў па Еўропе, а душой паэта адчуваў чорнага чалавека, як і Сяргей Ясенін. Ці быў гэты чорны чалавек з адпаведнай савецкай установы, ці спадручны лёсу, не мог адказаць паэт. Дый думкі адганяў гэтакія, бо быў членам ЦВК БССР, членам-карэспандэнтам АН БССР, рэдактарам часопіса «Штэрн». Таму і неадумная ўпэўненасць:

Можа, нехта ў мяне
Будзе ноччу страляць,
Але хіба са мною
Сустрэнецца куля?

І сустрэлася. І савецкай была. І адліта была рабочым, якога ў вершах узносіў паэт. (Памятаеце верш Мікалая Гумілёва: «Пуля, им отлитая, просвищет Над седою, вспененной Двиной, Пуля, им отлитая, отыщет Грудь мою, она пришла за мной»?) І зорка (штэрн) лёсу не памагла.

Але паэзію не забілі. Паэзія Ізі Харыка засталася. Як кожнага сапраўднага паэта Ізі Харыка трэба чытаць у арыгінале. Ды бальшавікі забівалі і паэта, і мову. Мёртвы паэт і мёртвая мова не страшныя ніякой ідэалогіі. Хала-

дзее нутро ад двух несумяшчальных слоў — мёртвая мова.

Беларускаму чытачу асабліва прыемна чытаць словы любові паэта яўрэйскага народа да Беларусі:

Я знаю цябе, Беларусь, як пальцы свае і далоні,
Апоўначы нават змагу пазнаць твае сцежкі крывыя.
І мяккі, пявучы заход, палаюча-смольны сасоннік,
Бярозы ў снежнай імжы, і рэкі, і тракты сівыя.

Гэтак можа сказаць чалавек толькі пра роднае яму. Трэба нарадзіцца на зямлі, любіць яе па-сыноўску, каб убачыць, як «Дарогай прабег маладзік...». А як гэта па-фламандску важка, па-беларуску асязальна напісана: «Дойны статак па вымя ў траве...»

Паэт Ізі Харык блізкі і свайму яўрэйскаму чытачу, якога ён чаруе непаўторным гучаннем ідыш, і беларускаму, які бачыць сваю Беларусь вачыма яўрэйскага паэта.

Паэт Ізі Харык імкнуўся зазірнуць у наступнасць. Яго турбаваў і лёс роднай мовы, і лёс паэзіі, і сваё імя. Пра гэта ў радках, па-майстэрску перакладзеных Рыгорам Бярозкіным:

Век настане такі:
усім на зайздрасць вякам,
А ні я, а ні ты — будуць іншыя там...
Ноч за ноччу мінае, дні ідуць чарадой.
Калі што застанецца, дык наш неспакой.

Калі што застанецца, дык вецер, які
Нас узносіў у будучыя вякі.

Застаўся неспакой паэта Ізі Харыка. Застаўся і вецер, які круціў ветракі спадзяванняў паэта Ізі Харыка. Засталося слова паэта Ізі Харыка, якое сваёй віртуознай вытанчанасцю і ўзнёслай важкасцю ацаляе ідыш, грэючы гарачымі вуснамі паэзіі. Засталіся мары паэта Ізі Харыка.

Мы першыя цагліны закладалі,
І кожны ў мур цаглінай лёг жывой...
Мы ўсе да болю ў сэрцы смуткавалі
Аб пары крыл мяцежных за спіной.

Мяцежныя крылы спаліла полымя рэвалюцыі, якое раздзьмухваў паэт. Анёльскія крылы бальшавікам па перакананні не належыць мець. І жывыя цагліны не сагрэлі халодны мур.

Вопыт вавілонскае вежы ўжо аднойчы быў.

Чытайце Біблію...

*1993*

## *Пастаялец нябёсаў*

Марк Шагал, як і вялікія мастакі Адраджэння, паэт. Ён хацеў пакінуць слова, бо слова трывалейшае за палатно, няхай і вячнейшае ва ўспрыманні наступных пакаленняў палатно. Слова ідзе ў неба да Бога, бо само слова ад Бога. Відаць, і Гамер пісаў палотны ці разьбярыў, але вечнасць захавала ў памяці сваёй толькі гамераўскае слова.

І ў сваіх палотнах Марк Шагал ішоў ад слова. Гэта ж слова задоўга да жывапісу малявала, як хата ідзе, як чалавек губляе галаву, як дождж ідзе, як смяецца сонца. Слова ўсё можа. Бо карані слова ў сівым паганстве, язычніцтве. Паганства ж інтэрнацыянальнае па сутнасці сваёй, хіба ў канкрэтыцы рознае. Невыпадкова з'яўляецца певень на палотнах майстра, бо гэта птушка — служка бога агню, пажару. А пажар якраз і сваціў Марку Шагалу ў першыя хвіліны з'яўлення на свет. Сваціў сімвалічна, сваціў фатальна.

Ад слова і касмічнае бачанне Марка Шагала. Гэта маленства ўспамінае: «Галава ў мяне ўжо ціха лётае па пакоі. Столь — празрыстая. Аблокі і сінія хмары ўваходзяць у хату разам з пахам поля, канюшні, дарог».

Біблія, у аўры якой спасцігаў свет Марк Шагал, дыктавала яму вобразы, давала апратку слоў фантазіі мастака. Адсюль і анёльскія крылы: «Мае цёткі, Муся, Хая і Гуча! На анёльскіх крылах лёталі яны па базары — над кошыкамі ягад, вінаграду, груш...»

Адчуванне свайго роду ў вяках, у зямным космасе таксама ад Боскага слова. «А Пасха! ні маца, ні хрэн не хвалявалі мяне гэтак, як Агада і чырвонае ў поўных шклянках віно. Мне хацелася апаражніць усе шклянкі! Нельга, немагчыма. Віно ў бацькавай шклянцы часамі здавалася чырванейшым. Яно зіхцела цёмна-фіялетавым каралеўскім пурпурам, святлом усіх гета̀, наканаваных майму народу, ззяннем спякотнай пустэльні, пройдзенае ў гэтулькіх пакутах...»

Здаецца мне, што слова пасылаў Марк Шагал у перапыты, у выпыты і на зямлю, і на неба, а следам ішлі фарбы. Фэст фарбаў, фэст персанажаў. І слова слухалася мастака, слугавала яму. «На самой справе, такой розніцы — паветра ты выдыхаеш альбо слова»,— прызнаваўся падданец слова і фарбы.

Ад будучых войнаў, ліхалеццяў, пажараў пасяляў абачліва сваіх людзей, коней, козачак мастак на небе. «Калі быў я яшчэ хлапчуком, мне ўвесь час здавалася, што нехта за намі гоніцца. Вось чаму персанажы мае сягнулі ў неба задоўга да касманаўтаў...»

Цяпер ведаем мы, што з космасу ўсё відаць на зямлі, да драбніц. А́ Марк Шагал яшчэ ў 1944 годзе пісаў: «Дзесяткі гадоў майго лунання ў нябёсах добра паказалі мне, што адбываецца на зямлі...»

Пастаялец нябёсаў Марк Шагал зноў паяднаў разлучаныя вякамі гук і колер, паяднаў двухкрыла, па-анёльску.

У сталым сваім веку маэстра зазначыў: «Калі ж казаць пра жывапіс, дык я вельмі шмат раздумваў пра фарбу, якая завецца любоў».

Словам мацаваў, доўжыў жыццё фарбы, якой маляваў аблічча неўміручасці. Сваё аблічча.

І спадзяваўся: «...а мне будзе здавацца, што ўсе жыхары Віцебска і ваколляў глядзяць здалёк на тое, што я намаляваў за сваё жыццё».

І глядзіць свет і Сусвет, і пазнае сябе, і дзякуе вялікаму Марку Шагалу.

*1992*

# *Удзельнік дзеяў і летапісец*

## *Жыццё пачынайце ізноўку любіць!*

У нашае крытыцы на добры лад можна ўвесці гэтакі тэрмін як «панчанкаўства», а ў філалагічных установах — курс «панчанкалогіі», бо Пімен Панчанка законна хрэстаматыйны паэт. А як пераконваемся з прыкладаў класікі, хрэстаматыйнасць — ганаровае месца, покуць у літаратуры. І тут, як і ў жыцці, на пачатку застолля слухаюць тых і ўздаюць пашану тым, хто на куце, а пад канец застолля шум і гамана сама па сабе, а на покуці, на куце ганаровы сам па сабе.

На шчасце, хрэстаматыйнасць Пімена Панчанкі не звычная, не традыцыйная. Ён хрэстаматыйны сваім майстэрствам, сваёй ранняй сталасцю, сваёй неабходнасцю ў роднай літаратуры. Бо і ў побыце, у штодзённасці не любіць сядзець на покуцях, у прэзідыумах, калі перавесці гэтае паняцце ў афіцыйна-пратакольны рад. Як ні парадаксальна гучыць, Пімен Панчанка ніколі не ішоў у нагу з часам, у нагу з падзеямі, паэт увесь час ішоў і ідзе толькі на чырвонае святло, зялёнае пакідае ён для сваіх абачлівых і ўдачлівых у жыццёвых турботах калег, якія

> Ў настроі мемуарыстым
> Глядзяць на ўласны пуп
> І на запасы круп.

Як і належыць сапраўднаму паэту, Пімен Панчанка ідзе ўперадзе часу, але ідзе не запабежліва перад часам, не перадкуючы перад ім. Бо звык з першых сваіх вершаў у самыя неспрыяльныя дні для паэзіі глядзець наперад, прадбачыць наступнасць.

Гэта франтавыя вершы Пімена Панчанкі рыхтавалі, рыхлавалі глебу наступнікам, якія пасля вайны сказалі жорсткае слова праўды пра вайну. Васіль Быкаў і Аляксей Пысін мелі добрае апірышча ў ваеннай лірыцы ўтрапёнага і праўдасловага паэта.

Пад час хрушчоўскае адлігі Пімен Панчанка адзін з першых у савецкай паэзіі напісаў самы шчыры і самы балючы верш — сваіх «Прыстасаванцаў». Не чакаючы, калі астатнія пацягне на адкрытасць, на шчырасць, на самаабвінавачванне і самаачышчэнне. І сёння варта нагадаць, што не ружы сыпанулі пад ногі паэту і тадышнія кіраўнікі, і крытыкі. Але затое як успрымала моладзь кожнае слова свайго ўлюбёнца!

Задоўга да афіцыйнай абароны прыроды, якраз абароны, а не ахоўы, абароны ад чалавека бяздумнага, бездухоўнага, Пімен Панчанка пісаў «Паэму майго лесу», падкрэслена называў зборнікі «Крык сойкі», «Дзе начуе жаўранак».

У дні рашучых зрухаў у нашым грамадстве Пімен Панчанка безабаронна спавядаўся свайму народу, свайму чытачу:

Я рос бяздумным дурнем, як і ўсе,
І славіў росквіт,
Светлы век машынны.
Глядзеў з пагардай на каня ў аўсе,
На воз бацькоўскі свежай канюшыны.

Я цэрквы закрываў,
Я абразы паліў,
Сялянскую маёмасць перапісваў.
І нюхалі нішчымныя палі
Кароў галодных
Родныя мне пысы...

Не ад імя народа піша паэт, а на сябе віну іншых бярэ. Ён пісаў пра вайну не па матэрыялах паведамленняў Саўінфармбюро, ён

...часта быў у ротах між салдатаў
І зрэдку ў наступ з імі разам пёр.

Таму гэта не смеласць, выведаная і ўзважаная, не смеласць пасля, калі ён кажа пра сяброў «часоў вайны»:

Яны жылі ў маскоўскіх нумарах,
Пілі гарэлку, трэскалі тушонку.
Калі іх працінаў за блізкіх страх,
Дык прыязджалі суцяшаць іх жонкі.

І хай мне даруе сам паэт і шаноўны чытач, калі б і даваць вучоную ступень Пімену Панчанку, дык можна смела надаць годнасць як не доктара, дык кандыдата «бюракратазнаўства». Дужа ж добра ведае гэтую катэгорыю людзей, сваіх «герояў», як дзядуля Крылоў ведаў сваіх.

Таму так заклапочана-папераджальна гучаць радкі:

Пра паскарэнне, якасць —
Шмат размоў.
І пішуцца запозненыя п'есы...
Ды нехта ўсё ж
Баіцца злыдняў кратаць,
Гросмайстраў ашуканства, пахвальбы.
Сталы перастаўляюць хмурыя ілбы —
Чыноўніцкі прагрэс для бюракратаў.
З іх кожны дбае толькі пра сябе,
Па-новаму ўжо хлусяць...

Гэтае маё доўгае цытаванне з твора, які называецца «Паэма сораму і гневу». І сорам свой, і гнеў свой — яны панчанкаўскія. Паэт ніколі не адчуваў сябе на пастаменце непахіснасці аўтарытэту, у бронзе недатыкальнасці для чытачоў і крытыкі. За кожным словам паэта стаіць і ўзрушэнне думкі, і факт праўды. Ён намацвае словам балевыя пункты, ён, тонкі лірык, задушэўны і спагадлівы чалавек, раздражняе, юшыць, каб болем боль лячыўся, як агонь агнём. Заўсёды паэзія адрасавалася ў першую чаргу моладзі, на моладзі правяралася і правяраецца неабходнасць паэзіі, яе адгуклівасць на жыццё, яе надзённасць духоўная. Пімен Панчанка не замучвае маладых натацыямі, але і не ідзе, што называецца, на павадку ў моладзі, не падладжваецца пад густ. Наадварот, наўмысна задзіраецца, гладзіць супроць шэрсці, цвяліць:

Яны чытаць не хочуць вершы Броўкі,
Ім хочацца з Высоцкім ачмурэць.
Сама кладзецца на траву сяброўка,
Чаму, глынуўшы, з ёй не падурэць.

Паэт разлічыў, што малады адразу ж кінецца абараняць свайго куміра Высоцкага (сам Пімен Панчанка ўсё сваё творчае жыццё, усю сваю рэдактарскую дзейнасць якраз падтрымліваў усё новае, непадобнае і да Высоцкага і да мадэрна ў мастацтве ставіўся і ставіцца станоўча, зацікаўлена), а заадно і спыніцца, затрымаецца сваёй увагай на праблемах, якія ставіць знакаміты майстра. Як трэба, дык паэт, выкарыстаўшы памер вядомай песні, абураецца:

Глядзіць на тых з пагардаю,
Хто робіць ля станкоў.
Разбэшчаная гвардыя
Нахрапістых бацькоў.

Яблык ад яблыні недалёка коціцца. Упікаючы моладзь, паэт не бярэ пад абарону старэйшых, не павучае рытарычна.

Вы — юныя,
Разгубленыя ў свеце,
Загубленыя сферай і маной.
Вы богам недагледжаныя дзеці
І вашымі бацькамі.
Ды і мной.

У чым уздзеянне публіцыстычных вершаў Пімена Панчанкі? У тым, што ён не з амбона, не з трыбуны, не збоку, не звысоку павучае, а пераводзіць усё на сябе, прапускае ўсё праз сваё сэрца. З паэтам праз усё жыццё ідзе боль, бо «лепшых з лепшых на фронце павыбілі», ён хоча, каб маладая змена замяніла іх, ён будзіць грамадзянскую і нацыянальную свядомасць маладой змены.

Паэзія Пімена Панчанкі са смеху і радасці, з гневу і смутку, з адчаю і спагады, з нянавісці і любові. Ягонай паэзіі баліць па-чалавечы.

Навучылі не рабіць —
Хлусіць і красці,
Дзеці ў школу з іншай моваю бягуць.

Гнеў паэта даходзіць да адчаю:

Я хацеў, нашчадкі, вас праклясці,

І тут жа нечакана:

Ды люблю сваю зямлю... і не магу.

І зноў неспакой, які не дае адхлання, бунт і развага, нізрынанне ўсяго і ўзвядзенне сцен надзеі, а галоўнае — няшчаднасць, бязлітаснасць да сябе самога:

Я не занудны прапаведнік,
Сваю я мучаю душу.
Я сам сабе служу абедню,
Сваю апошнюю імшу...
. . . . . . . . . .
Схіляю я ў роздуме
Зноў галаву:
Няўжо не ў сваю
Я эпоху жыву?

І гэта пытаецца франтавік, летапісец усіх нашых светлых і змрочных дзён, чалавек свайго часу, які ўступае ў процiборства з ім, абараняючы годнасць чалавека, чалавека працы і думкі. (Амаль так казаў Сяргей Ясенін: «Я ў родным краі, як іншакраінец».) Без гэтакіх пытанняў, без суровага стаўлення да сябе самога, да сваёй творчасці не было б

Пімена Панчанкі, якога любяць, якога чытаюць і яшчэ доўга чытаць будуць. Гэта не пастава, не фразёрства:

Мы гінем ад жорсткасці,
Пыхі і сквапнасці,
Таму ў нашых вершах
Так мала прывабнасці.
Мы гінем ад прагнасці,
Лютасці, зайздрасці,
Таму ў нашых вершах
Ні праўды, ні радасці,
Патрэбна майстэрства сваё
Асядлаць,
А нас прывучаюць
Штодня засядаць.

І Пімен Панчанка стараецца асядлаць сваё майстэрства, адмовіцца ад акрас, ад закалыхлівай аднастайнасці рытму, правільнага і выверанага. Верш ягоны робіцца нервовым. Усе навучыліся гучна і дакладна рыфмаваць, бяздушнасць і пустэчу хаваць за густым туманом эпітэтаў, метафар. І Пімен Панчанка, які лічыцца папраўдзе неперараўзыдзеным майстрам нечаканай рыфмы (каб не думалі, што «развучыўся», як бы мімаходзь са шчодрай жмені кідае: «ды якасці — ягадцы», «пякней—упікне», «макі—мяккі», «задавак—газават», «сярпы—свярбіць»), пачынае пісаць «Гістарычны верлібр (амаль казка)», бо занадта густая інфармацыя, бо не хочацца думкам глыбокім прывешваць шаргункі-шарахаўкі рыфмаў:

Дастаеўскі напісаў:
«Без гэтай веры ў сябе
Не ўстаяў бы, напрыклад,
На працягу вякоў
Беларускі народ
І не выратаваў бы сябе ніколі».
Рэдактары рванулiся
Уставіць дадатак:
«Пры дапамозе...»
Але выдавецтва «Наука»
У Ленінградзе
Не дазволіла псаваць
Праўдзівы тэкст Дастаеўскага...

Гэта палемічны, выклічны верлібр, тут рыфмы і дакладны рытм толькі б сіропілі думкі.

А вось прыклад выключна беларускага верлібра, панчанкаўскага:

І толькі калі мы працуем са смакам —
Мы не губляем часу,
І толькі калі мы з вадою і сонцам —

Мы не губляем часу.
І толькі калі мы слухаем вецер,
Які шуміць у лістве зялёнай,—
Мы не губляем часу.
І толькі калі мы гуляем з дзецьмі,—
Мы не губляем часу.
І толькі калі мы пішам да маці,—
Мы не губляем часу.

Стыхійна ўварваўшыйся «вецер — з дзецьмі», перагукліва пастаўленыя ў радках «губляем — гуляем» толькі каркасна змацавалі перыяд.

А ў асобных выпадках папевачна-райковая форма прыдаецца:

Чаму зад
Бюракратычны
Душыць лад
Дэмакратычны.

Пімен Панчанка на ўсіх этапах нашага развіцця, нашага станаўлення, сталення; змены і перамены ўмеў прадбачыць, умеў тактоўна перасцерагчы ад перагібаў, ад памылак, каб там, дзе сякуць лес, ляцела меней трэсак. Прыгадайце світанак касмічнай эры (наўмысна бяру газетны тэрмін), не звон, не «ўра́канне», а найвышэйшыя ў сваім лірызме «Белыя яблыні». А адразу пасляваенны «Іранскі дзённік» вучыў, як пісаць пра замежжа. Не ўздыхаць па доме, не ўсеагульна ганіць і адмаўляць, а глядзець, бачыць, заўважаць, думаць і любіць!

Урокі Пімена Панчанкі — урокі праўды і мужнасці, шчырасці і любові, яны ўракаюць і доўга будуць уракаць кожнае жывое сэрца.

Жаўранка песня
У небе дрыжыць...
О божа мілы,
Як добра жыць!

Паэт радуецца жыццю і баіцца за яго, робіць усё, каб яно доўжылася. Гэта не заклік, гэта парада і просьба:

Жыццё пачынайце ізноўку любіць!

*1987*

## *Паслядоўнік*

Пісаць пра паэта, казаць пра паэта, тлумачыць паэта — цяжка, рызыкоўна, амаль немагчыма. Асабліва калі ты яго ведаеш са школьнай парты, калі радкі паэта ўваходзілі ў тваю свядомасць разам з роднай мовай, з матчынай мовай, калі ты іх чакаў, як пасля вайны хлеба, надзённага ў абсалютна канкрэтным значэнні, калі ты пераймаў паэтавы радкі, сам нешта спрабуючы лапатаць у рыфму.

Як гэта ні сумнавата, а трэба агаварыцца, што ў Беларусі, хоць народ наш адзін з найпаэтычнейшых народаў у славянскім свеце, няма ўсеагульнага і нават сярэдневыбарнага захаплення паэзіяй, няма паэтаманіі, калі можна ўжыць гэтакі тэрмін. Іншым народам, сваім братам, сваім суседзям даём класікаў, куміраў, даём сюжэты, тэмы, вобразы, светаўспрыманне жыцця паэтычнае, а сваіх, свойскіх, хатніх лічым як нешта абавязкова наяўнае, як бор, як возера, як раку. Хоць, калі разабрацца, без гэтага наяўнага, звычнага і жыццё наша бяднейшае было б. І тым болей пры тыпова беларускім стаўленні да паэзіі, да паэтаў прыемна зазначыць, што пасля Янкі Купалы Пімен Панчанка самы прызнаны, самы неабходны паэт.

Чаму так, адказваць і аргументаваць давялося б доўга, бо надта ж разнастайны, надта ж шматгранны талент народнага паэта. Але калі казаць карацей, дык Пімен Панчанка валодае адной самай адметнай і самай неад'емнай рысай, якая вершатворцу робіць паэтам з вялікай літары,— ён самы адкрыты, самы шчыры, самы безабаронны рыцар слова, у якога яно са справай не размінаецца.

Пімен Панчанка ніколі не стараўся прыхарошыць сябе, каб падабацца чытачу, ён з першых радкоў сваіх яшчэ да Вялікай Айчыннай вайны, на палях якой ён быў радавым ратнікам, а не штабным разумнікам, пачаў з чытачом шчырую гутарку, споведзь. І напярэдадні свайго сямідзесяцігоддзя як бы мімаходзь прызнаўся:

> Я прачытаў сем тысяч кніжак,
> Гартаў падручнікаў гару.
> Хоць ад навукі неяк выжыў,
> І ўсё ж дурным, відаць, памру...
>
> І змрок, і ноч, зара і ранне —
> Пазнаў жыцця я спелы смак,
> Ды ўсё ж мяне гнятуць пытанні:
> Чаму?
> Чаго?
> Навошта?
> Як?

У двух слупках з верша «Здзіўленне» (з кнігі «І вера, і вернасць, і вечнасць») Пімен Панчанка і ранейшы, і новы. Не дзеля прыгожага слоўка сказана пра «сем тысяч кніжак». Паэт чытае шмат, чытае ўсё — ад сусветнай класікі да самых навейшых публікацый у перыёдыцы. Яго цікавіць літаральна ўсё — гісторыя і мастацтва, праблемы навукі і эканомікі, побыт і экалогія. І калі звычайна мастакі малююць літаратара з кніжкай у руках, то Пімена Панчанку трэба маляваць абкладзенага кнігамі, забарыкадзіраванага тамамі.

Асабліва любіць Пімен Панчанка адкрываць новыя імёны, тут у яго даўні вопыт, яшчэ з часоў рэдагавання часопіса «Маладосць». Пра гэта пасля прачула ўспомніць Міхась Стральцоў у сваім эсэ пра Пімена Панчанку «Разам з людзьмі»: «І ці думалася мне..., што... буду я сядзець супрацоўнікам у «Маладосці», дзе рэдактарам сам Пімен Панчанка, што ў любы час дня можа зайсці ён у рэдакцыйны пакойчык.., сесці на старую канапку і парывіста, и таму збіваючыся на слове, з непаўторна расчуленай усмешкай пачаць гаворку пра апошнюю сваю паездку, пра кнігу ці рукапіс, які толькі што прачытаў. Розных бачыў я пасля рэдактараў, а такога зацікаўленага, па-сапраўднаму дэмакратычнага з супрацоўнікамі і аўтарамі, паводле вялікага рахунку прынцыповага — бадай, не сустракаў. Сустракаў хіба «панчанкаўскае» ў іншых, і не адзін я меў на ўвазе пры ацэнцы тых ці іншых жыццёвых абставін, літаратурных з'яў эталон ягонай чалавечай, рэдактарскай і паэтычнай асобы».

А Васіль Быкаў у прадмове да Збору твораў народнага паэта ў 1981 годзе пісаў: «У якасці галоўнага рэдактара ён меў даволі рэдкую па тым часе (а па цяперашнім і тым болей) завядзёнку першым чытаць аўтарскія рукапісы і тым вызначаць іхні лёс у часопісе. З яго рэдактарскага «багаславення» ў «Маладосці» з найменшымі стратамі былі надрукаваны шмат якія з аповесцей аўтара гэтых радкоў». Варта адразу растлумачыць, што Пімен Панчанка надрукаваў у «Маладосці» самыя спрэчныя і самыя смелыя творы Васіля Быкава, падзяліўшы з аўтарам і чытацкую прыхільнасць, а самае галоўнае — аглабельную тагачасную крытыку. Васіль Быкаў заўсёды прыгадвае рэдактара Пімена Панчанку тым жа словам удзячнасці, як і рэдактара Аляксандра Твардоўскага.

Так пра Пімена Панчанку кажуць свае родныя, маладзейшыя і амаль аднагодкі, паплечнікі, калегі. Але што

асабліва ўсцешна — самай высокай думкі пра асобу паэта, пра ягоную паэзію і прадстаўнікі іншых народаў. Нагадаю, што з дарог вайны, з дарог пабрацімства сябрамі і прыхільнікамі былі Аляксандр Фадзееў і Аляксандр Твардоўскі, Аляксандр Пракоф'еў і Міхаіл Святлоў, Ян Судрабкалн і Кайсын Кулieў, Барыс Слуцкі і Ояр Вацыецiс. Спіс гэты можна працягваць і працягваць. Гэта была не застольна-вітальная павага, а творчая, зацікаўленая. Паэзію Пімена Панчанкі ведалі з першых яе крокаў далёка па ўсёй краіне.

Хочацца прывесці некалькі радкоў народнай паэтэсы Латвіі Мірдзы Кемпе з паштоўкі з Рыгі ад 19 верасня 1959 года: «Дарагі Пімен! Ужо ў самалёце я пачала чытаць твае вершы, паліваючы іх слязамі,— у іх жыве твая Беларусь. Твае вершы такія ж, як ты сам: у іх гучыць твая глыбокая сардэчнасць, душэўная мяккасць, і разам з тым ёсць у іх нешта непахіснае, таксама твая тонкая іронія, своеасаблівы сонечны гумар. Так, гэта Пімен Панчанка!.. Беларуская Мірдза». Такая ўлада паэзіі Пімена Панчанкі, такая ўлада ягонай асобы, што яна «збеларушвае» творцу іншай рэспублікі, іншай мовы.

Пімен Панчанка — летапісец вайны, летапісец пасляваенных нашых будняў, наш сучаснік — ніколі не быў проста староннім сузіральнікам, алімпійцам, што з вышыні глядзіць на грэшную зямлю. Яго самога, ягоную паэзію можна хіба параўнаць з громаадводам: усе маланкі, усе перуны — ягоныя. Пімен Панчанка як бы ўзначальвае ў нашай літаратуры, у нашай культуры службу трывогі, службу прадчування небяспекі, яго хвалюе і знішчэнне прыроды, і заняпад роднай мовы, лёс расінкі і лёс зоркі.

Апоўначы я выйшаў сёння
Глядзець у зорнае прадонне,—
Яно лілося мне ў душу...
Ратуйце зоркі! —
Галашу.
...Ратуйце, людзі, ўсё жывое,
Ратуйце ўласную душу.

У свядомасці не аднаго пакалення чытачоў і прыхільнікаў паэзіі Пімен Панчанка франтавік, выдатны паэт. Але мы часта забываем, што напярэдадні Вялікай Айчыннай ён настаўнічаў, вучыў дзяцей і выхаваў у сабе назаўсёды жаданне вучыцца, прагу да ведаў. І асаблівая ўвага, асаблівая зацікаўленасць і патрабавальная чуласць у паэта да маладога пакалення, да нашай змены, да наступнікаў.

І гэта не проста прыгожыя вобразы з кнігі «Лясныя воблакі»:

Тут каштаны — ростам з аксельратаў,
у бярозак светлы — школьны ўзрост.

Клопат пра нашчадкаў, роздум над лёсам маладых — сталы стан душы паэта. Радасць і смутак, досціп і папярэджанне ў радках Пімена Панчанкі гучаць нязмушана, без маралізатарства, без настаўленняў, якіх так шмат чуе моладзь, што перастае рэагаваць на іх.

Дзяцей жа гадуем мы добрых:
Усе на маторах,
Ці то дысертацыі пішуць,
Ці спяць у канторах.

Мы вечна спяшым:
Мы багата балот асушылі,
Спрадвечныя багны
Каналамі ўсюды прашылі.

І тут надышло ў нас
І птушак, і дрэў абяДненне,
І тут пачалося
Палескіх балот абвадненне.

Мы радасць і гора
З вялікіх карцоў запіваем.
Мы родную мову
Патроху ўжо ўсе забываем...

Паэт нібыта мімаходзь ставіць пытанні, чытачу даецца магчымасць самому падумаць, задумацца, адказаць сабе ж.

Ад нялёгкіх думак, ад злавесных прывідаў новых войнаў паэтавы зрок вяртаецца да надзеі, да працягу жыцця:

Век жыві і кахай,
І на хлеб зарабляй,
І нашчадкаў гадуй
Самай лепшай пароды...
Дзіцяня,
Кацяня,
Казляня,
Жарабя —
Залатыя шэдэўры прыроды.

Здаецца, у сшытак пашаны і любові, у сшытак памяці і напаміну дыктуе паэт сказы, падкрэсліваючы спрадвечна славянскае паўнагалосае гучанне роднай беларускай мовы.

Так, Пімен Панчанка заўсёды ўяўляецца не аднаму пакаленню беларускіх паэтаў настаўнікам, які вучыць дабрыні і гневу, даверу і веры. Як і належыць сапраўднаму настаўніку, ён вучыць асабістым прыкладам, сваім умен-

нем, сваёй пяшчотай, сваёй нянавісцю. Але гэта настолькі арыгінальны і непаўторны настаўнік, што немагчыма ні паўтараць яго, ні пераймаць яго, трэба толькі браць прыклад з яго, вучыцца ў яго прынцыповасці і адкрытасці, сумленнасці і шчодрасці, наколькі гэта можна.

Перад Піменам Панчанкам заўсёды адчуваеш сябе вучнем, заўсёды з багавейнасцю глядзіш на яго — усмешлівага і прытоена-насмешлівага, слухаеш яго вонкава спакойнага і ўнутрана апантана-нечаканага. Ён усё чытае, ён усё ведае. Раптам запытае, ці чытаў Дастаеўскага. Адкажаш, што даўнавата. Тады мудры старэйшы прачытае табе пра беларусаў выказванне славутага нашага земляка, падкажа, што гэта ў 20-м томе апошняга выдання Збору твораў Дастаеўскага на 219-й старонцы.

Альбо нагадае, што адкрыты славянскі верш выклікае адкрытыя пачуцці, а асацыятыўны — алгебраічныя задачы.

Ці з усмешкай раскажа пра тое, як стараецца ў свайго даўняга сябра знайсці нешта добрае, каб пахваліць пры сустрэчы. І даводзіцца прадзірацца праз абавязковыя скрыпкі, зоры, сярпы, якія сябра і сам забыўся, калі бачыў у натуры.

Паэт дужа добра адчувае слова, у слове цэніць ягоную абавязковасць, канкрэтнасць. Таму, напрыклад, нязлосна цвеліцца з радка другога свайго сябра: «Тупым калом», бо не можа быць кол тупы. «Учора перачытаў «Падзенне» Камю, «Вікторыю» і «Пана». Паэзію мала хто разумее, нават любіць. Чыноўнікі не любяць. З-за неразумення паэзіі быў пры жыцці неацэнены Пысін».

«Мне здаецца, што не ў сваім часе жыву, перажыў сябе — ні траў маіх, ні лясоў, грыбы гляджу ў даведніках «Грыбы нашых лясоў». Не вучаць мову, не вучаць мінулае, таму ім ужо незразумелыя ні Чорны, ні Колас».

«Пачынаю часопіс з артыкулаў, пасля прозу і потым вершы, бо іх мала».

«Можна сказаць: памідор, як сонца, а нельга — сонца, як памідор».

Успамінаючы шматлікія паездкі за мяжу, паэт заўсёды вясёла апавядае, як ён у Англіі ў багатай гасподзе пагутарыў з англічанінам. Праходзіліся па прысадах ружаў. Англічанін прамовіў: «*Nice*», і Пімен Панчанка выгукнуў: «*Nice!*» Раскланяліся і разышліся, задаволеныя гутаркай.

Прыводжу ўрыўкі думак і развагі паэта, каб крыху пака-

заць лабараторыю творчай працы, паўсядзённага клопату. Потым пэўныя развагі, выказванні пазнаваў я ў паасобных радках майстра.

Памятаюцца і зусім нечакана вясёлыя выпадкі сустрэч і гутарак, чыста панчанкаўскія пытанні, жарты. Заходжу аднойчы ў кватэру да Пімена Емяльянавіча па рэдакцыйных клопатах. Гаспадар, гасцінна сустрэўшы, адвёў унучку Аксінку ў другі пакой, зачыніў дзверы і таямніча-кепліва пытае: «Ці маеш 2 капейкі?» Вачыма пытаю, за што? «За рыфму: акупацыя — акапацца». Так мне са школы засела панчанкаўская рыфма, што ў сваім вершы і знайшоў я тапор пад лаваю.

Вясной наведаў я ў бальніцы Пімена Емяльянавіча, а ён, хітравата жмурачыся, паказвае на галінкі з жывымі вузельчыкамі: «Вось ты чалавек з ляснога краю, скажы, дзе тут вярба, а дзе лаза?» Прыблізна адказаў, а ён палагаднела: «Забываемся патроху на ўсё жывое».

І ў жыцці, і ў паэзіі Пімен Панчанка вядзе дыялог з часам, з людзьмі, з уласным сумленнем сурова, пакутліва, балюча:

Гады наваліліся, нервы патрэпаны,
І нейчая злосць б'е балюча пад рэбры.
І будзеш ты думаць: каму ты патрэбны?
І будзеш ты думаць: ці ўсе нам патрэбны?

Нідзе ні агню, ні зарніцы не бачу.
Відаць, цішыню я не перакрычу.
І што вам з таго, што я часам заплачу,
І што вам з таго, што я зарагачу.

А моладзь да нас, франтавых, не падобна.
А як ім духоўнасць уліць у душу?
А можа, я сам — дыназаўр дапатопны —
Не вартыя моладзі вершы пішу?

Толькі жывая душа, толькі сын свайго часу і свайго народа можа так пытацца, сумленна працуючы ў самым цяжкім цэху паэзіі.

Пімен Панчанка спалучыў у сабе забытыя з часам якасці, якія спаконвечна давалі права чалавеку звацца паэтам: сумленнасць, дапытлівасць, змаганне са злом у любых абліччах. Толькі верачы ў вечнасць, можна спадзявацца на ўвагу вечнасці.

І толькі вера ў сваю радзіму
Сцвярджае:
будзе жыць род людзей!
Гляджу з надзеяй на свет наш дзіўны,
На сонца, травы і на дзяцей.

Надзея дае моц і трываласць слову Пімена Панчанкі, стараннага вучня жыцця, настаўніка духу, паслядоўніка маці, які зноў і зноў задумваецца:

> Мо для таго і старасць нам даецца,
> Каб матчыну навуку паўтарыць:
> Някідкае — прывабным зноў здаецца,
> Звычайнае — жывым агнём гарыць.
> І цягнецца стамлёная душа
> Да кожнага малога мураша.
> Як хораша быць маці паслядоўнікам!

*1987*

## *Будуць!*

Купалаўскі ліпень, панчанкаўскі жнівень. Адзін за адным, адзін з адным. Пімен Панчанка ішоў следам за вялікім Янкам Купалам. Як спадчыннік, як пераемнік традыцый бацькі нацыі беларускае. Лёс быў літасцівы да Пімена Панчанкі, лёс велікадушна дазволіў яму чуць, бачыць Янку Купалу, адчуць увагу пачынальніка новае беларускае літаратуры. Дазволіўшы сабе пэўную высакапышнасць фразы, можна сказаць, што паэт Пімен Панчанка нарадзіўся пад сузор'ем Янкі Купалы, а гэта значыць, што вырачаны на вечную любоў да беларушчыны, на любоў пакутную, самаахвярную.

Пімен Панчанка — народны паэт любоўю і пашанай народнай, верай народнай у свайго паэта як заступніка, як няўрымсніка, як непахісніка. Народны і сваёй самааддана сцю народу, рашучасцю сказаць і слова замілавання, і слова горкае праўды.

І натуральна зазірнуць у «Беларускі народны каляндар», складзены нястомным працаўнікам на ніве адраджэння беларускага, крывіцкага духу Уладзімірам Васілевічам. Што ж кажа народны каляндар пра дзень нараджэння народнага паэта? Чытаем: «Гаспадарчыя работы тым часам змянілі адна адну, і селянін ужо выпраўляўся малоць новае збожжа: «На Лаўрына спяшай да млына». Выслоўе лёгка, ужыўшы асацыятыўную рыфму, пачуць і так: «На Пімена спяшай да млына». Бо жнівень — месяц ураджаю. І творчага. Сам жа паэт тлумачыў паходжанне свайго імя ў вершы. Пімен па-грэцку — пастух. І звычайны пастух, і пастыр духоўны. Бо сапраўдны паэт і ёсць пастыр душаў людскіх, і пастух родных слоў. Паства вялікая!

І пасвіць Пімен Панчанка беларускае слова яшчэ з перадваенных гадоў. І статак у яго капрызлівы, і сам пастух характар мае круты. Панчанкаўскі статак увесь час наравіў залезці ў шкоду, зрабіць патраву на агароджаных калючымі дратамі палетках прасаветызаванай ідэалогіі.

Народны паэт Беларусі, лаўрэат Дзяржаўных прэмій Беларусі і былога Саюза, дэпутат Вярхоўнага Савета рэспублікі не аднаго склікання, сталы аўтар хрэстаматый і анталогій. Усё гэта Пімен Панчанка.

На першы позірк, што называецца, пясняр культу і застою, аблашчаны партыяй і ўрадам. Але толькі на першы позірк. Не памылюся, калі скажу, што сумнай славы Галоўліт са страхам чакаў кожнае новае нізкі паэта, кожнае новае кнігі. Лес алоўкаў і вёдры пасты для шарыкавых ручак звялі чэкісцка-пільныя галоўлітчыкі, забараняючы, правячы, крэслячы, рэжучы па жывым целе паэзіі. Неяк аднойчы ў самы паўдзён брэжнеўшчыны Пімен Панчанка амаль у адчаі казаў, што ў яго назбіраўся важкі том вершаў, забароненых савецкай цэнзурай. Гэта пішу не ў апраўданне сумлення паэзіі Пімена Панчанкі, яно крынічна-чыстае, проста для даведкі маладзейшай змене, якая ўсё і ўсіх адмаўляе.

Радок любімага народам паэта прабіваўся зялёным трыпутнікам з-пад плітаў сталінскага сацрэалізму, з-пад плітаў зашоранай цэнзуры, з-пад свінцовых чаравікаў ідэолагаў ад райкома да ЦК. І заставаўся панчанкаўскім, а гэта значыць бескампрамісным і задзірыстым, непаўторным і няскораным, наватарскім і класічным.

Сапраўднасць паэта і таленту ягонага пазнаецца на крутых паваротах часу. Варта толькі нагадаць пра некаторыя павароты нашае гісторыі, селекціраванай бальшавіцкім рэжымам, каб пераканацца яшчэ і яшчэ ў сапраўднай непаўторнасці паэзіі Пімена Панчанкі.

Перадвайна. Аддаючы вымушаную даніну часу, паэт больш увагі ўдзяляе вечнаму ў жыцці і зямному, блізкаму да нябёсаў, бачачы, як шчупак у затоне ломіць аер, як садоўнік беліць ногі вішням, як вогнішчамі палаюць восеньскія сады. І ва ўсім — адчуванне трывогі, навалы, пажару.

Вайна. Самыя шчырыя, самыя праўдзівыя, самыя, кажучы па-вайсковаму, выбуховыя і разрыўныя ў нашай паэзіі вершы — вершы Пімена Панчанкі. І як біла выжлаватая крытыка за адзін толькі радок, якім пачынаўся верш: «У мяне не забілі нікога — ні маці, ні жонкі, ні брата». Патрабавалася простая логіка: у мяне забілі — я заб'ю. Па

Старым запавеце: вока за вока... Зусім не па-савецку выглядаў герой з аднайменнага верша. Верш знаёмы ўсім, а ўтрымацца цяжка, каб не працытаваць хоць кавалачак:

А ён свае косці з іржавых
калючак
Сваімі рукамі без стогну аддзёр,
Зваліўся на травы, і стала
балюча
І травам, і росам, і ветрам
гаючым,
Што прыляцелі з валдайскіх азёр.

Можна пісаць цэлае даследаванне толькі пра дзве літары: *р* і *л*. У іх — ржавасць, рыданне, раны, роспач і ласка, літасць, лютасць.

А пра непераможнасць жыцця, пра жывучасць побыту, пра знявагу смерці ў «Артабстрэле»:

Раптам попел і цэгла
варухнуліся, чхнулі, усталі.
Дзіўным голасам чалавечым
у мяне запыталі:
«Дай, браток, закурыць.
Ёсць тытунь — будзем жыць...»

І спаконна беларускае веданне сваёй геаграфіі і гісторыі. Невынішчальна геннае пачуццё ўсяго беларускага выказаў паэт і ў 1942 годзе ў вершы, які скідвалі самалёты лістоўкаю на акупаваную Беларусь, «Байцу, які першы ступіў на беларускую зямлю»:

Ідзі, баец, ідзі, наш сокал ясны,
Цябе чакаюць Мінск і Беласток.

Менавіта Беласток. Падкрэсліў: Беласток — беларускі горад. Як бы адчуў, што пасля вайны «бацька ўсіх народаў» будзе памінаць сваіх дзядоў чужымі клёцкамі, адкроіўшы ад Беларусі Беласточчыну, нават Белавежу падзеліць.

У год Перамогі ўспомніць Пімен Панчанка і старажытную сталіцу нашую ў далёкім Іране:

І гэты пах тубыльны
Злуе байца..
Нясе
Яго ўспамін пад Вільню,
Дзе травы у расе,

Дзе хвоі над крыніцай
Лагодна так гудуць,
Дзе з малаком чарніцы
Увечары ядуць.

мне ў спадчыну хоць старая-перастарая з бярвення матчына хата? Вось бы дзе мне, напэўна, пісалася добра! Ды нічога няма. Каменя на камені. А як хочацца ў Беларусь!..»

Туга па Беларусі жывіла паэта, з Беларуссю гаварыў Уладзімір Лісіцын па-беларуску, стараючыся не забыць ніводнага слова, ніводнай інтанацыі. Таму такія беларускія вершы, такое беларускае бачанне свету, такая беларуская плынь лісіцынскага радка.

Трагічна пачыналася жыццё, трагічна і заўчасна перапынілася. Але затое жыццё паэзіі Уладзіміра Лісіцына працягваецца. Паэт жыў у беларускім слове, жыў беларускім словам, і беларускае слова запрасіла яго ў вечнасць сваю.

Па свеце раскіданы магілы нашых паэтаў, ахвярнікаў роднага слова. У Ялце магіла Максіма Багдановіча. У Кракаве магіла Алеся Гаруна. Толькі радкамі сваімі яны ў родным краі.

У спякотным Джанкоі магіла беларускага паэта Уладзіміра Лісіцына. На роднай Беларусі вершы ягоныя. Вершам трэба радзіма, радзіме патрэбныя вершы, у якіх яна жыве.

*1990*

# *Каб араллёю пахлі аблокі...*

З малых гадоў гучыць мне песня: «У зялёнай дуброве мы начаваць будзем, а вашае ласкі павек не забудзем». Гэта з цёмным разыходзіцца местачковая ўшацкая бяседа. Ужо два словы самі па сабе шумелі, хмялілі, ахіналі спакоем: зялёная дуброва! Ды яшчэ болей уразіла мяне, першакурсніка універсітэта, што на самой справе ёсць канкрэтная вёска на Старадарожчыне і ў ёй нарадзіўся паэт, старэйшы за мяне на курс. І паэт гэты таксама на самой справе паэт, бо ўжо друкаваўся ў паважных выданнях. І спадабаўся мне паэт сваёй таварыскай шчырасцю. На пытанне, як вучыцца ён пісаць, паэт адказаў мне, што чытае рэцэнзіі на паэтычныя зборнікі, што і мне параіў рабіць. Было гэта ў двары інтэрната па вуліцы Бабруйскай, аглухлай ад аб'яў пра рух цягнікоў. Побач быў вакзал. А паэтам, які падзяліўся са мной сакрэтам магчымага поспеху, быў Кастусь Цвірка. 28 сакавіка 1934 года, калі верыць апошнім даведнікам Саюза пісьменнікаў і біяграфічным даведкам у багата якіх зборніках паэзіі, у вёсцы Зялёная Дуброва нарадзіўся Кастусь, Аляксееў сын, Цвірка.

Без маленства няма паэта. Усе паэты родам з маленства. У Кастуся Цвіркі маленства прыпала на паслявайну. Прыпала фармальна. І сам паэт гэта тлумачыць лепей:

Ўсіх нас, пасляваенны вырай,
Дзяцей палёў з душою шчырай,
Што ў Мінску, бы птушкі ад шпакоўняў,
Зляцеліся ад хат, ад ёўняў,
Якісьці крытык незнарок —
Хоць, можа, быў ён і з сумленнем —
Філалагічным пакаленнем
Па блізарукасці нарок.
Нас, на каго з гарматных жэрлаў
Глядзела смерць не раз,
Нас, нас,
Чыё маленства — светлы час —
Вайна з жалезнай пашчы зжэрла.

І вайна напамінала паэту пра сябе. Ці калі пісаў пра аднагодкаў, пра герояў і пра ахвяры, ці калі распавядаў

пра маці, якая адна пяцёра гадавала, адна гаравала, ці калі ўспамінаў пра бацьку, які сеяў і зерне, і думы, узнёсла праспявана ў паэме «Дуб з бярозай звіўся». Паэма традыцыйна-нетрадыцыйная, сагрэтая любоўю і роспаччу, населеная роднымі баравінамі і ўрочышчамі, акрыленая зорнымі думамі сейбіта пра сяўбу, пра зямлю-карміцельку, на малой плошчы дала багаты ўраджай на адгуклівасць чытацкага сэрца.

Былі пра вайну радкі балюча-калючыя, як асколкі, былі і дыдактычна-халаднаватыя. Вайна называлася Вялікай Айчыннай. Партызаны, як і ў бальшыне нашае паэзіі, паказваліся толькі абавязкова дадатна. З гадамі асэнсоўваліся падзеі і дзеі, і назаве ўрэшце паэт вайну па-аратайнаму дакладна: «А ў часе Айчыннай Бяды».

Сталенне паэта, сталенне ягонай паэзіі (сталенне, вядома, не ад слова сталь) ішло на зайздрасць няўхільна. Ужо з-пад першых, так бы мовіць, блочных вершаў, на якія хварэлі ўсе аж да пачатку 60-х гадоў, у Кастуся Цвіркі прабіваліся, прарываліся, як трава, як атожылкі, радкі людскай паэзіі.

Разам выпала нам з Кастусём Цвіркам працаваць у студэнцкім атрадзе на ўборцы цаліннага ўраджаю на Кустанайшчыне. Мясілі гразь у дажджы, смажыліся на стэпавай патэльні, не спалі начамі, пасля пісалі вершы. Пазней даведаліся, што першы ўраджай, услаўлены не толькі намі, пайшоў не на цалінны каравай, а ў асноўным у бровары, бо зерне прэла, гарэла, бо не было куды яго хаваць. І ў цалінных вершах Кастуся Цвіркі былі па-сялянску канкрэтныя радкі накшталт: «А цаліна — хоць зубамі грызі». І колькі было маладой абаяльнасці, маладога ап'янення ў вершы «Двое ў стэпе»:

Вядзе іх вечны клопат,
Дармо, што згублен стан:
У тым баку — Еўропа,
Там — Ціхі акіян.

Дома, у Зялёнай Дуброве, сустракаючы восень,

...клён, не ведаючы выйсця,
Проста валасы рве на сабе.

Дома вясной:

Не пралез бы нават вуж у грэчцы,
Белая — цвіце яна.

Ішоў час, змяняўся час, «як зайца поўсць, мяняюцца часы», змяняліся тэмы і манеры пісьма ў паэзіі, а Кастусь

Цвірка быў верны тэме сваёй. Родныя мясціны, аднавяскоўцы, дзень сённяшні беларускай душы і радавод гэтае душы ў часе і ў прасторы. Самі імёны зборнікаў паэта сведчаць пра тое. Пасля размыта-агульнаватых двух першых («Такія сэрцы ў нас», «Бягуць раўчукі») зборнікі маюць імёны наўмысна заземленыя, а значыць, грунтоўныя: «Чарназём», «Каласы», «Сцежка дадому», «Хат вячысты дар», «Зялёная Дуброва». Ад прыблізна класічнага верша паэт ідзе да вольнага верша, да разгайданага верша, да прырыфмаванага там-сям верлібра. Памер верша дыктуюць плуг і каса, барана і аграблі, сякера і рыдлёўка, сяўня і грыбазборны кошык. Зборнік «Чарназём» пачынаецца вершам «Чорная скіба». Далей паэт хоча сказаць канкрэтна добрае слова пра сваіх зялёнадуброўцаў: пра Яся Дубовіка, які скора справіць сваё 80-годдзе, пра старога Галляша, першага грыбніка ў вёсцы, пра Антона Цвірку — вялікага пчаляра, пра Бэрнуся Паўловіча — скрыпача-чараўніка, пра Сымона — конюха-філосафа, пра цётку Хрысціну — найлепшую з лекарак. Кожнаму знайшоў паэт акрыленую характарыстыку. На чатырох вятрах жыве маці паэтава. Верш з чатырох часцін прысвечаны ёй. І называецца ён «Чатыры вятры». За далягляд разам з баразнамі кладуцца радкі:

О, як гэта проста —
за плугам ісці баразною.
О, як гэта мудра —
за плугам ісці баразною.

Паўтор ворыва, паўтор разганяння баразнаў падказвае паўтор радка. А за баразною — «Гракі, як грэкі». Гукапіс падказаў параўнанне. Яго можна апраўдаць.

Паэт арэ, косіць. Але ўжо глядзіць на працу хлебароба, якая падарыла яму цэлы свет, па-іншаму. «Азярына — зборнік аблокаў». «Кожная хата — аповесць». Вока нядаўняга хлебароба ўжо нейкім чынам аблітаратурана. Па-добраму. Па высокай меры. Гэта вока, якое засумавала па ўсім родным, бачыць, як сплаўляюць па звечарэлым Нёмане плыты, а

...дзядзька на спіне
Ляжаў і хроп — між зор відаць быў нос!

Гэта вока ўжо адрываецца ад зямлі на помірг, але бачыць кожную дробязь:

Напінаўся Гнедка, у капыт
Капытом цаляў — не трэба пужка!
І плыве з-пад плуга скібы стужка.
Дымная. Па полю. Пад блакіт.

Гнедка — канкрэтны конь, які і гуляе па волі, і цягне воз не ў адным вершы. Не ў адным зборніку. Але не дакучае. Проста і чытач пачынае лічыць яго за свайго. Паэт настойліва называе родныя яму мясціны, і чытач міжволі пачынае ў іх арыентавацца. У самім гучанні слоў і туман даўніны, і карані праславянства: Пагон, Перавалокі, Кадаўбы, Хімры. Бо калі паэт падаваўся ў горад па навуку, яму

Звінелі косы на Крушні,
Каровы рыкалі за Талам.

І не баючыся выклікаць гнеў крытыкі за непажаданую, аскомінную тэму, паэт упарта піша пра «маленства тупкія сцежкі», пра сцяжыны дадому. Бо гэта не літаратурныя сцежкі з псеўдазолкімі росамі, а вытаптаныя сваімі нагамі ходнікі ў першавытокі, у маленства, якое ніколі не старэе, дзе паэта чакаюць гракі-хадакі, чабарок-чубарок, брусніца-драмуха, хацінка-бярвянка, альшына-крывуля, харашуня-бяроза. Як у казцы, як у песні народнай. Заўважце, як пачціва вяртае паэт народу вобразы, створаныя на ўзор народных. Паэт любіць дакладнае слова «тут», якое, не пытаючыся згоды паэтавай, само рыфмуецца са словам «кут». (Хто не памятае коласаўскае: «Мой родны кут...»?!)

Я не госць тут. Тут — мая зямля.
...Я тут — я.
Тут мае і карані, і крона.

І яшчэ раднейшым робіцца слова «тут» (гэта і грукат капытоў каня, які прывёз дадому гаспадара, гэта і грукат у заспаныя дзверы — сын дастаўся з далёкай дарогі) ад таго, што маці

Тут з праскамі ў прыпол
...збірала сонца.

Тут бацькавыя сны
Ўставалі каласамі...

Тут бацька,

...холаду пусціўшы праз парог,
У ранак белы дзверы расчыніў.

Дарэчы, пра бацьку. У паэзіі Кастуся Цвіркі крыху насуперак нашае паэзіі, дзе звычайна ўся ўвага аддаецца маці, моцны, што называецца, бацькавы пачатак. Сын хлебароба ведае, што маці належыць хата, бацьку — поле, якое трэба араць, засяваць, даглядаць. Вяртаючыся дадому, да працы хлебароба, паэт вяртаецца ў бацькаў свет.

Зноў вярнуўся я ў бацькаў свет палявы —
У першароднасць дрэў і травы.

Дрэвы садзіў бацька, дрэвы пілаваў бацька, дрэвы траляваў бацька. Траву касіў бацька. Кола бацькавага воза пакінула след не толькі на зямлі. І сыну блізкі «бацькаўскі свет каляіны», сына вабіць «бацькаў высокі свет». У трох вымярэннях свет.

Паэт помніць сваіх зялёнадуброўцаў. Нават не помніць, а жыве сярод іх,— нібыта і не ад'язджаў ніколі з Зялёнае Дубровы. І верым радкам паэта, калі ён звяртаецца да землякоў:

І пра кожнага з вас,
калі ў мяне толькі хопіць сілы і таленту,
я напішу яшчэ — абавязкова! —
па самай светлай паэме!

І маленькімі памерам паэмамі гучаць вершы «Пра старую Адэлю», «Дзядзька Адам», не кажучы ўжо пра ўласна паэмы «Дзе дуб з бярозай звіўся», «Дома». Калі паэт гаворыць пра роднае, святлеюць словы ў ягоных наўмысна ўпірлівых радках. І сам паэт святлее. Святло перадаецца святлом.

Ад ног рагулі —
о светлы край! —
Пахне салодзенькім жытам.

У родным светлым краі ўсё жывое. І рэчка Пціч (у адным яе імі колькі ціўкату, чыркання, цёхкату, граю!) як маладзіца:

Ля моста жанкі, падаткнуўшы спадніцы,
За хвалі бяруць яе — мыць ручнікі,
Яна ж вырываецца з рук...

Колькі я ведаю Кастуся Цвірку, ён ніколі не быў раздабрэлым, распаўнелым, ленаватым, а толькі — паджарым, падцягнутым, імклівым і напружана роздумным. Гэтая вонкавасць нейкім чынам выяўляе ўнутраную сутнасць, стан душы. Здаецца, паджарасць, напружанасць, натуральная роздумнасць перадаліся і яго вершам. Паэзія Кастуся Цвіркі — паэзія думкі, думкі беларускай, думкі нетаропкай.

Пра навуковую дзейнасць, пра падзвіжніцтва ў фалькларыстыцы, у пачэснай працы вяртання ў лона беларушчыны Адама Міцкевіча, Яна Чачота, Уладзіслава Сыракомлі дый шмат каго яшчэ, пра дапытлівасць даследчыцкую Кастуся Цвіркі трэба пісаць асобна. І трэба!

Як пра зялёнадуброўскае ўрочышча, піша паэт пра

Архіў дзяржаўны.
Сховішча вякоў.
Мне лашчыць слых
Папер пажоўклых шолах.
Пыл з папкі здзьмухваю
З усіх бакоў
І ціха адхінаю
Часу полаг.

І тут ён ашчадны селянін: пыл з усіх бакоў здзьмухвае. І ў горадзе паэт — селянін. Клопат яго шпурляе «нібы на арфе зерне», дамоў са службы ён пускаецца «як распрэжаны конь», яго «трымае яшчэ святлафор на прывязі». Толькі аратай можа так спалохацца:

Дзень прапаў у мяне!
Дзень!

Зусім, як пра сваіх вяскоўцаў, піша паэт пра беларусаў па крыві і па духу:

Лабаты Зан.
Міцкевіч задумёны.
Жывы рухавы карантыш —
Чачот.
Дамейка. Слізень...

Яны, землякі па зямлі беларускай, кіруюць думкамі і памкненнямі паэта, вучаць дбаць пра хлеб духоўны. Бо ў роднай паэтавай хаце

Хлеб мясілі ў дзяжы,
у печы яго, як добрага князя,
мясцілі.

І сумна паэту зазначаць:

Ад хлеваробаў адно засталося ў нас хіба:
тое, што хлеб, як і некалі,
есці мы ўмеем!

І дбае паэт Кастусь Цвірка — аратай, які пасвіць яблыкі, пра хлеб надзённы і пра хлеб духоўны, хоча, каб

Яблыкі раллёю пахлі.

*1994*

# *Першы склад перад націскам*

Літаратурную змену, якая прыйшла ў беларускую літаратуру ў 60-х гадах, прынята называць пакаленнем, апаленым вайною. А, відаць, дакладней было б казаць пра пакаленне, прапаленае бальшавіцкай, антычалавечнай ідэалогіяй, пакаленне, скалечанае саветызацыяй. На шчасце, прапаленае не наскрозь, не да самай сарцавіны і не цалкам усё.

Пакаленне гэтае ў большыне сваёй падсвядома ўцякала ў вайну, ва ўспаміны маленства, зноў жа такі звязаныя з вайною. А менавіта ў вайну адкрываўся спрадвечны, біблейскі сэнс жыцця, зямнога бытавання. Бацькі падлеткаў, якія не абрамяніліся камісарскімі рамянямі і не садралі з блізкіх і суседзяў сваіх скуру сабе на скуранкі (а такія, дзякуй Богу, пераважалі), трымаліся запаветаў Вечнае Кнігі, у душы сваёй былі вернікамі. Гэтая непарушная чысціня веры па генетычным кодзе перадалася адзінакрэўным нашчадкам. Перадалася і мова, яшчэ жывая, яшчэ з расой, з зямлёй, з аблокамі. Пазнейшым хвалям у нашай літаратуры, каб сцвердзіць сваё права на калькаваную, сінтэтычную мову (крый Божа, не стаўлю ні ў віну, ні ў дакор маладзейшым іхнюю бяду, у якой болей віны ляжыць на старэйшых), даводзіцца называць яе гарадской. У такіх выпадках так і рупіць запытацца ў моўных алхімікаў, а на якой мове пісалі Янка Купала, Максім Багдановіч, Уладзімір Караткевіч?

Гэтым невялікім адступленнем я не маю на мэце абяліць, наблізіць да анёлакрылых ні сябе, ні сваіх адначаснікаў у літаратуры. Бо пішу не водпаведзь на крытыку з боку маладзейшых на наш адрас, ні юбілейную оду з нагоды шасцідзесяцігоддзя Юрася Свіркі. Пішу і заўважаю сабе, як даўгавата пішацца само слова «шасцідзесяцігоддзе». І чую, як гучыць у ім і шаскат калосся, і ўцёкі гадоў, і гойканне дзяцінства, і забыты ўжо цокат цапоў на таку,— усё наскае, крывіцкае, як пісаў выдатны паэт нашага часу Пімен Панчанка, «і звонкае «дзе» і густое «чаго».

А чуць, бачыць Юрась Свірка ўмее. Вось паслухайце голас драча ў стуманелай вечаровай цішыні:

Пракрычыць ён драздом уначы,
Як адыдуць стамлёныя ногі:
— Я жыву на карчы,
— Я жыву на карчы!
— Не забыў я дадому дарогі.

Толькі вуха нашчаднага аратая магло пачуць (чытаеш радкі, і аж хочацца нахінуць конаўку з бухматым сырадоем):

Цурчэла малако ў вядро,
Спачатку — звонка, потым — глуха.

Трэба слухаць душой, каб чуць, як «рака мелодыю люляе».

Трэба набыцца і на святле, і ў цемры, каб убачыць, як

...зіхатлівыя маланкі
Грызуцца моўчкі між сабой.

Трэба ўвесь час помніць пра родны край, каб зразумець тугу сасны (яна пачала тужыць у беларускай паэзіі ўжо з багдановічаўскага перакладу Гейнэ):

Сасна не забываецца напомніць,
Што цень яна адкінула на поўнач,
Каб быць бліжэй да дома
хоць на цень.

Паэт адчувае свае карані ў лесе, памятае пра гэта заўсёды і баіцца страціць карані маленства, карані сялянскае чысціні, карані беларускасці. Лес быў спрадвеку беларусу і клапатлівым бацькам, і шчодрым суседам, і верным заступнікам. І ў бясконцыя войны, і ў рэдкія часіны мірнага жыцця, дзе зноў-такі, дбаючы пра кавал хлеба надзённага, дапамогі чакаў аратай ад роднага лесу. Як пра жывога, дужа шаноўнага старэйшага кажа Юрась Свірка пра лес: «...не бярэш ты чужога ні znічкі». І знічка гэтая абагаўляе лес і ўзводзіць яго да касмічнае велічы.

Лёс рэдзіць людзей, людзі рэдзяць лес. І жыццё, і смерць родняць чалавека з лесам.

Нараджаюцца ў нас сярод сосен,
І пасля сярод сосен ляжаць.

Гэтак сказаць можа толькі той, хто і нарадзіўся ў лясной старане, і рос пад лясную калыханку, і цяпер пазнае кожнае ацалелае дрэва — па голасу. «А лес, нібыта годы,

за плячыма». І ў сэрцы, і ў думках, і ў паэтавых радках.

Некалі пра суседнюю, ушацкую старану сказаў маладзейшы за Юрася Свірку Алег Салтук: «У нас лясная старана — ласі пасуцца ў агародах». Лес — калыска нашае паэзіі, нашага замілаванага позірку на ўсё зялёнае, на ўсё жывое. Нават асацыятыўна-аддалена рыфмуецца: лес — беларус. Супадаюць тры важкія гукі.

Апошнім часам агульнажыцце нас і зямлі, вады, неба, лесу пачалі часцей называць экалогіяй, дужа сугучнай са словам акаляць, ваколле, калодзеж, лог, калець, кулогаць. І, як заведзена з самых першых крокаў былой савецкай імперыі, пачалі змагацца за экалогію, бо ў нас за ўсё звыклі толькі змагацца. І зноў жа, чым болей пішацца пра ахову лесу, тым болей лесу ідзе на паперу, на якой словамі бароняць лес. І сама прырода задумваецца, як уратавацца, ацалець, захавацца. І паэт заўважае гэтую прагу выжыць: «Праз чарацінку дыхае затока». Далёкія продкі нашыя, ратуючыся ў рэках ды азёрах ад чужацкіх, захопніцкіх коннікаў, дыхалі праз чарацінкі. А цяпер прырода ад нашага нашэсця не мае куды ўцячы. Прагрэс нават на побытавым узроўні ўчэпісты і зайздрослівы: адрывае чалавека ад зямлі ў шматпланавым яе значэнні, раўнуе чалавека да прыроды. І таму зноў памяць асацыяцыяй вяртаецца ў вайну, у гады, якія заўсёды з паэтам:

> Рык ласіны, нават спеў птушыны
> Дзелім, нібы той блакадны хлеб.

Чулы да ўсяго жывога Юрась Свірка ніколі ў адпаведныя гады ўказанняў партыі разбуральнікаў, якая кіравала ўсім, нават літаратурай, не ўслаўляў пакарэнне прыроды, выпростванне пераліўвістых, як сялянскі лёс, рэчак, асушэнне балот — апошняга прытулку ўсіх персанажаў казак і легендаў, перасяленне самабытных, як людзі, вёсачак у блочныя а ля кароўнікі. Памяць жадала бачыць, як на дне лясное рачулкі «ціха стаяць акуні». Паэт даваў веры прыродзе, верыў разам з ёю:

> Не ведае, ці будзе жыць,
> Але цвіце вярба.

Паэтава любоў адухоўлівае, ажыўляе нават цень. У самым пачатку гэтага невялічкага слова пра сябра і аднагодніка прыводзіў я прыклад, як сасна адкідвае цень. А вось яшчэ адзін цень, які мог убачыць той, хто вырас у пасляваеннай нястачы:

...цень пад вечар
Вырас,
Як у беднага даўгі.

І ў той жа час нечакана плоцевы цень:

Саджаю яблынькі я ўвосень
І так стаю,
Каб нават цень,
Мой цень, не цiснуў на карэнне.

Вечная тэма паэзіі пра несупыннасць жыцця, пра вечны працяг бытавання на зямлі і раптоўны паварот. Гэта ўсё пра тое ж — боязь за жывое, сялянскае, паганскае ўспрыманне будучага дрэва, якое дасць яблык і яблык той надкусіць Ева і Адам. І жыццё буяе, доўжыцца.

Вёска — акадэмія жыцця і паэзіі, таксама, як і прагрэс, раўнівая. Сочыць за сваім сынам, кліча яго, у сны прыходзіць, як некалі маці з гасцінцамі.

А ноччу доўгаю прысняцца ганачкі,
Прысняцца Выселкі ці Беражкі.
Прысніцца лепшая суседка Ганначка,
Прысніцца двор свой,
Прысніцца бор свой
І ўсхліп ракі.

Гэта не толькі вясковым бабулям, гэта сніцца і паэту.

Пра рыфму «Ганначка — ганачкі» я ўжо не кажу. Толькі зноў самапаўтаруся: па рыфмах можна вызначыць, на якой мове паэт думае, якая мова родная яму. У доказ таму, што Юрась Свірка чуе выдатна беларускую мову і думае на ёй, можна было б шмат прывесці не толькі рыфмаў у прыклад.

Тэма вёскі і горада, яшчэ з 20-х гадоў узараная на ніве нашае паэзіі, мае сваё разуменне і свой працяг у Юрася Свіркі. І з поспехамі, і са стратамі. Усё, так бы мовіць, як у людзей. Зразумела, што болей поспеху там, дзе паэт ідзе ад сябе, дзе шчыра спавядаецца і чытачу, і сабе самому. Хоць бы:

У роднай вёсцы
вершы я пішу,
У роднай вёсцы
вершы не чытаю.
Калі б я дома вершы прачытаў
Пра маляўнічасць родных краявідаў,
Я з галавой сябе,
напэўна б, выдаў
І больш ніколі б вершаў не пісаў.
Я знаю, што дзяды такія ёсць,

Яны спыталі б важна,
не для смеху:
«Навошта ж ты ад нас, сынок, паехаў,
Калі у нас такая прыгажосць?»

І споведзь, і шкадаванне, і палеміка з братамі-паэтамі і з самім сабой. Бо ходзіць у грыбы, косіць лугі, стамляецца на ворыве паэт болей у вершах. А стома гэтая можа перадацца і чытачу. У лесе добра, але жыць даводзіцца на людзях, з людзьмі, у свеце. Гэта з аднаго боку, калі быць прыдзірлівым, а з другога боку, калі глянуць на паэзію Юрася Свіркі, дык ён будзіць сум, падкрэслена заклікае вяртацца на кругі свае, да першакрыніц сваіх, да вершасцежак.

Гэта душа супрацiўляецца дзікай урбанізацыі савецкага крою. І разам з паэтам адчуваеш, як

...гармонік ірваўся з балкона:
Не мог пагадзіцца,
Што ён гарадскі.

І спачуваеш гармоніку. Спачуваеш, калі ты сам родам з вёскі.

З разгубленасцю, з адчаем, з болем прызнаецца паэт, разам з тым тоячы недзе на дне душы надзею на адваротнае:

Толькі мы ўжо не патрэбны вёсцы
З песняй настальгічнай і старой.

Ранейшая вёска мела скрыні пасагу — свае песні, казкі, паданні, сваю мову, сваю гаворку, сваю хаду, свой густ, свой нораў. А цяпер? Цяпер скрыні без вечак, як платы без веснічак. У горад змушана ехаць і па хлеб, і па малако. Пакуль не да песень, тым болей не самой складзеных.

Горад даў паэту прытулак, але не зусім прыняў паэта, паэт дае такі-сякі прытулак гораду ў сваіх вершах, але таксама не зусім прымае горад.

Заглядаю я у вёску, як у слоўнік,
Каб упэўніцца, што правільна пішу.

Паэт правільна піша там, дзе ён давярае сабе, дзе даражыць ісцінай, дзе шануе праўду. Удача па-сялянску спрыяе і спачувае паэту. Шкада, што слоўнік, памянёны паэтам, на вачах нашага веку робіцца бібліяграфічным.

Лес і партызаншчына, партызаншчына і лес, іх шмат у шчырай паэзіі Юрася Свіркі. Хто каго перашуміць славай? Час пакажа.

Сам пра сябе Юрась Свірка сказаў:

> Я — атожылак долі сялянскай.

У слове «атожылак» — і жыццё, і жылы. Корань адзін. Праца сялянская ўся на мазалі, на жылах. Памятаеце прымаўку: «Цягніце жылы, пакуль жывы». Жылісты сялянскі род, жылістая сялянская доля. Па жылах цячэ кроў неўміручая, як і крывіцкае слова.

І шумець атожылку дрэвам. Вячыста!

Усе навалы, усе няшчасці, усе вятры і завірухі браў на сябе сялянскі род, браў народ беларускі. У граматыцы нашае *е* ў *я* пераходзіць у першым складзе перад націскам. Пад націскам праз стагоддзі ўзнікала крывіцкае Я нашага народа. І толькі сын гэтак пытаецца ў бацькі, як паэт, толькі сын ведае пра бацькаў характар:

> Ты адкрыта жывеш,
> Не хаваешся ў зацішку.
> Як трымаешся ты,
> Першы склад перад націскам?

Трымаецца наш народ і трывае. Трывае і вытрывае.

*1993*

# *Радасць бліскавіцы*

З універсітэцкіх гадоў памятаю невысокага, пышначупрыннага паэта, які напаўспяваў свае вершы і ў чытальнае зале, і ў аўдыторыі, і ва універсітэцкім скверыку, дзе абавязковая бетонная скульптура была не з абавязковым вяслом, а з каменным мячыкам. Чытаў паэт свае вершы пераважна дзяўчатам, пры гэтым нязменна грыз дужкі сваіх акуляраў.

Акуляры, здавалася мне тады, надаюць паэту большае паважнасці.

Усіх нас, хто таксама грашыў вершыкамі, уразіла незвычайная на памяці нашае падзея — у «Новом мире» ў 1955 годзе з'явіліся вершы Давіда Сімановіча. Іх надрукаваў ці, як прынята было казаць, даў Канстанцін Сіманаў, галоўны рэдактар паважанага ўсімі часопіса. Так пачынаўся паэт Давід Сімановіч. Пасля былі зборнікі вершаў для дарослых і дзяцей. Пасля настаўнічаў у Крынках Лёзненскага раёна, дзе, дарэчы, вучыў таленавіцейшага беларускага паэта, што заўчасна адышоў з жыцця, Уладзіміра Лісіцына.

А Лёзненшчына звязана з імем Марка Шагала, з каранямі вялікага віцябляніна, які шмат значыў у жыцці і ў творчасці Давіда Сімановіча.

Ужо ў так званыя перабудовачныя дні паспяхова скончыў Давід Сімановіч барацьбу за вяртанне майстра, за аднаўленне добрага імя геніяльнага мастака XX стагоддзя, выдатнага паэта.

Часта, і заўсёды безвынікова, ідуць спрэчкі вакол таго, ці павінен паэт быць прафесіяналам, ці недзе працаваць, быць на службе, пры пасадзе. Сусветная і айчынная практыка паказала, што паэтам застаецца пры любых абставінах толькі той, хто ім нарадзіўся, а рэшта — імітатарамі, падзёншчыкамі, рамеснікамі. Дадаткова пры падобных спрэчках прыводзіцца і такі важкі аргумент, што прафесія дае матэрыял, тэмы, вобразы. Але менавіта тут у паэта ёсць небяспека ўваліцца ў багну праблем, якія важныя

настаўніку ці журналісту, але пярэчаць паэзіі. А што канкрэтна дала паэту Давіду Сімановічу праца настаўніка, журналіста, праца на тэлебачанні? З аднаго боку — абвостраны позірк на жыццё, на жыццёвыя драбязінкі, на праблемы хлеба надзённага і духоўнага, а з другога — жаданне ўсё зарыфмаваць, абавязкова вершавана напісаць пра кожную паездку, пра кожную сустрэчу. У першым выпадку маем сапраўдныя вершы, тонкія, усхваляваныя, здзіўленыя, у другім — замалёўкі ў рыфму. Спяшаюся растлумачыць, што апошніх у Давіда Сімановіча не гэтак і шмат, што напісаў ён іх не болей і не меней, чым ягоныя аднагодкі, калегі па пяру. Паэт — заўсёды сын свайго часу, сваёй эпохі, і рэдкая птушка паэзіі даляціць да сярэдзіны Дняпра вякоў наступных, эпох нямінучых.

Адметная рыса паэзіі Давіда Сімановіча — радасць, радасць і яшчэ раз радасць. Радасць, што выжыў у чорныя часіны, радасць, што сустрэў сапраўдных сяброў, радасць, што жыве на зямлі. На злосць усяму чорнаму і агіднаму!

І няпраўда, што ў радасці затуманены позірк. Ён выяўны, ён дакладны, ён глыбокі.

Радасць умее:

> слушать доброго дождя
> необязательные речи.

Радасць бачыць:

> И ударилось яблоко оземь —
> и земля закачалась сильней.
> Вышла осень из теплых сеней,
> шкуру яркую сбросила осень.
> И нагая стоит.

Радасць уважлівая і дома, і ў гасцях. Гэта яна прыкмячае, што грузінскі дом

> всегда обвитый птичьим лепетом
> и виноградною лозой.

Радасць заўсёды безабаронная і чуйная да гора. Гэта яна не можа забыцца,

> как наши мастера уходят,
> на нас остановив глаза.

Ды адкуль з'явіўся здзіўлены і закаханы ў жыццё паэт Давід Сімановіч, не з іншае ж планеты? Вось як ён кажа пра сябе ўжо, так бы мовіць, у анкетнай прозе: «На беразе

Прыпяці ў Нароўлі я нарадзіўся ў 1932 годзе. Тры мовы — руская, беларуская, яўрэйская (ідыш) — гучалі вакол мяне і ўвайшлі ў мяне. На іх мовілі знаёмыя і суседзі, бацькі мае, перамешваючы словы ўсіх трох моў і не надаючы гэтаму ніякага значэння.

З тых дзён я памятаю арышт бацькі і ягонае вяртанне. Памятаю першы клас і першы дзень вайны...»

І невыпадкова ў 1952 годзе ў традыцыйным «Вершы пра мастака Левітана» паэт-пачатковец падспудна адчуваў, што трэба абавязкова напісаць пра жахлівыя часіны сталіншчыны:

Не скоро в преданье уйдет
Владимирка — ссыльных дорога.

У сталага паэта Давіда Сімановіча ў хрушчоўскую часовую адлігу праб'юцца з-пад пліт маўчання і страху словы гнеўныя і дакладныя, словы пра бацьку, пра бацькавых сяброў.

У вершы Давіда Сімановіча жыве маленства:

В пятницу у крылечка
я порхаю, как стриж.
В пятницу ставится свечка,
в пятницу славится фиш.

В пятницу бабкин клекот,
молитвы ее, как сны.
Все это — так далеко,
все это — до войны.

У вершах Давіда Сімановіча жыве Палессе — зямля ягонага маленства, ды штогод робіцца

Все меньше вокруг природы,
все больше вокруг среды.

Як цяжка было паэту пісаць вершы, прысвечаныя «памяці палескіх вёсак, што загінулі ў чарнобыльскае катастрофе», звяртаючыся да вёсак гэтых, называць «атамныя Хатыні нашыя». Вайна з маленства, маленства з вайны.

Як рытуальнае галашэнне па нябожчыку гучаць радкі:

Вас хороним порой осенней:
хаты зарыли, с землей сровняли.
И только деревья —
черные тени
над братской могилой
стояли в печали.

Як цень звугалелае галінкі, праступае, гучыць неназваная традыцыйная рыфма «деревья — деревня».

Усю паэзію Давіда Сімановіча можна назваць, цытуючы яго ж самога, радасцю бліскавіцы. Бліскавіца, асляпляючы, сама не слепне, усё бачыць, вырываючы з цемры забыцця ўсё самае важнае, з чаго і складаецца жыццё — Muter Dolorossa паэзіі.

*1991*

# *Так заплачу, нібы запяю...*

Ой, чые то жыта,
Чые то пракосы,
Чыя то дзяўчына
Распусціла косы? —

Пыталіся мы было ў вясёлым застоллі, у дарозе, у гасціннай хаце беларускае паэткі, падцягвалі ўслед за палескай пяюхай, за дасціпнай весялухай Жэняй. Гэтак даверліва і пяшчотна называлі мы Яўгенію Янішчыц.

Вонкава бесклапотная, вонкава крылата-памклівая, вонкава бясхмарная. Калі і злавалася на каго, дык ненадоўга. Па-дзіцячы капрызіла ўражлівыя, амаль рашучыя губы, прыгаворваючы: «...і навогул».

Падбіралі, падбіраюць і падбіраць будуць эпітэты да Яўгеніі Янішчыц. Але цяжка падабраць нешта болей узнёслае і важкае, зменлівае ў руху і вечнае, чым прызнанае нашай моваю як сваё слова «паэтка».

Паэтка. Залатой аблачынкай праплыла яна па небе паэзіі беларускай. Прыплыла з Палесся, каб нагадаць пра гэты самой вечнасцю ахаваны край. На жаль, да часу. Прыплыла з Ясельды. Услухайцеся, як гучыць: Я-сель-да. І калядныя яслі, і стук бёрдаў аб набільніцы, і стук чоўна ў бераг, і ўсплеск, і ўсхліп тады яшчэ не атручанае вады. Недарэмна паэтка гэтым дарагім яе сэрцу і радку імем ахрысціла і адну са сваіх кніг паэзіі.

Ёй не цярпелася падзяліцца захапленнем ад родных мясцін, ад нетаропкага, як сама часта падкрэслівала, палескага гаварка, ад сваіх крэўнікаў і землякоў. З вуснаў не сыходзіла маці, з памяці не выходзіў бацька, у паэзіі Яўгеніі Янішчыц не месціліся дарагія і блізкія людзі, палескія дзядзькі і цёткі. Здавалася, як аднойчы заехалі да зямлячкі, дык так і засталіся ў яе на вечным пастоі. І ў душы.

Як тая кнігаўка, адводзіла бяду ад роднага гнязда. Спрабавала адвесці, прынамсі. Палессю мала было меліярацыі, якую так дырэктыўна песціў адзін з яе хросных бацькоў — Машэраў. Чарнобыль чорным крыжам лёг на старажытны і самабытнейшы край.

Паэтка надзвычай абвострана адчувала сваё заўчаснае расстанне з родным краем і з гэтым светам. Адсюль у вершах яе гэтакі прарочы сум, гэтакі непазбытна-непазбежны адчай і горкапалыновая радасць кароткага спаткання з клопатам зямным.

Напэўна, Бог выбірае месца народзін паэтаў. Невыпадкова Яўгенія Іосіфаўна Янішчыц нарадзілася ў палескае вёсцы Велясніца. Гэта ў гонар паганскага бога Велеса, які быў у асаблівае шане ў беларусаў, бога-апекуна пастухоў ды іхніх статкаў. Велясніца — як бы дачка Велеса. А паэтка Яўгенія Янішчыц была любімай дачушкай старажытнага бога слова. Таму і слова паэткі будзе яшчэ доўга гучаць у кожнай беларускай душы. Бо яно — беларускае, старажытнае мудрасцю і ранішняю шчырасцю сваёю.

Сама пісала свой партрэт:

> Распусціла жнівень валасоў
> Над вачыма,
> поўнымі адчаю.

Сама адчувала сваё заўчаснае знікненне:

> Вунь нечая зорка, начная ільдзінка,
> плыве па-над гаем.
> З люстэркаў усіх і з усіх фотаздымкаў
>
> Знікаю,
> Знікаю.

Адчувала:

> Паўстану я ў святле нязменных мар
> Дзяўчынкай той, якой вядома слова
> І невядомы ўвесь яго цяжар.

Успамінала сябе маладзенькую і позна папярэджвала яе:

> Дзяўчынцы хочацца ў паэты...
> О, дай апомніцца ёй, лёс!

Маладой жыла, маладой адышла з гэтага жыцця, бо прызнавалася:

> А я баюся пастарэць
> Хаця б на макавае зерца...

Нібыта загадзя рыхтавала сябе да страшэннага:

> Не ў самагубстве сілы соль,
> Хоць ёсць тут знак пратэста.

Умела хаваць свой боль, свой адчай:

Так заплачу, нібы запяю.

А наканаванне ішло следам, само грукалася ў радкі:

Пакуль мяне святлом не расстраляла
Акно,
што ў гром адчыненае мной.

І ўсё ж верыла. У сябе. У сваю паэзію:

Смерці ў Паэта няма —
Ёсць нараджэнне!

Сваю зямную трывогу завяршаючы, сваю зямную дарогу даходжваючы, ведала:

Ўсё міне,
А будзе сын і сонца.
І між іх — зямлёю буду я.

Таленавітай маці і дачцэ апорай была тая, што жыццё дала:

За грамамі веку, за дажджамі,
За чаканнем сонца і адліг —
Сойка скрухі,
Перапёлка жалю,
Кнігаўка маіх лірычных кніг!

Паклон мой і ўсіхні маці паэткі за дачку, апошнюю палескую язычніцу, якая пакланялася беларускаму слову.

Матчын плач па дачцэ, даччына песня па маці, яны паразумеліся, бо яны ад сэрца. І плач і песня чуйныя да фальшу, да няшчырасці.

Мая чатырохгадовая ўнучка Дамінічка прыдумала песеньку пра ластаўку, якая зачапілася за хмарку. Ластаўка песні Яўгеніі Янішчыц закранула хмурыну суму і жалю, якая пралілася слязьмі мілосці.

А мне будзе доўга чуцца самотны голас чаіцы ў чаратах холаду і зайздрасці, якія часта шумелі і клалі цень на роспачныя крылы. Будзе чуцца бяседны, інтымны голас песні, якую звалі Яўгенія:

Любы мой свякратка,
Любая свякрыца,
То ж з майго кахання
Прарасла крыніца...

*1993*

# *Верасовая кніга*

> ...птушкі былі галодныя —
> Нават зоркі ў небе дзяўблі.

Гэта ўспамінае аднагодак вайны, паэт, які нарадзіўся на пачатку снежня 1943 года. Гэта пра блакаду ў Налібоцкім краі. Недзе каля возера Кромань, што надта ўжо да Свіцязі падобнае, як ад бацькі аднаго. Сказам з апокрыфа гучаць радкі паэзіі. Ці не тады «Шаравая маланка слова Заляцела... ў душу» Казіміру Камейшу? Пакаленне беларускае паэзіі, ахрышчанае філалагічным, амаль да нашых дзён усё яшчэ жыве ў вайне, у адгалосках яе, прынамсі. І таму асабліва ўсцешна чуць у вершах і паэмах аднагодка вайны радасць жыцця, у меру ацененую сумам.

Уважліва перачытаў я ўсе дзесяць кніжак свайго маладзейшага ледзь не на дзесяць гадоў сябра, з кім некалі надта ж добра было ўзяць поўную чарку, паехаць суправаджаць украінскіх гасцей (я — паэтку, а Казімір — аж трох сясцёр спявачак), наведацца ў Наднямонне.

Ужо ў сваёй першай кніжцы «Восеньскія позвы» пытаўся малады Казімір, сын Вінцука, «у дзеда з Налібоччыны, Ці прывёз налібоцкага ветру ў бочцы». Заўважце, як прыродны пушчанец, нібы тую бочку купец, слова на гук правярае. Крутабока перагукваюцца Налібоччына з бочкаю. І пазней, у кнізе «Сябрына», паэт падкрэсліць сваю сувязь, сваю повязь з лесам:

> Я таксама — лесавічанін,
> І лясное мне ўсё баліць.

І штогод баліць балючэй і шчымлівей. Бо ад Налібоцкае пушчы бадай што толькі назва адна засталася. Адно па традыцыі высечаныя, вытраляваныя, перадыбленыя як пасля атамнага выбуху прагаліны, танцпляцоўкі для скокаў д'ябла, выстраляны, выбіты свет звяроў і птушак хоча называцца пушчай. Тое, што не дасеклі палякі, давяршылі саветы. Бо, пачынаючы з 1946 года, пілуюць, сякуць, крадуць. І калі на пачатку паэтычнае дарогі верны сын

пушчы даваў вясёлы, кірмашовы загаловак вершу «Едзе пушча на базар», бачыў толькі, як «У кашоў разыходзяцца рэбры — Цяжка дыхаюць баравікі», дык па часе сумна зазначае:

Лес гэты сячэш ты сягоння,
А трэскі ў заўтра ляцяць.

Не даюць спакою, поўняцца адчаем «лесасекі памяці», бо «голас ракі перасох», «звер падабрэў, пазласнеў чалавек». І сумна гучыць усмешка, калі дзеткі за бацькоўскія кажухі вядуць «Вялікую аўчынную вайну». У вершы «Сон» з падзагалоўкам «Жарт пра нежартоўнае» апісваецца да жаху асязальна, як «ішлі ардой у наступ... рэчы», каб забраць у палон гаспадароў. Прыроднаму пушчавіку цесна ў празмерна заматэрыяленым побыце. Кліча воля, кліча пушча, кліча зялёная бяседа дрэў.

Яны з гэтае лесасекі, цені, якія паўсюль бачацца паэту. А калі ўдумацца, дык усе мы — толькі цені на снежыне, на мураве вечнасці. І людства ўсё — пушча, ад якой скон дазваляе на момант затрымацца хіба ценям. Самое прозвішча Камейша гучыць лясіста, пушчаніста. Тут і камель, і мох, і шаты, і межы, і як сувязь з небам і з лёсам — камета. Цені ў Камейшы з лесу, з пушчы. Калі ласка:

Спіленай елкі ценем
З коміна цягнецца дым...

Арэлямі закалыханы,
Заснуў халодны цень сасны...

Вока пушчанца пазнала ў сталіцы зямлячку (дарэчы, гэта факт — ліпы ў Мінску ў асноўным былі пасаджаны па вайне з Налібоцкае пушчы):

Службу ценю ёй даверыў горад,
А яна ўцякае да святла.

І на Апшэроне каля храма вогнепаклоннікаў паэт падкрэслівае, што ён — лясны вогнепаклоннік. Толькі лясны вогнепаклоннік мог заўважыць: «Згарыць прамень — пакіне цень».

Ды няхай не складзецца ўражанне, што Казімір Камейша жыве толькі ценямі, бачыць толькі цені. Аднагодак вайны пратэстуе супраць вайны, смуткуе па ахвярах своеасаблівa, па чалавечай сутнасці адзіна слушна — любіць жыццё ва ўсіх праявах, ва ўсіх абліччах, ва ўсіх формах. Быў малы, пасвіў статак, бачыў «лася лясны пагляд», выгля-

дзеў, як спяць птушкі, «у вянок склаўшы мокрае крылле», як «пчала чытае кнігу верасовую». Адрастаў разам з пушчай, зяб разам з пушчай, таму і чуў, як «косці маразоў трашчаць», чуў «снегу рып сарочы». І ўжо ў сталіцы станістым і прыгажавітым дзецюком, пра якіх кажуць, што такія могуць пароду паляпшаць, пасвіў прыгажунь — вынікова! Хоць і канстатаваў маркотна, што «Ёсць красуні ў сталіцы, Ды няма чараўніц», памятаў: «...маладому пеўню сорам спаць». Таму, відаць, спыняла ўвагу пушчанца «наіўная спаднічка», не палохаў «на гузікі ўсе... зашпілены страх» і нават «медсястра» гучала як «мёд-сястра». Не спыняла і згодлівая ўпірлівасць маладзічкі з асцючынкай, з гуллівінкай:

Скрыпучы якісьці зусім кавалер.
Баюся, ты мне надакучыш.
І боты са скрыпам,
і нават намер,
І ложак таксама скрыпучы.

У пушчы да скрыпаў прывык. А пільнае вока заляцанца заўважыць «...чужых акуркаў паўстога ў папяльнічцы». Хоць:

Цёмна было,
не заўважыў, калі
Рукі твае ў мае заплылі.

Наглядзеўшыся ў пушчы на маланкі, потым пушчанскі кавалер як бы згадае:

Мы з табой, як дзве зямных маланкі,
У адзін звіваемся клубок.

З гадамі прыйдзе выснова, што «не кожнаму мулкі чужы пухавік». І яўна не да чужога пухавіка адрасавана назіранне: «Верабей пагрэецца ў следзе Цёплага чужога капыта», асабліва калі ёсць ласкавы прымус:

Аржаное моцы кварту
Агародам закусі!

З асалавелага застолля, з расчулення прыйдзе «чарачка з вясёлаю смугой», з паўднёваўзбярэжжаў ускалыхнецца марская хваля «гранёным глытком залатога віна». І зразумела, толькі жыццялюб можа ведаць, што

Гэтак лёгка цурчыць,
Гэтак весела п'ецца.

Той, хто піў гора нагбом і каўшом, нагбом п'е радасць. Казімір Камейша п'е «Кубак блакіту» (гэтак ахрысціў сваю чарговую кнігу паэзіі), а на дне бачыць водцень хмурынкі смутку і тугі. Без чаго не можа быць жыцця. Ён ведае:

Як ні станавіся, чалавеча,
Да кагосьці будзеш ты спіной.

І спіной становіцца паэт да гора, да адчаю. Але цень заўсёды з ім. Але не стане ніколі спіною да пушчы. Хоць у слове хоча захаваць яе. Паэт душою адчувае бяду. Прадчувалі гэтак гора сваіх родных мясцін Міхась Стральцоў і Яўгенія Янішчыц. Чорным крумкачом апусціўся на іхнія землі Чарнобыль. Не мінуў крумкач і Налібоцкую пушчу.

Аднойчы Рыгор Бярозкін сказаў пра аднаго паэта: «Дужа я люблю яго, ды калі б змог знайсці ў яго хоць два радкі сапраўднае паэзіі, напісаў бы самы лепшы артыкул». Чаму прыгадаў мэтра, ды таму, што ўвесь час лавіў сябе на жаданні цытаваць і цытаваць Казіміра Камейшу. Дужа ж ашчадны і віртуозны, вытанчаны і, калі трэба, хуліганісты паэт. Годны паэт. Калі і хацеў дагадзіць, дык толькі паэзіі.

І колькі спакусаў ні было, колькі варункаў ні рознааблічылася, паэт Казімір Камейша застаўся верны сваёй пушчы, шум якое пранёс з сабою паўсюль, сваім бацькам, чые вобразы адухавіў словам, беларускае мове, якую збярог і пасыноўску бароніць.

Гэта хутчэй за ўсё пра сябе пісаў зоркі і чуткі пушчанец, ці, можа, лепей сказаць, пушчавік:

Ставілі прынаду з канюшыны,
Ставілі прынаду з барышоў.
Зайча мой,
А ўсё ж ты малайчына,—
Ты на іх прынаду не прыйшоў.

Паэт убачыў, як пчала чытае верасовую кнігу. А мне здаецца, што ўсе вершы і паэмы Казіміра Камейшы якраз і ёсць тая верасовая кніга, якую нашаптала, нагаманіла, наскрыпела, настагнала, нагула Налібоцкая пушча.

*1993*

# *Як сама паэзія*

Традыцыі Цёткі ў нашае паэзіі добра і годна былі падхоплены паэткамі пазнейшага часу. Не трэба пералічваць імёны. Варта толькі згадаць постаць святое пакутніцы за беларушчыну Ларысы Геніюш. Але калі паэзію лічыць таксама за гаспадарку — хай меней зямную, а болей зааблочную,— дык у гаспадарцы, як вядома, усё прыдасца.

Нашае паэзіі, задужа заідэалагізаванай і празмерна ідэйнай у бок бальшавізму, не ставала паэткі, так бы мовіць, багемна-салоннага плана. У адпаведна нашых маштабах і ўмовах. Нават сама мова дае на замежнае слова «салон» беларускую рыфму ўслон.

Дык вось якраз Вера Вярба ішла ў паэзію 60-х гадоў і вершамі накшталт «Ручнікоў», што адразу ж з лёгкае музычнае рукі палачаніна Пятрэнкі сталі народнаю песняю, якую падхапілі ўсе застоллі, і вершамі, дзе з выклікам савецкае маралі паўшапталася: «Калі будзеш з іншаю ром «Бакардзі» піць, мая скрыпка не зазвініць». Наўмысна цытую па памяці, хай даруе памылкі спадарыня Вера, бо такім чынам друкаваныя аўтарскія радкі ў нейкай ступені фальклярызуюцца, сграваюцца ўспамінам.

У беларускую літаратуру ішла асоба новага і разам з тым жадана традыцыйнага характару. Ішла прыгожая, адухоўленая дзяўчына, якую кахалі, якую марылі кахаць і якая кахала. За вонкавай разняволенасцю хавалася ўражлівая, сарамяжлівая душа. І даводзілася прымераць маску рашучай абыякавасці, а часам нават не грэбаваць і словамі з мужчынскага лексікону, абы схаваць сваю душу ад ліпкіх позіркаў, абы захаваць свой свет у чысціні і ранішняй непасрэднасці.

Паэтку малявалі лепшыя мастакі, такія як Арлен Кашкурэвіч і Барыс Забораў, яны ж афармлялі яе зборнікі вершаў. Калі рабілі мы з Міхасём Лісоўскім кнігу шаржаў, Міхась зрабіў на паэтку закаханы шарж, а я ў тэксце падкрэсліў па-свойму прывабнасць паэткі: «Навошта смутак і журба, характарам я мяккая. Была б вясна, была б вярба,

а коцікі замяўкаюць...» І цяпер з усмешкай успамінаем даўні выпадак. Я, выпускнік універсітэта, ужо са зборнікам і нібы паэт, іду па традыцыі 60-х гадоў вечарам на добрым падпітку. Уперадзе, бачу, ідзе студэнтка нашага універсітэта і прызнаная ўжо шырока паэтка. Хачу дагнаць, хачу сказаць, што падабаюцца мне не толькі вершы. А яна ўцякае. Вера тлумачыць цяпер, што збаялася нейкага п'янага ахламона, чарговага прыхільніка. А недзе ў 70-х гадах у старым будынку Саюза пісьменнікаў ішла чарговая засядальня з ідэалагічнымі ўстаноўкамі з ЦК. Я пачаў насіць бараду і вусы. Вера і кажа (мы былі не ў зале, а ў калідоры), што ні разу не цалавалася з вусатым. Толькі мы пачалі дэманстрацыю, як расчыніліся дзверы і ўся пісьпубліка, натхнёная прадстаўнікамі мудрай камуністычнай, вывалілася ў калідор. Не ведаю чаму, а мне ўспомніўся наш дзіцячы выбрык.

А каб не склалася ўражанне, што Вера Вярба толькі тым і займалася, што кружыла ўсім галовы, бо мела на гэта ўсё — інтэлігентную прыгажосць і часам бітніцкія выхадкі, спяшаюся заўважыць: працавала шмат, працавала плённа, працавала не на час... Працавала ў рэдакцыі «Літаратуры і мастацтва», у «Беларусі». Умела прыцягнуць аўтараў, ласкава прымусіць іх працаваць на рэдакцыю. І падкрэслена пазбягала палітыкі, саветызацыі.

Падкрэслена, з верай у душы, на магіле бабулі на роднай Віцебшчыне ставіла вялікі каменны крыж.

Падкрэслена падтрымлівала Жэню Янішчыц, калі на крыштальна-чыстую паэтку абрушылася бяда. Падкрэслена ездзіла з Жэняй да знахаркі на Віцебшчыну.

Калі Вера Вярба стала маці, дык, калі можна так сказаць, класічна шалёнай. Гэта не з рэаліі паэзіі, гэта з душы Веры Вярбы як маці вырваўся паганскі голас мацярынства: «Ваўчыцай пераскочу поле... за твой адзіны слабенькі крык».

Апошнім часам рэдка калі можна ўбачыць Веру Вярбу. Заходзіла ў выдавецтва, дзе мае выйсці выбраная паэзія «Апошні верасень».

Вера Вярба самотніца, як сама паэзія.

*1993*

# *Ранішні і безабаронны*

Першы свой верш надрукаваў ён у тым узросце, калі яшчэ амаль усе вяршуюць — дзесяцікласнікам. І надрукаваў яго ў роднай раёнцы. Потым, у 1979 годзе, на адрас слаўгарадскай раённай газеты «Ленінскае слова» прыйшоў выклік супрацоўніку рэдакцыі Паўлу Вераб'ёву на нараду маладых літаратараў у Мінску.

Звычайна абласныя аддзяленні Саюза пісьменнікаў рэкамендуюць удзельнічаць у нарадах самых актыўных пачаткоўцаў. І тым больш здзівіўся малады паэт, даведаўшыся, хто яго рэкамендаваў, хто выклікаў у Мінск. Перад пачаткам нарады па даўнім звычаі ўсе ўдзельнікі знаёмяцца, хто адкуль, хто каго выклікаў. І дужа нечакана было даведацца Паўлу Вераб'ёву, што выклікаў яго сам Міхась Стральцоў. Доўга карцела пасля запытацца ў свайго земляка, як гэта ён запрасіў на нараду зусім незнаёмага чалавека, тым болей паэта. Але не ставала смеласці і ўпэўненай дзёрзкасці, якой празмеру ў бальшыні нашай літаратурнай змены. У 1986 годзе (за год да смерці прызнанага майстра і настаўніка маладых) асмялеў ён падысці да Міхася Стральцова са сваімі вершамі і з даўнім пытаннем. Зямляк спакойна адказаў: «Ат, верш у раёнцы ўбачыў, спадабаўся, я і рэкамендаваў...» Але за гэтым кароткім адказам гэтульки душэўнага клопату, гэтулькі ўвагі да маладых, асабліва да землякоў. Баяўся малады паэт паказаць свае вершы земляку і настаўніку, бо ён жа заняты. Не хацелася лішні раз яго чапаць. І цяпер Павел Вераб'ёў набожна захоўвае лісты Міхася Стральцова, стральцоўскія праўкі.

Варта зазначыць, што ёсць агульнабеларускі характар, але ён складаецца з мясцовых характараў і асабліва з характару віцебскіх і магілёўскіх людзей. У Міхася Стральцова быў тыпова беларускі характар з магілёўскім адценнем, з магілёўскай падсветкай, з магілёўскай мяккасцю і роздумнасцю, з магілёўскай лагодай і рашучасцю. Характар Паўла Вераб'ёва блізкі да стральцоўскага. Ён увесь з

увагі і далікатнасці, з душэўнай чысціні і непахібнай пераконанасці. Чытач можа непаразумела ўсміхнуцца: усё пра характар ды пра настаўніка, а дзе ж сам паэт?

А ўся сутнасць сапраўднай паэзіі ў самым поўным выяўленні, праяўленні, самавыказанні вершатворцы. У асобе Паўла Вераб'ёва маладая беларуская паэзія мае прыклад супадзення характару творцы з ягонымі вершамі. Гэта паэзія стрыманая ў пачуцці і ўзважаная розумам, прапушчаная праз сэрца і ахалоджаная канкрэтным жыццём, няўмольным побытам. Вершы, у якіх пераважае роздум і памкненне спасцігнуць сэнс жыцця і вечнасці, аскетычна-дакладныя. Радкі пра тое спрадвечнае пачуццё, якое не дае жыццю спыніцца, трапяткія і па-беларуску цнатлівыя. Усмешкі, жарты па-народнаму добразычлівыя і жыццялюбівыя. Гнеў супроць усяго адмоўнага і злога мэтаскіраваны і сухі, як порах.

Паэт увесь час пытаецца ў сябе:

> Чысціню я трымаю ў руках,
> А жыццё ці ўтрымаю рукамі?..

Бо пасля Чарнобыля, чорныя хмары якога прайшлі і над роднай паэту Слаўгарадчынай, пытанне працягу жыцця, яго трывання на зямлі і вечнае, і самае надзённае.

Павел Вераб'ёў, ранішні і безабаронны, даверлівы і шчыры, ідзе да цябе, чытач. Прымі яго і паэзію ягоную адпаведна! Не ўкрыўдзі! Не абразь абыякавасцю.

*1990*

Рыгор Барадулін, Ларыса Геніюш і Міхал Дубянецкі на VIII з'ездзе пісьменнікаў Беларусі. *1981 г.*





З Уладзімірам Дубоўкам. *1960 г.*

З Піменам Панчанкам.
Гарбата ў віцебскім лесе. *1986 г.*





У дзень нараджэння Васіля Быкава.
*19 чэрвеня 1993 г.*

Са Станіславам Шушкевічам.
*1979 г.*





Чытае Яўгенія Янішчыц. Сядзяць (злева направа):
Р. Барадулін, В. Зуёнак, П. Макаль, А. Русецкі,
А. Куляшоў, І. Чыгрынаў, Н. Тулупава. *1977 г.*



Пад бацькавым вязам з Петрусём Броўкам.
*1975 г.*

Р. Барадулін, А. Вольскі, А. Бялевіч, А. Астрэйка.
*1975 г.*





З Міхасём Стральцовым
і Уладзімірам Кудзінавым. *1986 г.*

Ушачы. Рыгор Барадулін, Васіль Быкаў, Куліна Андрэеўна Барадуліна, Георгій Вылчаў і Барыс Забораў. *1964 г.*





Вада з ушацкай студні для Анатоля Анікейчыка. *1984 г.*

Іван Рыгоравіч і Куліна Андрэеўна Барадуліны. *30-я гг.*



9 «Б» клас Ушацкай школы. *1953 г.*
У другім радзе настаўнікі (злева направа): А. А. Красноў,
П. Ф. Харчанка і Ф. Ф. Багдановіч





Ва універсітэцкім скверы. Стаяць (злева направа):
Р. Барадулін, А. Клышка, В. Зуёнак, А. Вярцінскі,
Г. Бураўкін. Сядзяць: Ю. Свірка, М. Арочка, К. Цвірка. *1955 г.*

Нарада ў Каралішчавічах. Юрка Гаўрук, Уладзімір Караткевіч, Рыгор Барадулін, Мікола Засім, Васіль Вітка, Алесь Кузняцоў, Уладзімір Верамейчык, Юрась Свірка. *1955 г.*





У Міхаіла Ісакоўскага. Стаяць (злева направа): А. Грачанікаў, І. Шальманаў, Р. Барадулін. Сядзяць: М. Стральцоў, Г. Бураўкін, М. Ісакоўскі, Р. Тармола, А. Сідарэнка, М. Маляўка. *1964 г.*

Каля бацькавага вяза. *1983 г.*



З дырэктарам Ушацкай школы
Алесем Антонавічам Карабанём. *1977 г.*





Выдавецтва «Мастацкая літаратура».
М. Аўрамчык, У. Паўлаў, С. Міхальчук, Р. Барадулін,
У. Шахавец, П. Прыходзька. *1980 г.*



На ганку мамінай хаты

Брагу я падстаўляю каўшу—
Хмель не ўвесь яшчэ лета забралі.
Успаміны смяшліва пішу,
Развітацца спяшаю з сябрамі.

У мяне паўваходзілі ўсе,
Праз мяне павыходзілі моўчкі.
Хто нямы галаю іх пасе?
Зараслі церамы-церамочкі.

Я прашу затрымацца душу,
Патрываць маё цела слабое.
Успаміны тужліва пішу,
Каб паспець
Развітацца з табою...

# *Мёртвая зямля — мёртвая нацыя*

Антычны міф пра Антэя вядомы ўсім. Здавалася б, хрэстаматыйны, прыгожа-ўзнёслы. Але ён надзённы на ўсе вякі, пакуль будзе круціцца пад сонцам зямля. Дотык да роднае зямлі патрэбны не толькі чалавеку, расліне, усяму жывому, але і гуку, фарбе, слову. Нездарма ў наш час, калі збіралася кіроўчая і накіроўчая сіла пабудаваць «свой, новый мир», у першую чаргу адрывалі чалавека ад сваёй зямлі, ад свайго краявіду, ад гуку роднай мовы. Усіх клікалі на новабудоўлі, каб шапкамі закідаць загнілы капіталізм, каб чалавек быў не гаспадаром, а выканаўцам гарачкавых ідэй і жалезных указанняў, якія сыходзілі з аднаго цэнтра. Бо па Маякоўскаму «земля начинается с Кремля». І няма болей ні земляў, ні світанняў, усё — і дзень белы пачынаўся з Крамля, і час маскоўскі адлічваў паспешліва гадзіну за гадзінай, якія бліжылі абагулены, абкалгашаны народ да светлай будучыні, да гарызонтаў камунізму, хоць народ даўно і трапна ўдакладніў, што гарызонту ніколі не дагоніш. Калгасніку казалі, што сеяць, калі араць, калі збіраць ураджай, які рос няўхільна, як і дабрабыт простага савецкага чалавека. Да гэтага не магу забыцца Дзён беларускай літаратуры на Гродзеншчыне (заўважце, як Дні літаратуры Афрыцы ці Азіі). Было гэта недзе пад канец лютага. У кожным райкоме партыі нам даверліва паведамлялі навіну, што вясна будзе як ніколі ранняя. Калі я нясмела запытаўся, адкуль такія весткі, мне з гонарам паведамілі: сказалі на нарадзе ў ЦК рэспублікі. Дарэчы, у той год вясна была як ніколі позняя.

Адарваўшы чалавека ад зямлі, лягчэй было адвучаць ад працы. І з гэтай задачай кіроўчая і накіроўчая сіла паспяхова справілася. Заставаўся яшчэ адзін апошні пункт намечанай праграмы: сарваць усіх з родных гнёздаў, зрабіць усіх камандзірованнымі, каб нічым не даражылі, каб ні па чым душа не балела. Той, хто лёгка прайшоў усе тры кругі, рабіўся чалавекам будучага. А хто трымаўся за сваю зямлю, за сваю мову, за свае звычаі, называўся

кулаком, дробнаўласнікам, нацыяналістам. Такім не было месца ў сацыялізме, які называўся то сталым, то развітым. Хоць вядома, як у народзе кажуць, калі рука развілася, значыць, яна працаваць не можа. Усе адсталыя элементы ліквідоўваліся як клас. Да ўсяго быў класавы падыход.

Напачатку з цяжкасцю, але год ад году з поспехам, які ўсё ўзрастаў, адвучалі ў маштабах вялікай дзяржавы спаконных аратаяў ад зямлі, ад працы, ад мясцін, абжытых душой ды потам продкаў. Выраслі ледзь не дынастыі вечных энтузіястаў, якіх болей задавальнялі пад'ёмныя, чым скупая савецкая зарплата, але заробленая сваёй працай. Паступова летуны перараслі ў несуноў. Яшчэ былі і везуны, якім на дом усё гатовенькае вазілі. Калгас быў новым прыгонам. У прыгоне гэтым трымаў «молоткастый, серпастый советский паспорт». І Маякоўскі быў цынічна справядлівы, калі пісаў: «Читайте, завидуйте — я гражданин Советского Союза». Бо без гэтага дубліката неацэннага грузу чалавек, які гучаў горда ў перадавых артыкулах падцэнзурнай прэсы, быў ці прыгонным калгаса, ці «простым советским заключенным». Працадзень у калгасе быў мала сказаць скупы, ён быў міфічны. Падчас у прыгарадных калгасах выручаў крыху пралескавы працадзень — капейкі, выручаныя ад продажу першых кветак вясны, шчодра і стараннa апетых паэтамі ўсіх пакаленняў. Часта чулася: «Усё вакол калгаснае — не маё», як сумны варыянт вядомай песні. Калгаснае начальства змагалася то з кулакамі, то з аднаасобнікамі, то з вечным, атрыманым у спадчыну ад праклятага ладу, інстынктам дробнаўласніцтва. У гады маёй маладосці пры паступленні ў ВНУ запаўнялася анкета, якая пыталася, чый ты родам, адкуль ты. Немалаважнае значэнне мела графа сацыяльнага паходжання. На першым месцы ішлі з рабочых, пасля з сялян і як яшчэ дапушчальны варыянт — з інтэлігенцыі.

Мяне заўсёды бянтэжыць вызначэнне «працоўнае сялянства». Як быццам яно можа быць непрацоўным. Рабочы, той проста рабочы, яшчэ ён жа і гегемон. Грэблівыя адносіны да селяніна маюць глыбокія карані ў бальшавізме, дзе не хацелі чакаць літасці ад прыроды.

Ва ўсе часіны зямля і аратай першыя прымалі на сябе ўдары ўсіх войнаў, усіх смут, усіх бед. Успомнім хлеб ваеннае пары, успомнім вёску, якую абіралі і акупанты, і партызаны. Вёска ніколі і нікуды не адступала, як і яе жыхары. Нават самагонка, якую, не хаваючыся, гнала вёска, патрэбная была партызанам нароўні з патронамі, бо ішла не толькі

ў лясныя шпіталі, але і ў рацыён камандзіраў і камісараў. Першая пацярпела зямля і ад чарнобыльскае катастрофы.

Горад першы ўздымаўся з руінаў, вёска — потым. Спачатку трэба было вёсцы накарміць хлебам горад, потым самой хлеба пакаштаваць.

Чым толькі не захапляліся за апошнія дзесяцігоддзі — і ўзбуйненымі калгасамі, і калгасамі-мільянерамі, цэлыя рэгіёны падводзіліся пад графу «неперспектыўныя вёскі». Здаецца, яшчэ не забыліся пацёмкінскія вёскі, а зусім яшчэ нядаўна шырока рэкламаваліся прэсай і тэлерадыёвяшчаннем падобныя калгасы. І ў Сярэдняй Азіі ў багатых калгасах яшчэ багацей абстаўляліся гасцініцы, як казачныя церамкі, для абласнога і рэспубліканскага начальства. Сцены з кілімаў, столі з кілімаў, падлогі — абавязкова з кілімаў, каб мякка ступалася чарговаму ўдзельнаму князьку. Наўкол фазаны, газелі ды ўся астатняя экзотыка Усходу. У нас у рэспубліцы адпаведна болей сціпла абстаўляліся паляўнічыя хаткі, мясціны для рыбнай лоўлі з парыльнямі. Палявалі па-хатняму, па-гаспадарску ад Белавежскай пушчы да Бярэзінскага біясфернага запаведніка. Сама Белавежская пушча сціпла лічылася паляўнічым угоддзем ЦК і Саўміна.

Пасля ў калгасах з'явіліся катэджы, двухпавярховыя хаціны без хлеўчукоў, без гаспадарчых прыбудоў, без хоць бы маленькіх прысядзібных кузлачкоў зямлі. Калгасныя рэстараны з камiннымі заламі на цэнтральных магістралях былі разлічаны болей на ашарашванне заезджых рэпарцёраў. А трэба, каб чалавек босай нагой адчуваў толькі што ўзараную зямлю, тады і асфальт, і паркет у камiннай зале зарэкламаванага паказнога калгаса не перашкодзяць яму захаваць адчуванне гэтага халадку, гэтай свежасці.

Мяне ўпершыню недзе на пачатку 70-х гадоў уразілі штучныя кветкі ў Швецыі. Цяпер я ўжо спакойна гляджу, як у нас і ў крамах, і нават на Камароўскім рынку гандлююць штучнымі рамонкамі. Вядома, трэба мець сілу, каб паваражыць на такіх: кахае — не кахае. З аднаго боку, ашчаджаючца рэдкія краскі, а з другога — мярцвее зямля. Цяпер рыбакі могуць ісці ў заклад, што на вялікім кавалку калгаснай ці саўгаснай зямлі не выкапаеш і двух чарвякоў, як у нас на Ушаччыне называлі — «мазюкаў». Зямля, утрамбаваная звышцяжкімі, танкавага ўзору трактарамі, атручаная хімікатамі (варта пісаць праз злучок: хімі-катамі, бо гэта сапраўды каты), знясіленая бязглуздай меліярацыяй, знаходзіцца на штучным дыханні. Яна ў рэанімацыі. У рэанімацыі і наша беларуская мова, бо пазбаўлена кіслароду,

бо падрэзаны яе карані. Таму гэтак багата ў нас штучных, сінтэтычных слоў. Адпаведна і цэлы заклік у родную літаратуру піша на сінтэтычнай мове, называючы яе ў сваё апраўданне гарадской. Гэта не іх віна. Гэта віна палітыкі дзесяцігоддзяў, палітыкі, якая зводзіла, як у нас кажуць, на сомаў хвост — мовы, нацыі.

Рэанімацыйным варыянтам гучаць і таварыствы розных моў у рэспубліках, асабліва ў Беларусі. На самым пачатку 90-х гадоў я запытаўся ў госця — польскага пісьменніка Рышарда Капусцінскага, як бы выглядала Таварыства польскай мовы ў Варшаве. Ён толькі недаўменна пацiснуў плячыма. Нам, як тым індзейцам у пэўным штаце, далі дазвол нясмела напомніць пра сябе, замест права беларуса гарантавана паўсядзённа і ў побыце, і на працы гаварыць і пісаць па-беларуску. Бо беларуская мова, кожны гук яе вырас з беларускай зямлі. А зямля якраз знікае ў нас пад нагамі, яна мёртвая, яна дабіваецца чарнобыльскім генацыдам. А на мёртвай зямлі — мёртвая нацыя. А зямля і сёння без гаспадара.

# *Ён рухаецца...*

***З выступлення на кангрэсе ПЭН-клуба ў Парыжы ў 1991 г.***

Канец XX стагоддзя нервовы і нецярплівы, поўны нечаканых праяў, непрадбачаных стасункаў. Прывід камунізму неахвотна, але няўхільна пакідае Усходнюю Еўропу. Ды прывід на тое і прывід, каб узнікаць раптоўна, каб вяртацца на ранейшае месца, якое ўпадабалася яму. Прывід, вядома, рэалія з вобласці міфалогіі, але ідэалогія пэўнай арыентацыі прымае яго за рэальнасць. Асабліва моцна трымаецца прывід тых мясцін, дзе яго найболей не хочуць. У прыватнасці ў Балтыі — Літве, Латвіі, Эстоніі. Народ Балтыі большасцю галасоў выказаў сваё жаданне быць самастойнымі дзяржавамі, якімі яны і былі да гвалтоўнага далучэння ў адпаведнасці са змовай Рыбентропа — Молатава.

Балтыйцы ж не возьмуць сваю зямлю ў торбы ды не адплывуць з ёю ў невядомым кірунку. Будзе незалежнасць, будзе самастойнасць — будзе і добрасуседскасць, і вольнае супрацоўніцтва і з непасрэднымі суседзямі, і з усім светам. Даволі нам замкнёнасці, адасобленасці, свайго саматужнага шляху, які прывёў адну з найбагацейшых часцін свету да сусветнай галечы, да бяспраўя. Ёсць агульны шлях усяго чалавецтва да святла, да прагрэсу, яго і мусім трымацца.

Што тычыцца Беларусі, дык яна ў асабліва цяжкім становішчы і ў нацыянальным, і ў чыста чалавечым. Беларусь цяпер жыве ў новай эры, у эры паслячарнобыльскай. Няўжо не чуе свет, як стронцый трашчыць у нашых касцях? Чарнобыль зрабіў беларусаў святымі — мы ўсе свецімся чарнобыльскімі німбамі, бо ўсе мы апраменены. На карту рэспублікі жахліва глянуць, яна ўся спярэшчана паметкамі забруджанасці. Дарэчы, бяздушныя чыноўнікі выдумалі слова «забруджанасць». Як быццам можна вымыць, адмыць, здаць у нябесную хімчыстку землі, якія практычна загублены, знішчаны і ніколі на памяці дзесяткаў пакаленняў беларусаў не будуць прыдатнымі на жыццё, на пражыванне на іх.

Пасля выбуху на Чарнобыльскай АЭС выкінута на Беларусь 77 кг радыеактыўных рэчываў, некалькі тон ядзернага паліва і графіту. Па выпаданню цэзію-137 выбух на Чарнобылі эквівалентны 300 бомбам Хірасімы, з 300—210 прыпадае на Беларусь. Газета «Шпігель» 23 красавіка 1990 года пісала, што пры чарнобыльскай аварыі было выкінута цэзію болей, чым пры ўсіх выпрабаваннях атамнай зброі разам узятых. Акрамя таго, калі глушылі 4-ты рэактар, яго закідвалі свінцом, свінец выпарыўся і ўзняўся ў паветра. У раслінах асеў выкінуты трыцій (ізатоп вадароду, цяжкі вадарод) і радыевуглярод. Не хачу згушчаць фарбы, але заўважу і такую акалічнасць, што перыяд паўраспаду плутонію 24 400 гадоў, а трэба 10 гэткіх перыядаў, каб ён поўнасцю распаўся. А з плутонію ўтвараюцца гарачыя часцінкі, якія жывуць у паветры. Трапіць такая разам з уздыхам у лёгкія ці ў страўнік — адразу рак. Атрымліваецца, што і дыхаць небяспечна. Радыебіёлагі лічаць, што пік захворвання на лейкемію чакаецца на сёмым годзе пасля выбуху, гэта значыць — у 1992—1993 гадах. Гэты рост ужо цяпер адчуваецца. Няма ніводнага дзіцяці на тэрыторыі Беларусі з нармальнай шчытападобнай залозай. А да ўсяго трэба дадаць лейкемію нацыянальную, духоўную. Рак крыві нацыі — нацыянальны нігілізм, амаль афіцыйны вялікадзяржаўны шавінізм, вынішчэнне мовы і культуры адной з самых старажытных славянскіх нацый. А яшчэ трэба ўлічыць сталінскі генацыд, вынішчэнне сялянства — асноўнага захавальніка ўсяго нацыянальнага, спрадвечна-генетычнага.

Пакуль што пракажона звыш 23 % тэрыторыі Беларусі, а не варта забывацца на хуткасць распаўзання, размазвання радыяцыі. Яна не такая ўжо і малая — 35 кіламетраў у год. Прыгадаем, што ў даўгія часіны ледавік, які каменным панцырам сціскаў Еўропу, рухаўся з хуткасцю некалькі дзесяткаў метраў у год. Ледавік радыяцыі сунецца на Беларусь і на ўсю Еўропу сучаснымі тэмпамі. Асабліва жахлівыя тры фактары радыяцыі: канцэрагенны, мутагенны і імунадэпрэсіўны. Ужо цяпер на тэрыторыі Беларусі нараджаюцца мутанты і ў людскім, і ў жывёльным свеце, перараджаюцца нават травы, расліны. Ідзе непадкантрольная генная інжынерыя. Падаўленне імунітэту — гэта ж няўмольны атамны СНІД.

Асабліва балюча глядзець на малюнкі беларускіх дзяцей, яны малююць неаб'яўленую атамную вайну. Забітыя вокны хат, вычварны грыб, з аблiччам нейкай неіснуючай жы-

вёліны, традыцыйны беларускі бусел, спрадвечны ахоўнік беларускага роду, і той абвуглены, з нямоглымі крыламі. Мастакі заўважылі, што дзеці з так званых пакуль што незабруджаных тэрыторый малююць усё ў жахлівых, чорных фарбах, а дзеці з чарнобыльскай зоны — у светлых. Гэта ўпартая мара ўбачыць чысты, вясёлкавы свет, свет, які чалавецтва павінна пакінуць дзецям, змене сваёй.

Не бывае бяды чужой, бяда агульная. Бо ледавік радыяцыі, калі не запыніць яго, папаўзе далей і далей. Прыслухайцеся, ён рухаецца...

# *Ці цяпер адродзімся, ці ніколі!*

*З адказаў на анкету часопіса «Нёман» 1991 г.*

— *Як вы ацэньваеце становішча Беларусі ў цяперашняй палітычнай сітуацыі?*

— Становішча Беларусі ў цяперашняй палітычнай сітуацыі, як і ва ўсе вякі, хісткае. Ужо нават рабочаму класу, якім партакратыя палохала інтэлігенцыю і ненавісны ёй Беларускі народны фронт, зразумела, што патрэбны суверэнітэт, што толькі палітычная і эканамічная незалежнасць могуць вывесці рэспубліку з таго тупіка, з таго прадоння, куды трапіла Беларусь дзякуючы імперскай палітыцы Масквы, так званага цэнтра, і адзінаўладдзя партыі, якая імянуе сябе камуністычнай. Калі ж пад камунізмам разумець утопію, дык назва партыі цалкам апраўдвае сябе. Рэспубліка практычна ўсе гады савецкай улады была эксперыментальнай. На ёй выпрабоўваліся і першыя дубінкі, і першыя, часцей за ўсё неабгрунтаваныя, пачынанні цэнтра, і дэнацыяналізацыя. Яшчэ здзіўляцца не перастаеш, як у такіх умовах маглі з'явіцца і ацалець Васіль Быкаў, Алесь Адамовіч, Зянон Пазняк, проста сумленныя людзі, якіх не змаглі адвучыць працаваць, ашчаджаць родную мову, звычаі, норавы. І дарэмна партчыноўнікі і Масква лічаць, што беларусы самыя спакойныя, самыя пакладзістыя, самыя рахманыя. Усе войны, якія ішлі праз Беларусь, паказалі партызанскі характар беларусаў. Характар наш падобны да торфу, калі ўжо загарыцца, дык патушыць будзе цяжка.

— *Вашае стаўленне да сучаснага беларускага Адраджэння?*

— Ва ўсе вякі беларусы толькі і робяць, што адраджаюцца — насуперак лёсу і волі ўсіх заваёўнікаў. Асабліва стараліся нас унікнуць з агульнага еўрапейскага кантэксту — бо мы нацыя і дзяржава еўрапейскія,— дэнацыяналізаваць — і царская імперыя і яе прамая спадчынніца —

савецкая. Паўсюль, дзе толькі можна і няможна, удзень і ўночы падкрэслівалася, што Расія першая сярод роўных, што толькі яна нам прынесла святло, дазволіла сонцу ўзыходзіць і для нас, малодшых братоў, хоць у гэтых братоў малодшых была свая культура, сваё пісьменства і нашыя асветнікі вучылі царскіх дзяцей. Адчуваю, што заносіць мяне, але хачу толькі падкрэсліць — адраджэнне нам неабходнае, інакш так і застанёмся ў малодшых братах, не Янкамі, а Іванамі, што радні свае не памятаюць. Ці цяпер адродзімся, ці ніколі!

— *Якія працэсы ў беларускай літаратуры апошніх гадоў (1986—1991), на Ваш погляд, найболей прыкметныя? Якія імёны?*

— Адыход ад шаблоннага мышлення, ад славаслоўя, ад хлусні, вяртання духоўнай спадчыны беларускага народа, больш пільная ўвага да свае гісторыі, культуры. Апошняе асабліва заўважаецца ў маладой змены вучоных, пісьменнікаў, нават у мастакоў і акцёраў, апошнія ў асобе сваіх самых абтытулаваных прадстаўнікоў былі ў лепшым выпадку абыякавыя да ўсяго беларускага, усяго нацыянальнага. Гэта былі праслаўтыя інтэрнацыяналісты. На шчасце, у нас з'явілася цэлая плеяда нацыянальна свядомых пісьменнікаў. Па-новаму, па-асабліваму засвяціліся іхнія маладыя, адграненыя высокай адукацыяй таленты. Тут хацеў бы назваць Уладзіміра Арлова, Леаніда Дранько-Майсюка, Лявона Баршчэўскага. І нельга не парадавацца прыходу ў нашую культуру такіх бліскучых публіцыстаў, як Алесь Лукашук, Сяргей Навумчык.

— *Вашае стаўленне да беларускай эміграцыі, літаратурнай у прыватнасці?*

— Мы ўсе ў даўгу перад нашай беларускай эміграцыяй, перад пісьменнікамі, якія дзівам ацалелі ад сталіншчыны. Гэта яны ашчаджалі чысціню беларускае мовы, натуральны для нашае мовы правапіс. Яны першыя казалі праўду пра сталінскі генацыд. Мы пачалі гаварыць, калі было дазволена. Мы мусім папрасіць у нашае эміграцыі прабачэння за тыя цэбры памыяў, за ўсе тыя абразлівыя ярлыкі, якія вылівалі на іх, навешвалі на іх па ўказцы КДБ і партыі. Газета «За вяртанне на радзіму» (потым «Голас радзімы») з падачы арганізацыі імя Лаўрэнція Паўлавіча нават слова

выдумала для большае знявагі «бебурнацы» (беларускія буржуазныя нацыяналісты), каб супрацьпаставіць іх рабоча-сялянскім інтэрнацыяналістам, каму — дзе хлеб, там і радзіма. Трэба пашанліва выдаць нашую эміграцыйную літаратуру, як гэта робіць Расія.

*— Ці лічыце Вы, што ў саюзнага, альбо «русскоязычного», чытача ёсць аб'ектыўнае ўяўленне пра беларускую літаратуру? Што перашкаджае і што спрыяе гэтаму?*

— Безумоўна, аб'ектыўнага ўяўлення пра нашую літаратуру ў рускамоўнага чытача няма. Дый наўрад ці будзе. Тут прычын шмат. І якасць перакладаў, і пранырлівасць адных, быццам бы жывых класікаў на адзін дзень, і ляната, і адсутнасць прабіўной здольнасці ў сапраўды яскравых талентаў і маладых, і старэйшага пакалення пісьменнікаў. Ёсць і даўні парадокс. У арыгінале, па-беларуску, паэт гучыць быццам бы новатарам, а перакладзены, дакладней, прыведзены да тых узораў, якія ён пераймаў, успрымаецца рускім чытачом як трэці ці нават чацвёрты экземпляр з-пад капіркі. А наогул, існасна нацыянальная паэзія практычна не перакладаецца. Могуць быць хіба што таленавітыя варыянты на зададзеную тэму на іншай мове. Паспрабуйце, напрыклад, перакласці на рускую мову крылатае коласаўскае «Мой родны кут, як ты мне мілы». Радок стаў беларускай ідыёмай, знаёмай кожнаму беларусу з маленства. Альбо тургенеўскае «Как хороши, как свежи были розы»— перакладзіце раўнацэнна на беларускую мову.

*— «Паэт — ты цар, жыві адзін»; «Паэтам можаш ты не быць, ды мусіш быць грамадзянінам». Якая пазіцыя Вам бліжэй?*

— Пасля звяржэння царызму афіцыйная ідэалогія, няйначай, хацела б гэтую фразу чытаць, як «паэт — ты таварыш». А слова «таварыш» паходзіць ад слова «тавар». Партыйная ўсёдазволенасць зліквідавала паняцце суверэннасці душы, духоўнай незалежнасці, адно што падкрэсліваючы, што «жыць у грамадстве» і быць незалежным ад яго» нібыта і па канстытуцыі забараняецца. Усе за аднаго, адзін за ўсіх, а ў выніку ніхто ні за кога, ніхто ні за што не адказвае. Рэальней было — усе на аднаго! Творчаму працаўніку аднаму жыць не давалі, і, бадай што, не скора гэтакую раскошу дазволяць. Усіх павінны былі ахапіць калекты-

вамі, усіх заразіць калектыўным мышленнем, а ад калектыўнага мышлення да калектыўнага даносу — адзін крок. Дай Бог, каб у нас што-небудзь змянілася ў нармальны, людскі бок!

Што было прагрэсіўным і прачутым душой для Някрасава, тое сталася прымусовым і недарэчным ва ўмовах таталітарнага рэжыму. Адсюль і заклікі станавіцца нагой на горла сваёй жа песні. Мне па душы першая пазіцыя, у прыватнасці, два заключныя словы.

— *Ці магчымы зварот да «жыцця ў хлусні»?*

— Словы з «царкоўна-савецкай» песні «Широка страна моя родная», пра тое, што «другой такой страны не знаю», дакладныя да жудаснасці. Такой краіны болей няма і быць не можа. І не сумняваюся, рэжым, за плячыма ў якога гэтакія цёмныя сілы, захоча яшчэ не раз вярнуць усіх да «жыцця ў хлусні». Іншая гаворка, што з гэтага выйдзе. Хто вырваўся з пашчы пасткі, не спяшаецца зноў у яе трапіць.

— *Як уяўляеце сябе — як пісьменніка — сёння, заўтра?*

— Аптымізму мала. У нас размылася самое паняцце пісьменнік, падмянілі яго членам Саюза пісьменнікаў. У краіне дзесяткі тысяч гэтых членаў. Саюзы — спараджэнне сістэмы — зжылі сябе ў век амаль пагалоўнай пісьменнасці. Цяпер няма неабходнасці адрываць ад станка чалавека і рабіць з яго абавязкова рабочага, пралетарскага (хопіць, быў адзін пралетарскі, чым імем абазваныя як не ўсе паркі культуры і адпачынку, тэатры, вуліцы, бібліятэкі) пісьменніка. Гэтаксама і з сялянскімі пісьменнікамі. Чытача ўжо болей не абалваніш «шэдэўрамі» сацыялістычнага рэалізму, не прымусіш чытаць тое, што яму не па душы. А душу гэтую, як рыбу хімікатамі, атруцілі і непрыхаванай халтурай, і нацыянальнага пляцення лапцямі пра шчаслівую будучыню, і самае жахлівае — пустымі прылаўкамі і страхам магчымага голаду. Пісьменніку застаецца толькі спадзявацца на самога сябе, на свае духоўныя і душэўныя сілы, каб выстаяць, застацца самім сабою. Надышла пара падумаць, а хто будзе чытаць цябе, для каго пішаш?

## *Калі няМоМу вяртаюць мову...*

*З інтэрв'ю газеце «Комсомольская правда» 1993 г.*

*— Існуе ходкае ўяўленне, што беларускі народ сам адмовіўся ў сваёй большыні ад роднае мовы?*

— Гэтакае ходкае ўяўленне, а дакладней думка зверху, дагэтуль падаграваецца рознымі пракамуністычнымі арганізацыямі з дэмакратычнымі назвамі. Добраахвотна... Гэтак жа добраахвотна арганізоўваліся калгасы, гэтак жа добраахвотна падпісваліся на пазыку, гэтак жа добраахвотна стопрацэнтна галасавалі за блок камуністаў і беспартыйных на чале з вялікім кормчым усіх нашых перамог.

Выкарчоўванне ўсяго беларускага пачалося ў пачатку 20-х гадоў. Гэта ў 1937-м і наступных гадах часцей расстрэльвалі. А на досвітку новае эры высылалі беларускую інтэлігенцыю ў мясціны не гэтак і аддаленыя на вывучэнне мовы партыі. Высылалі мовазнаўцаў, гісторыкаў, філосафаў. Знішчалі мозг, клёк нацыі. Давалі тэрмін і кіламетры. Гэтулькі, значыць, тысяч кіламетраў ад Беларусі. Любы, хто гаварыў па-беларуску, аўтаматычна залічваўся ў нацыяналісты. Дарэчы, пра гэта па-быкаўску глыбока напісана ў ягонай аповесці «Сцюжа». Не надта і ўтойваўся механізм выкарчоўвання. Здаецца мне, механізм і да сённяшняга дзейнічае.

Не трэба забывацца, што пад рознымі абэлкамі на Беларусі адбывалася масавае насаджэнне рускіх партыйных, кэдэбісцкіх, дзяржаўных чыноўнікаў. Яны і задавалі тон. Любая даведка — па-руску. Любы мітынг, аб прастольных партыйных святах і казаць лішне,— усё па-руску. І чалавек, трапіўшы з вёскі ў быццам бы беларускі горад, губляўся. А тут яшчэ па-кэдэбісцку пільны напамін пра нацыяналізм — пра самы страшны расхістальнік устояў імперыі. «Союз нерушимый республик свободных сплотила навеки великая Русь». Непарушны. Навекі. Вялікая... Што заставалася не гэтакай вялікай рэспубліцы?

Такі абавязковы ахоп рускай моваай неабсяжных абсягаў, дарэчы, згубна адбіўся і на рускай мове. З глыбокага во-

зера не зрабіць акіян, хіба што вялікую мелкаводную лужыну. Прынясце закону не аб мове, а, заўважце, аб мовах, засталося на паперы. Зрухі ў свядомасці людзей ёсць, але яны яшчэ слабыя. Добра, што маладое пакаленне, дзякуючы намаганням Беларускага народнага фронту «Адраджэнне» і сапраўды нацыянальнай інтэлігенцыі хінецца да роднае мовы, да роднае культуры, да першапластоў сваёй гісторыі.

*— Аднак часам даводзіцца чуць, што, бачыце, руская мова з практычнага пункту гледжання болей карысная...*

— Не думаю, што многія сапраўды гэтак лічаць. Гэта яшчэ ад царскай, савецкай імперыі прыйшло перакананне, што начальнік павінен гаварыць па-руску. У нашыя дні яскравы прыклад таму: «чырвоныя памешчыкі» — старшыні калгасаў дома гавораць часцей за ўсё на «дземянцееўцы» (маецца такі тэрмін у нас у гонар першага Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі), а перад мікрафонам стараюцца гаварыць очань «по-русски», як бацькі партыі — ад райкома да ЦК. Усё ад невуцтва.

*— Вас вельмі цяжка перакладаць на іншыя мовы — і гэта яшчэ адзін доказ, што беларуская мова — самастойная, а не дыялект рускай мовы. Ці не было спакусы ў Вас, як у многіх, пісаць «прасцей», каб прасцей перакладалі, ну, хоць бы для большае вядомасці?*

— Беларуская мова не саступае перад іншымі славянскімі мовамі ні сваім гістарычным існаваннем, ні багаццем слоўніка, ні мілагучнасцю. Пішу я ў сілу сваіх здольнасцей так, як успрымаю свет,— калі пераходзіць на высокі тон. Ну а пісаць прасцей, каб лягчэй перакладалі, жадання не было. Гэта б азначала, што я не веру ні сабе, ні тым бліскучым (усім ім дзякуй!) перакладчыкам, што перакладалі мяне.

*— А для каго пішаце Вы? Ці ведаеце Вы свайго чытача?*

— Не, вядома, не ведаю. Іншы раз складваецца ўражанне, што пасылаеш поклічныя сігналы ў невядомыя сусветы. Ды я гатовы пісаць і для аднаго *беларускага* чытача. Пагоня па масавага чытача, з аднаго боку, прывідная, з другога — смешная.

*— Ці не здаецца Вам, што адміністрацыйнае ўкараненне беларускае мовы можа выклікаць адваротную рэакцыю, супраціўленне?*

— Бальшавіцкае мышленне, яно унікальнае. Зачыняць нацыянальныя школы, перасяляць цэлыя народы можна, ні ў кога не пытаючыся, а вяртаць гораду ці краіне іхнія гістарычныя найменні, нацыі — родную мову — справа непадумна цяжкая. Пачынаюць крычаць пра волю народа, пра ўціск інтарэсаў насельніцтва, пра матэрыяльныя страты. Калі нямому вяртаюць мову, ці патрэбнае славаслоўе?

Тое, што ўкралі ў народа царскія і бальшавіцкія самадзяржаўнікі, надышоў час вярнуць. Гэта натуральна і з чалавечага, і з юрыдычнага пункту гледжання. Самое імя краіны Беларусь робіць зразумелым, што дзяржаўнай мовай павінна быць родная, беларуская! «Северо-Западным краем» мы ўжо называліся.

*— Здаецца, у 20-х гадах у Беларусі на роўных існавалі школы на чатырох мовах: беларускія, рускія, польскія, яўрэйскія. Ці магчыма гэта сёння? Як глядзіце Вы, напрыклад, на стварэнне літоўскіх школ у Беларусі?*

— Я за тое, каб былі школы на рускай, польскай, літоўскай, яўрэйскай, татарскай мовах. Але, на жаль, у нас з цяжкай, а не з лёгкай рукі савецкага рэжыму, толькі рускамоўныя школы.

*— Ці здольная зразумець, як Вы лічыце, руская інтэлігенцыя боль інтэлігенцыі Беларусі?*

— Любая інтэлігенцыя разумее боль інтэлігенцыі іншае нацыі. Руская — асабліва. Думаю, што вераць у адраджэнне беларускай мовы Булат Акуджава і Андрэй Вазнясенскі, Юрый Каракін ды Ільля Фанякоў, Якаў Хелемскі і Канстанцін Ваншэнкін. Пералік атрымаецца, на шчасце, такі, які выкліча павагу.

*— Ведаем, дзед у Вас латыш. Ці адчуваеце Вы крэўную сувязь з Латвіяй?*

— Мой дзед па матчынай лініі — рыжанін Андрэй Галвіньш, механік па млынах. Усё ўмеў. Ведаў пяць моў. Балтыю, асабліва Латвію, люблю. Мне яе заўсёды не стае.

Там шмат сяброў. Стараюся перакладаць латышскіх паэтаў. Мову ведаю слаба, але яна гучыць ува мне, як рэха.

— *Вашая малая радзіма — гарадскі пасёлак Ушачы на Віцебшчыне. Ці часта бываеце там?*

— Пры любой магчымасці імкнуся пабыць у Вушачы. І гэтакае ахоплівае дома пачуццё, што нікуды адтуль не выязджаў. Гэта мама мая — Акуліна Андрэеўна, дала мне жыццё, падарыла мову, пакінула ў спадчыну Вушачу. Дзякуй ёй! Хоць землякі мае вершаў не чытаюць, аднак, не ведаючы гэтага, яны дапамагаюць мне пісаць вершы.

# Існасць

### *Да абрысаў беларускае душы*

Існасць, менталітэт, душа народа. Паняцці, адцягненыя сваім сэнсам высока і далёка, як зоркі ў нябёсах, і доле, і пад рукою, як апалы яблык, што ў сузор'і да сябе ж падобных на яблыні паўтараў асязальныя зоры.

Душа сама па сабе — касмічная цыганка, вандроўніца, яна вечная, яна — нязменная. Яна селіцца, тайбуецца ў целе людскім часова, так бы мовіць, кватаранткаю. Але і кватарант пераймае нешта ад гаспадара, вандроўнік ад мясціны перадыху, цыганка ад тых, каму яна варожыць.

Душа народа, нацыі гэтаксама, як і душа кожнае паасобіны, звыкае да месцейша свайго, кіруючы думкамі і подумкамі народа, сама робіцца ў нечым падобнаю да яго, у нейкае ступені паддаецца наваколлю, асяродку, калі хочаце, нават паветру. Падпадае пад уплыў.

Біяграфічныя звесткі душы народнае ў казках і ў песнях, у прыказках і прымаўках, у абрадах, у календары народным, у захаваным паганстве, дакладней, у жывучых рэштках ягоных. І чым болей захавалася ў побыце і ў поглядзе на свет паганства, тым болей першародная душа народа, тым болей бліжэйшая яна да першакрыніц міфатворства.

Душа — валадарка над чалавекам. І чалавек, ведаючы гэта, спрабуе ўсё ж слаба пярэчыць ёй, нечым неяк стрымаць душу, бо нездарма кажацца: «Дай душы волю — завядзе ў няволю». І разам з тым: «Мая душка — не перабірушка», «Душа меру ведае». Пра лядашчага чалавека, у якім ледзь ліпіць душа ў целе, нязлосна пакепліваюць: «Толькі дух ды пятух». Бо дух, дыхаць, тхнуць, тхло, натхненне, задуха, задушыць, душа — словы аднаго кораня.

Беларус імкнуўся адухувіць наваколле нерукатворнае і рукатворнае, прыпадобіць нават побытавасць да сябе. У сваёй карміцельцы печы бачыць ён і чалеснік (сваё чало), і паднябенне (тут і паднебнае, паднябеснае ўяўленне, і паднябенне ў роце). У хаты таксама свой лоб — залобак (пазней ён аеўрапеіўся на франтон).

Душа мае часовую апратку. У беларуса, у прыватнасці, як носьбіта душы, апратка свая. Яна яшчэ з часін Бібліі — лён ды кужаль. (І, як выявіла чарнобыльская катастрофа, лён найлепей бароніць ад радыяцыі, бо з даўніны ад празмернае ласкі космасу, ад прамянёў ягоных засланяў.) І невыпадкова на льняной кашулі расцвіў васілёк — сіняя зорка, сястра нябесных зорак. Беларус душой праз вякі адчувае сваю еднасць з космасам.

Адна з легендаў — адкуль пайшлі беларусы — па-свойму перагукваецца з Бібліяй, усё ж натурай сваёй паганская. Я дазволіў сабе вольнасць крыху падрыфмаваць, падрытмізаваць легенду.

*Калісьці, яшчэ на пачатку свету, нічога нідзе*
*не было і следу. Панавала жуда.*
*Усюды стаяла мёртвая вада.*
*А пасярод вады тырчэў нібыта камень ні шэры*
*і ні руды.*
*Разыграўся неяк пярун угары, і пасыпаліся*
*ў камень стрэлы буйносці ягонае.*
*Ад стрэлаў выскачыла яскаркі тры: белая,*
*жоўтая і чырвоная.*
*Упалі яскаркі на ваду, і скаламуцілася вада*
*ва ўсім абшары, і свет, здавалася,*
*на бяду памуціўся, што тыя хмары.*
*А як усё высветлілася, дык і адзначылася пасля —*
*дзе вада, дзе зямля.*
*А яшчэ на нейкім часе ўсё ўляглося, і жыццё*
*ўсякае засмяялася і заплакала —*
*і ў вадзе, і на зямлі завялося.*
*І лясы, і травы, і звяры, і рыбы,*
*і пасля і чалавек завёўся няхібы:*
*ці ён прыйшоў адкуль, ці вырас тут.*
*Не адказвае цуд.*
*Па нейкім часе гэты жыхар, на выдумкі падкі,*
*стаў заводзіць людскія парадкі.*
*Ці доўга ён гэтак жыў, а ці мала,*
*але ў ягонай сялібе ўсяго хапала.*
*Пушчу жонак меў і дзяцей цэлы гай.*
*А было яму прозвішча Бай.*
*А як прыйшла па яго з іржавай касой на плячы ягомасць,*
*ён склікаў усіх сыноў уначы і ўсю сваю*
*падзяліў маёмасць.*
*Толькі сына аднаго забыўся, можа, ад хвалявання,*

*сын з бацькавымі любімымі сабакамі быў*
*на паляванні.*
*Стаўры і Гаўры сабакі зваліся, як трэба*
*ўзвіваліся пад нябесную столь.*
*Прозвішча гэтаму сыну было Белаполь.*
*Калі Белаполь з палявання вярнуўся, яму*
*і кажуць браты:*
*— Бацька ўсю нам маёмасць сваю падзяліў,*
*пакуль за ветрам у полі ганяўся ты.*
*Вось так.*
*А табе адказаў ён сваіх сабак.*
*З цябе і таго даволі. Ды бацька яшчэ казаў,*
*каб ты іх пусціў па волі:*
*аднаго — у правы бок, другога — у левы.*
*Колькі яны за дзень аббягуць валок, гэта й будзе*
*твая зямля, і на ёй і цені,*
*і дрэвы, і птушыныя спевы.*
*Не чакаў Белаполь, пакуль распагоднее,*
*пакуль браты не ўлюцелі, дзвюх птушак злавіў,*
*што прыляцелі,— адну з паўднёвага мора,*
*другую з заходняга.*
*Пусціў адну птушку на поўдзень, стоячы ўжо*
*не ў сваім двары, і кажа сабаку:*
*— Бяры!*
*Пусціў другую на захад і, у сэрцы глушачы грай,*
*кажа другому сабаку:*
*— Хапай!*
*Як паляцелі птушкі, вырваўшыся з няволі, з тугі,*
*адна ў адзін бок, другая ў другі...*
*Як сабакі ўляглі за птушкамі,*
*ажно зямля закурылася, ажно загушкалася...*
*Як пайшлі тыя сабакі, дык, небаракі, дасюль*
*не вярнуліся,*
*а па іх слядах дзве рэчкі,*
*спяваючы, стогнучы, крэкчучы,*
*працягнуліся.*
*У адзін бок, сведкай Бог, прайшла Дзвіна,*
*светлая да дна,*
*а ў другі бок радасна пацёк сам Дняпро,*
*сцюдзёнае нутро.*
*Вось у гэтых абшарах,*
*дзе начуюць маланкі ў хмарах,*
*Белаполь і пачаў сяліцца каля вады,*
*капаць крыніцы, заводзіць свае лады...*

*У гэтага Белаполя ад розных жонак, бо тады*
*дазвалялі законы,*
*і развяліся розныя плямёны.*
*Маладзіцы,*
*са стога ўцёкшы, папраўляць спадніцы,*
*мужчыны, адным духам*
*асушыўшы коўш медавухі, выціраюць вусы.*
*Плямёны гэтыя маюць прозвішча Беларусы.*
*Яны і да гэтага часу там ходзяць,*
*зямельку скародзяць ды сеюць жыта.*
*Жывуць і ўлежна, і ўежна, і самавіта!*

У легендзе пазначаны і каардынаты памкнення беларускае душы — да паўднёвага і заходняга мораў, абазначаны абсяг бытавання крывічоў.

У іншых легендах і паданнях Бай завецца Боем. Зноў жа ягоныя любімыя сабакі ўпамінаюцца — Стаўры і Гаўры. На Віцебшчыне перад Сёмухай спраўлялі стаўраўскія даты. У паданні пра Боя апавядаецца, як людзі збіраліся на тое месца, дзе Бой закапаў калісьці любімых сабак, якія скончылі сваё жыццё ад старасці, бо Бой назначыў памінальныя дні. Да позняе начы трывала баляванне. Рэшткі яды і косці кідалі ў агонь, паўтараючы імёны сабак Стаўры і Гаўры, і клікалі іхнія сцені з тога свету...

— Стаўры, Гаўры, гам, прыхадзіце к нам!

Беларуская душа адчувае сваю лучнасць з небам. Па-паганску, з паганскіх часін. Таму і бусел — перунова служка — самы любімы птах. Любімы спаконна, не эмблемна.

Хто ў нас не ведае легенду, як Бог даверыў чалавеку гаршчэчак з гадзюкамі, жабамі, з розным плюгаўствам аднесці і ўкінуць у мора. Папярэдзіў не развязваць і не глядзець. Як заўсёды жонка перахітрыла мужыка, і праз яе цікаўнасць усё гадства распоўзлася па зямлі. Легенда тлумачыць далей:

«Але ось прыходзіць Бог і кажа тым людзям:

— Вы выпусцілі гадаў, вы і збірайце іх.

І абярнуў Бог тых людзей у буськоў. Ходзяць з тае пары па балоце босыя, з чырвонымі нагамі, у белых сарочках і чорных світах буські ды і збіраюць усякую нечысь. Яны і стараюцца жыць бліжа к сваім братам — людзям, што іх, як братоў, людзі не будуць біць. От адкуль узяліся буслы».

Успрыняцце бусла як брата. Бо ў хату, на страсе якое пасяліўся бацян, ніколі не ўдарыць пярун. А калі разбурыць буслова гняздо, ён можа, пакрыўджаны, прынесці ў дзюбе

галавешку і падпаліць страху. Звычайна стрэхі былі саламяныя.

Яшчэ ў калысцы маломy Беларусянятку (як любіла называць і пісаць слова з вялікае літары паэтка-змагарка Ларыса Геніюш) баяць (згадайце Бая, ад якога пайшоў наш род) пра святога птаха:

Жыў-быў буцян
На шырокіх лугах,
На высокіх нагах,
Ставіў пунькі-прыпунькі,
Накошваў сена-сянца.
Будзем пачынаць зноўку з канца?

Вырасце малое і ў позняй бяседзе пачуе такую беларускую, такую крывіцкую песню, што сам у душу бусел заляціць:

І дождж ідзець,
І снег падзець
На каміну хату.
— Ідзі, кумок,
Касі мяту,
Накрый куме хату.
Ідзі, кумок,
Касі сена,
Накрый куме сені...

Дагэтуль душа мая хмялее ад мяты і млее ад сена з бяседнае ўшацкае песні, бо спявала яе ўпершыню мама...

І ў бусла, і ў Сцяга нашага, і на кашулі-вышыванцы любімыя колеры беларускае душы — белы і чырвоны. Чысціня і рашучасць да апошняе кроплі крыві адстойваць сваю волю, сваю незалежнасць, сваю роўнасць у людстве і ў космасе. Беленыя палотны, чыстыя снягі і чырвань гронак і агню, паўнамоцнага гарачага пасланца неба на зямлі, на зямлі беларускай.

А на просьбу парадзіхі з хрэсьбіннае песні муж, які чакае аратага і касца сабе на падмогу, адказвае так не з-за грубасці.

— Ой, пазавіце Іванечку з току,
Хай прынясець ён вішнёвага соку.
— Калі сыночак, за морам здабуду,
Калі дачушка, дык так абыдзецца...

Мужчын, не чакаючы, калі нарастуць, нішчылі войны. І на Беларусі асабліва, бо ў свае мулкія абдоймы хацелі беларусаў узяць і з Усходу, і з Захаду.

Клопат за беларускай душой, за чалавекам-працаўніком ідзе з калыскі да дамавіны. Смаленскія беларусы казалі: «Свадзьба слаўна песнямі, хаўтуры — вытніцамі».

А мой татулечка... хто нас паіць-карміць будзець?
Ды кароўкі мычаць, ды авечкі бляюць,
чаму не накорміш, чаму не напоіш?

Мая ж ты матулечка! Ды мы ўжо з табою
апошні разік бачымся, ды прыйдзі ж к нам
хоць разочак у госці, ды раскажы ж нам,
як у вас тамацькі жывуць, ды навучы ж нас,
як тут жыць, а не прыйдзеш, хоць сасніся нам.

Гэта не вытніца, гэта клопат галосіць па бацьку, па матцы. Гэта галашэнне па родных. Дый па няродных галашэнне тое ж:

Я думаў, што пойдзеш з намі араці,
а ты, бачу, ох як падхарашыўся ды вылізаўся,
нянача на вяселле.
От які гультай, не ідзе рабіці, а расцягнуўся на лаве;
можа, табакі занюхаць хочаш?
Хутка я да цябе пайду.

Гэта суровае галашэнне мужчыны. Зноў жа клопат галосіць.

Ва ўсё, што ні робіць, беларус укладвае сваю душу. З гліны лепіць і гаршчок, і пеўніка, з лазы пляце і кошык, і плот, з ігрушыны выразае і лыжку, і вераценца, з лясіны гне і абруч, і полаз, з воўны валіць і магерку, і валёнкі, з жалеза куе і нарог, і падкову.

Толькі беларускай душы родныя ўзоры ткуць кросны. Ліштвы на вокнах зразумелыя душы беларускай.

Нават дровы на зіму складаюцца па-беларуску, адметна.

Беларуская душа відушчая. Бачыць яна, што жаўранак прылятае на праталіну, шпак на прагаліну, жораў з цяплом, ластаўка з лістом. Ведае: адзін з'еш і вала — адна хвала. За колькі стагоддзяў да сённяшніх прэзідыумаў, парламентаў ведала: дзе многа на куце сядзіць, там мусіць мыш галодна быць.

Бадай жа беларуская душа будзе здаровай і вясёлай. Душа няўлоўная і нечаканая, душа бунтоўная і рахманая. Пачаткова ж слова «бадай» гучала як Бог дай. На Ушаччыне захавалася яшчэ форма багдай. «А багдай ты быў здароў!»

Дай жа Божа! Бог дай!

## *Смяяўся, язык прыкусіўшы...*

Усеімперская катоўня дужа не перабірала, не выбірала — давіла ўсіх, хто трапляў у яе. Цяжка і несумленна судзіць тых, хто зламаўся. Ёсць старадаўні спосаб, які прымяняюць каты. Гэта нейкім чынам самаабслуга. Зэкі сочаць за зэкамі, даносяць адзін на аднаго. Даслужваюцца да начальнікаў кандзеяў лагерныя капо, «кумы». Тыя, хто выжыў за кошт сваіх жа братоў, атрымаўшы волю пасля смерці Сталіна, яшчэ старанней за непасаджаных, дзівам ацалелых славяць партыю, усё, што звязана з імем Леніна і ягоных сатрапнікаў. Потым атрымліваюць дазвол ад гаспадароў з масава-масонскай арганізацыі называць сябе ахвярамі і крытыкаваць лагернае начальства, сабепадобных сексотаў, адчуваючы хутчэй скурай, чым душой (яе няма, яе даўно прадалі), трапятанне перад сістэмай, якая задумана на доўгія гады. Калі б такія ахвяры паведалі ўсё без утойвання, ім бы верылі. Бо яны ахвяры, яны пакутнікі. Ужо толькі трапіць за калючы дрот, пад крысо сібірскіх сураveяў — гэта страх і найвысокая кара. Але, відаць, страх вышэй за чалавека, якога ўжо зламалі.

Хапіла, аднак, мужнасці протаіерэю Гаўрылу Туманаву ў накідах свайго жыццяпісу, надрукаваных у 1-м нумары «Полымя» за 1994 год, прызнацца: «Пры садзеянні ўпаўнаважанага па справах царквы я быў прыцягнуты да супрацоўніцтва з органамі дзяржаўнай бяспекі. З гэтай новай работай я спраўляўся здавальняюча. Але ўзнікалі і цяжкасці...» Ад гэтага вобраз пакутніка рэжыму не прынізіўся. Наадварот. Д'ябальская сіла камуністычнай практыкі яшчэ болей падкрэслена. Вядома, высокія іерархі царквы не прызналіся дый не прызнаюцца. Можа, толькі перад самім Госпадам насмеляцца.

Невыпадкова дзівіўся Васіль Быкаў. У адным выступленні ён сказаў, наўмысна гіпербалізуючы, што кожны другі ў Саюзе пісьменнікаў супрацоўнічаў з органамі. І думаў, што будуць выклікаць на дуэль, зацягаюць па судах. Цішыня. Ці нацыянальная лянота і прынцып, які гумарысты

прыпісвалі Броўку: «За што нас, беларусаў, любяць, цэняць і паважаюць? За тое, што мы нідзе ніколі нікому нічога, мы ніколі «супраць», мы заўсёды «за»; ці па Бібліі: хай той кіне камень...»

Не выступаю ў ролі суддзі. Бо змалку памятаю: не будзь ні войтам, ні сватам — не будзеш чалавекам праклятым. І права такога не маю — павучаць ці папракаць. Проста прыгадаў некаторых па кантрасту з дарагім мне чалавекам і паэтам Міколам Хведаровічам. Ён тлумачыў, як выжыў. Перад пасадкай якраз прачытаў «Прыгоды бравага салдата Швейка». І працаваў пад любімага героя. Так і ўратаваўся. Ды не трэба думаць, што Хведаровіч толькі капіраваў Швейка. Па сваёй прыродзе ён быў чалавекам іранічным, з чыста беларускім адчуваннем і разуменнем гумару, чалавекам вострым на язык, дасціпным і ў меру хітраватым. Пра такіх у нас гаварылі — пратарэка.

Ужо, можна сказаць, у пекла спускаючыся, жартаваў са смерцю. Калі Хведаровічу сказалі напісаць саўдзельнікаў антысавецкай арганізацыі, за ўдзел у якой забралі паэта, ён пералічыў кіраўнікоў кампартыі Грузіі на чале з Лаўрэнціем Берыем. Бо была паездка групы беларускіх пісьменнікаў у Грузію. Група складалася з трох чалавек — магічная ў гады бальшавізму тройка. Віталь Вольскі-Зэйдаль, пільны памежнік, чэкіст са званнем, Эдуард Самуйлёнак, якому колькідзённага матэрыялу хапіла на раман, што ўпёрлі ў хрэстаматыі, і перакладчык Шата Руставелі Мікола Хведаровіч. І гадоў праз пяць, на незлічоным этапе — успамінаў потым смелы жартаўнік — выклікалі яго, каб сурова пагаварыць, бо нарэшце нехта прачытаў паказанні, занесеныя ў пратакол. Жарт мог каштаваць жыцця.

І ў сваёй паўночнай нізцы вершаў Мікола Хведаровіч ухітрыўся сказаць шмат і пра самае страшнае. Гэта тады, калі нельга было. Бо аднойчы выклікалі выпушчаных на абмежаваную волю вязняў і сказалі, каб трымалі язык за зубамі, бо адрас сталага месцажыхарства можа быць ранейшы. І царская, і савецкая імперыі мелі прастору, куды можна было выслаць усіх вальнадумцаў з паловы зямнога абшару. Ды паэт пісаў:

> Сотню пар пасталоў знасіўшы,
> На ухабах жыццёвых дарог
> Я смяяўся, язык прыкусіўшы.

Але слаба прыкусваў сабе язык. Да слова, дужа ж шумна рэагавала застолле ў Вільнюсе, калі Мікола Хведаровіч на-

помніў, што Вільня і беларуская старажытная сталіца. Ледзь без носа не застаўся беларускі паэт. Літоўскі брат па пяру звычаем, які быў вядомы яшчэ з паганскіх часін, хацеў прымусіць замаўчаць паплечніка па сяброўскай вячэры.

І зноў жа ў Вільнюсе не на паўгубы смяяўся Мікола Хведаровіч, расказваючы пра свой Капыль, пра паслярэвалюцыю, пра літаратурнае жыццё Менска 30-х гадоў. Мы ўтрох, Мікола Хведаровіч, Уладзіслаў Нядзведскі і я, так актыўна «seклі вінаградную лазу», што напрыканцы бяседы панеслі здарожанага Міколу Хведаровіча ў ягоны нумар гатэля. Раніцой наш старэйшы сябра не з вячэрняй весялосцю казаў, як прачнуўся ён, зірнуў на столь, на сцены і разгубіўся. Дзе гэта ён? Калі на чарговым этапе, дык занадта ж шыкоўная камера... Страх раўніва сачыў за вясёлай натурай. Напамінаў пра сябе.

Мікола Хведаровіч не кінуўся навыперадкі з маладымі, бядой не скубленымі пеўнікамі апяваць новабудоўлі з іх парторгамі і кранаўшчыцамі, бо на самай галоўнай будоўлі светлага будучага адбарабаніў каля дваццаці гадоў. Ён напісаў, як гнаў плыты па Енісею, як «на злосці сабачай» ляцеў па ледзяной магільні. Думаю, што аднагодкаў, якія мевыслужылі сабе на волі, хоць і не ланцугу, лаўрэацкія медалі з вусатым профілем, утульныя пасады і агародзістыя дачы, праймала холадам ад хведаровічаўскіх вершаў. Прыгамсі, мусіла праняць. Гэта толькі на першы позірк Галоўліта верш быў пра бушлат. Гэта пра сябе, пра аднапакутнікаў, пра паэта-выгнанца наогул. Футэркі і макентошы — тыя, з кім пачынаў паэт,— сталі на дыбачкі і са стала рэжыму ўхапілі кусанікі і крошкі, выйшаўшы ў адказнапаснікі, акадэмікі, віцэ-прэзідэнты акадэмій.

> Пасцеллю быў ён у палатках,
> Абаграваў марознай ноччу.
> І хоць цяпер на латцы латка,
> Шаную свой бушлат рабочы.
>
> Сярод футэркаў, макентошаў
> Няма яму надзейнай пары.
> Яго і колер нехарошы —
> Ён сярод іх, як воўк паджары.
>
> Сыноў, нявестак поўна хата,
> І ўсе ганяюцца за модай.
> Няма сяброў майму бушлату,
> А мне яго, як друга, шкода.

Бывала, вёў гульню там, дзе трэба было прыніжацца, крывіць душой. Захацеў адзін, каб Хведаровіч сказаў слова

пра быццам таксама рэпрэсіраванага (які ў вайну працаваў у ваеннай камендатуры ў Маскве, у Заходні Берлін ездзіў нібыта як спецыяліст па кнігах). І Мікола Хведаровіч болей казаў пра «Маладняк», пра Менск нэпманаўскі, а мне ў перапынку перад запісам кінуў два словы: «Страшны чалавек...»

Нялёгка апавядалася чалавеку з гумарам, кепліваму субяседніку і пра такое. Жонка ягоная ляжала ў бальніцы. І раптам з рукамі, растапыранымі ад гасцінцаў і кветак, у палату ўкаціліся жонкі жывых класікаў, стырнавых роднай літаратуры. Хведаровічыха ледзь стрымала слёзы расчулення. Аж стырнавіхі і не заўважылі яе. Яны неслі дары ад літаратуры жонцы дырэктара выдавецтва, галоўнага героя літаратурных анекдотаў. А Сара Майсееўна паехала да мужа ў выгнанне, была са сваім Міколам да вызвалення.

Страх ці, хутчэй, руплівая абачлівасць жылі ў паэце. Як другая натура, прыдбаная прымусова. Рэдагаваў я зборнічак Міколы Хведаровіча па серыі «Бібліятэка беларускай паэзіі». Нармальны верш пра рачулку. Але слупкі тры былі пра тое, як вырасце электрастанцыя, як будзе даваць яна святло ледзь не пры камунізме. Ну, вядома, зняў я гэтую лірыку, прызначаную на закусь Галоўліту. Прыносіць паэт карэктуру, аднавіўшы ўсе слупкі. Кажу, што пераверстка, што кніжка затрымаецца, аўтар стаіць на сваім, толькі паўтарае: «Грышка, не лезь у бутэльку».

А, дарэчы, за бутэлькай сядзець з Міколам Хведаровічам было і прыемна, і цікава. Любіў узяць чарку, любіў пачаставаць. З паездкі ў Венгрыю прывёз параду, што «Бікавер» («Бычыную кроў») трэба піць пад сакавітае мяса. Лірыкі па натуры, багата гэтае «крыві» пусцілі мы з дзядзькам Міколам. Ездзіў у Венгрыю Мікола Хведаровіч як перакладчык Шандара Пецёфі.

А чалавекам Мікола Хведаровіч быў добрым. Як і Станіслаў Шушкевіч, помніў сяброў сваіх, што сталі ахвярамі ідэі, якую яны шчыра ўслаўлялі. Няхай сабе, як градусы ў «Бікаверы», гуляла фантазія ва ўспамінах, але яны пісаліся ад душы. Хадзіў нават жарт, што ў Міколы Хведаровіча як не на ўсіх вядомых жывых маюцца ўспаміны і толькі свайго часу чакаюць. Пісаў і я паэту:

*Пад класікаў падкласці б міны —*
*І ўвесь апошні клопат з рук.*
*Даўно гатовыя ўспаміны*
*Я ў той бы дзень аддаў у друк.*

Калі выйшаў «Віцязь у тыгравай шкуры» ў перакладзе Алеся Звонака і Міколы Хведаровіча, мы, тады маладыя і, калі бывала за што, вясёлыя, крыху іначылі Крылова: «Чему обрадовался сдуру, знай, Коля, всю испортил шкуру».

Брат Хведаровіча — Нічыпар Чарнушэвіч (Хведаровіч — псеўданім) у процівагу рухаваму, дасціпнаму, непаседліваму Міколу задумліва-рахманы, неяк казаў, нібыта з пахвалой, нібыта з зайздрасцю: «Мікола спрытны, ён з-пад сучкі яйцы ўкрадзе». А сябра жарту, Мікола Хведаровіч, крыху скасіўшы і адвесіўшы губу, сам стоячы перад апошнім парогам, спачуваў: «Як уявіць Броўка, што ён бронзавы будзе стаяць на холадзе, дык з галавой пад коўдру лезе».

Сябе Мікола Хведаровіч, накалеўшыся на сібірскіх маразах, грэў жартам. Каб забыцца.

І свае кузлакаватыя ўспаміны хачу закончыць вершам у гонар і памяць іранічна-лірычнага паэта.

*Адной да скону верыў ісціне —*
*Не паддавацца злой бядзе.*
*І не пятляў кружнымі выйсцямі,*
*А кій дадому прывядзе.*

*Рукамі шчырасць жару выверыў,*
*Пачуў глухую скаргу дрэў*
*І верш,*
*Што з ім асіп на сіверы,*
*За пазухай, як пеўня, грэў.*

*Не затрымаліся гадоў плыты,*
*І засталіся там, дзе скруха ные,*
*У саркафагах вечнай мерзлаты*
*Яго сябры, навечна маладыя.*

*Верш паляцеў шляхамі выраяў,*
*Вярнуўшыся пад родны дах.*
*Хоць посах свой*
*Вандроўнік выраніў,*
*Вясёла здарожаны,*
*Чытае памяць па складах:*
*Мі-ко-ла Хве-да-ро-віч.*

# *Розныя слёзы*

Ва універсітэце была ваенная кафедра. Філолагі, вядома, вывучалі артылерыю. Хоць у бальшыны, відаць, па тэорыі імавернасці, засталіся ў памяці толькі дзве скрынкі. У адной белыя шары, у другой — чорныя. Яшчэ падабаліся нам каманды «Цэль бачу», «Дым. Запісаць!». Загадчык кафедры быў тыповы генерал. Герой за масавае фарсіраванне Дняпра. Спіскавы герой, калектыўны. Гэта ён пайшоў да прарэктара Павецьева з прапановай выключыць студэнта Барадуліна з універсітэта і здаць служыць у войска. Прарэктар запярэчыў генералу, што ён жа, студэнт гэны, філолаг, вершы піша. Якраз выйшаў першы зборнік універсітэцкіх паэтаў «Узлёт». Прарэктар вазьмі дый зачытай генералу колькі радкоў. Ад крыўды і абразы генерал заплакаў: «Я вам о деле говорю, а Вы мне какие-то стишки тычите...»

Але быў на кафедры палкоўнік Усціновіч. Ён яўна любіў філолагаў. У непраграмных гутарках называў паэтаў і празаікаў, пра якіх на асноўных філалагічных кафедрах маўчалі. У прыватнасці, паўтараў часта палкоўнік, калі «плавалі» мы ў тэорыі і саматужнай вайсковай практыцы: «Раніца рыкае». І неяк цяплеў вачыма. Ваеншчына не выбіла з яго беларуса, які чытаў «нацдэмаў».

Пасля ўбачыў я аўтара зборніка «Раніца рыкае». Гэта быў па-беларуску інтэлігентны, шляхетны чалавек. Зажураны вачыма і душой, паэт болей нагадваў сельскага настаўніка, ціхагалосага, разважлівага, добрага.

По традыцыі пасля пісьменніцкіх з'ездаў урад і партыя (хоць гэта было адно цэлае) давалі банкет. А ля фуршэт. Сталы стаялі літарай П (пісьменнікі ж — спадручныя партыі). За перакладзінай літары П сядзела цэкоўскае начальства, сакратары Саюза пісьменнікаў, класікі жывыя. Хоць, калі перафразоўваць «агітатара і галавара» Маякоўскага, мы казалі «сакратары», а падразумявалі «класікі». Бо сакратары ў ЦК, сакратары ў Саюзе пісьменнікаў. Усё ў сістэме. Па канцах літары П стаялі ўсе астатнія члены, маладыя і тыя, што хацелі быць далей ад «бацькоўскіх» вачэй.

Язэп Пушча стаяў у самым канцы стала. Сумны, разгублены, як не ў сябе дома. І тады мы з Уладзіславам Нядзведскім, ужо трохі назбіраныя, падышлі да аднаго з пачынальнікаў беларускае савецкае паэзіі і паднялі тост за здароўе яго, наўмысна гучна, каб хоць суседзі пачулі. І Язэп Пушча разгубіўся. І заплакаў. Толькі не так, як генерал з ваеннае кафедры універсітэта, адкуль выключылі «нацдэма».

Розныя людзі. Розныя слёзы.

# *А ведаеце...*

Гэты выраз ён паўтараў перад тым, як нешта расказаць. «А ведаеце...» — пачынаў Станіслаў Пятровіч Шушкевіч, адзін з тых рэдкіх, дакладней, прарэджаных савецкім сітам, хто вярнуўся з завейных этапаў у родную Беларусь.

І расказваў дзядзька Стах.

Як бацька ў часы нэпа купляў хату ў Менску. За трыццаць папяровых савецкіх рублёў. І гэтакі высокі быў курс чырвонца, як тады казалі, што за трыццаць рублёў савецкіх аддаў трыццаць пяць залатых, мікалаеўскіх.

Як прэміравалі цяляткам яго, актывіста, за падпіску на газеты.

Як сядзеў у менскай «амерыканцы» па цяперашняй вуліцы Урыцкага, дзе нельга было ні сесці, ні легчы, а лямпачка Ільіча гарэла з класавай злосцю. Выйшаў, правёў па галаве рукою — валасы ўсе і апалі, як ігліца з сухое сасны. І да канца дзён хадзіў лысы. Не пад Катоўскага галіўся, як заўзятыя рэвалюцыянеры.

Як на допыце следчы, калі ахвяра супраціўлялася, выцяў цяжкім прэс-пап'е па пальцах. Да крыві разбіў. Тады ён, падсудны Станіслаў Шушкевіч, махнуў скрываўленай рукой наўзмах. На пратакол палілася кроў. Нарабіў клопату кату. Трэба было новы, чысты ад крыві пратакол рабіць. Прыйшоў урач Якаў Нейфах і ўгаворваў падпісаць усё, каб лепей было. Потым лагоднейшы і ўважлівы Якаў Уладзіміравіч узначальваў паліклініку пры Саюзе пісьменнікаў.

Як гналі іх па этапе. Абначавалі ў нейкае стадоле. Раніцай падняўся адзін з этапнікаў, які да арышту спрабаваў рыфмаваць, і абвясціў, што ён будзе за галоўнага. І па зверству быў куды таленавіцейшы за прафесіянальных чэкістаў.

Як перад чарговай высылкай (былі часова дазволілі вярнуцца ў Беларусь) на вакзале сустрэў сябра па даваенным Менску. Пацалаваліся, абняліся. Канваіры толькі прасіпелі: «Ишь, сука, с польским полковником обнимается. Не зря, выходит, добавили срок...» А палкоўнік гэты, як беларус з

прозвішчам на -іч, быў залічаны ў армію імя Касцюшкі. Пасля вайны, ужо ў чыне ўказаным, прыехаў у Мінск і пачаў патрабаваць, каб яго пакінулі тут, на радзіме. У адпаведным аддзеле яму параілі падумаць. Калі ён, не перадумаўшы, прыйшоў зноў, з яго здзерлі пагоны і кінулі ў турму. У турме, вядома, прыйшла яснасць, што лепей быць палкоўнікам Войска Польскага, чымся савецкім зэкам. На вакзале сябры і сустрэліся, едучы ў розныя бакі. Адзін у Варшаву, другі туды, дзе «бегут, спотыкаясь, олени».

Як ужо на пасяленні было пад ягоным кіраўніцтвам нейкае рачное судна. Прывезлі бульбу, пачыналіся замаразкі. І аддаў загад Шушкевіч раздаць бульбу зняволеным. Неўзабаве прыехаў інспектар. Таксама з ссыльных, таксама пісьменнік. Склаў пратакол на самаўпраўства. «Братачка, непарадак». Тады Шушкевіч звярнуўся да начальства вышэйшага. І атрымаў падтрымку. Выклікаў кадравы начальнік інспектара-правершчыка і даў прачуханца: «Ты ж сам з зэкаў. Як жа не паспагадаеш сваім?»

Як маладыя літаратары ездзілі выступаць, здаецца, на Магілёўшчыну. Кіраўніком групы быў Іларый Барашка. Грошы таксама былі ў кіраўніка, агульныя, камандзіровачныя. Хлопцы прапіліся. А Барашка грошы не дае. Тады бастрэслі апошнія капейкі, напаілі Барашку. Павялі на базар, дзе быў фатаграфічны атракцыён, так бы мовіць. Намаляваны на фанеры голы казак. Хто галаву ўсоўваў у проразь, атрымліваўся на фотаздымку голым п'яным казаком. Сфатаграфавалі гэтакім чынам Барашку і заказалі багата фотакартак. І потым у рыфму патрабавалі за кожнага голага Барашку — пляшку.

Як яго слухалі на выступленнях, асабліва дзеці.

Як ён шукаў сляды свайго сябра Змітрака Астапенкі.

Як знайшоў у падшыўках яшчэ адзін паклёп на пісьменнікаў Алеся Кучара.

Ад сябе хачу сказаць: як шкада, што няўважліва слухаў, не запісваў цікавых успамінаў Станіслава Пятровіча. Жывая гісторыя ўспамінала...

# *Укоптур*

Відаць, аднаму мне з усіх ушацкіх школьнікаў ішло «Полымя». Мама дала мне нейкія грошы, каб выпісаў часопіс. Бо дужа ж прасіў. А на Ушаччыне, як і цяпер, не модна было нешта выпісваць ды чытаць. А ў «Полымі» з працягам друкаваўся раман Піліпа Пестрака «Сустрэнемся на барыкадах». Што добра запомніў я з рамана, дык гэта польскую песню: «Гуралю, чы ці не жаль отходзіць от строп ойчыстых?» Праўда, калі ў часе майго першага падарожжа ў Польшчу са студэнцкай дэлегацыяй прадэманстраваў сваё веданне, ураженне было ў слухачоў і слухачак (пасля мацаванага віна, лічы, без закусі) не гэтакае, на якое разлічваў. Бо песня была ў пашане ў застоллях, калі ўжо іншае не спявалася, накшталт расійскай «Шумел камыш...» ці цяперашняе нашай «А я лягу-прылягу...».

Тут мушу агаварыцца, каб не было пасля крыўд і крыватолкаў. Не зайздрошчу славе паэтаў-пеюноў, бо справа гэтая не так тонкая, як небяспечная. Кладачка, па якой ідзе паэт-пяюн, дужа ж хісткая, а багна банальнасці ціністая і прадонная. А што тычыцца шлягераў, дык мецъ іх любой культуры трэба як мага болей. Гэтаксама, як і каялітаратурнага асяроддзя. Шлягер прапагандуе мову, асабліва ўдалы. Не зусім для жарту казаў некалі Дзмітро Паўлычка, няўрымслівы ўкраінскі паэт: «Нацыя ў сваёй мове жыве датуль, пакуль на ёй гаворыць хоць адна прасталытка. Няхай хоць на вакзале».

Зразумела, як пачаткоўцу ў Мінску было цікава ўбачыць жывога аўтара рамана. А на нарадзе маладых у Каралішчавічах Піліп Сямёнавіч пасля позневячэрняга абмеркавання твораў нарадаўцаў багаслаўляў у вялікую літаратуру і выпадкова пераблытаў дзверы пакоя з дзверцамі шафы. Ён быў сваім, даступным класікам. Гэта нам імпанавала.

І ў самым пачатку 1960 года нашая чароўная і клапатлівая Таццяна Кузьмінічна з Саюза пісьменнікаў сказала мне, каб пазваніў я Піліпу Пестраку. Ён шукае мяне. І разгублены ды ўзрушаны — званю. Піліп Сямёнавіч першае,

што пытае, ці ведаю я песню пра Ваньку-ключніка. Я проста ў трубку зацягнуў пачатак. Пестрак спыніў мяне і абрадаваў, што бярэ з сабою ў паездку на Гродзеншчыну. Папярэдне сустрэліся ў кавярні-аўтамаце каля студэнцкага інтэрната. У кавярні кідалі жэтончыкі ў так званыя «аўтапаілкі». Пілі, як той бацюшка ў анекдоце, і піва пасля віна.

Паехалі, значыць, у камандзіроўку Пiлiп Пестрак, паэт-франтавік і я, яшчэ цёпленькі выпускнік універсітэта. Першы вечар у Гарадзішчы. Гэта непадалёк ад Завосся, дзе нарадзіўся Адам Міцкевіч. Нарада настаўнікаў. Усё добра і цікава. Піліпу Сямёнавічу было што казаць. Пасля начлег у гатэлі. Гатэль гэты ўяўляў сабой звычайную сялянскую, праўда, некалгаснага часу, хату. Як толькі зайшлі мы, нашага старэйшага адразу ўразіла і замілавала невялічкае люстэрка, якое было ўмуравана ў печку справа над загнетам. Пестракоўская ўсмешка мне заўсёды нагадвала сваёй смачнай цеплынёй ячны блін, які толькі што здымаюць з патэльні. І тут яна была. І яшчэ пестракоўскае «пшсс». Яно, здавалася мне, ішло ад рахманага вожыка. І яно было тут. Ну а пасля вячэра на маленечкай кухні. Пілі, зразумела, «малянкоўскімі» шклянкамі. Апошнюю, налітую ўкоптур, са словамі: «Не дазволю, каб маладых спойвалі», паэт, які быў зняты на фоне Рэйхстага, узяў на сябе, і табурэтка не змагла ўтрымаць паўлітрука, як сам сябе называў часам франтавік.

Спалі ў агульным пакоі і ўдзельнікі настаўніцкай нарады, і госці з Мінска. Калі паэт-франтавік захроп, Пестрак у цёплай блакітнаватага колеру бялізне пачаў час ад часу падыходзіць да яго і падазрона пытацца: «Броўкаў паслугач, усё раскажаш Броўку?» Здарожаны паэт прачынаўся і механічна адказваў: «Але, але, Піліп Сямёнавіч». Далёка за поўнач слухалі настаўнікі другую, неафіцыйную частку літаратурнага вечара, хоць рабілі выгляд, што смачна спяць.

Зварот у Мінск быў яшчэ весялейшы. Грошай засталося мала. Але Пестрак быў упэўнена-аптымістычны — у Баранавічах ён пазычыць пенёндзы ў таварышаў па рэвалюцыйнай барацьбе. І цягнік спыніўся ў Баранавічах. Паэт-франтавік прылёг адпачыць на вакзальную лаўку. Яшчэ заставалася паўбутэлькі. Пестрак пайшоў да рэвалюцыянераў. Вярнуўся, ужо сагрэты і акрылены сустрэчаю. За гэты час у паэта-франтавіка, якога змарыў сон, адцягнулі за вушы шапку і ледзь не ўкралі. А рэштку пітва ўсё-такі ўкралі, па ягоных словах, хоць Піліп Сямёнавіч не верыў: «Брэшаш. Сам выжлукціў...» Як цяпер помню, пазычыў змагар за са-

вецкую ўладу ў Заходняй Беларусі 200 рублёў. У мяне было заданне купіць закуску. Сам Піліп Сямёнавіч купіў дзве бутэлькі і паставіў іх у абедзве кішэні свайго зімовага паліто з каракулевым каўняром. Аб'яўлена пасадка. Пестрак урачыста кіруецца да вагона. Узнікаюць двое выхаваных і ўважлівых і, пад локці ўзяўшы, акі балярына, дапамагаюць паважнаму пасажыру падняцца па выкідной лесвічцы. Пестрак толькі прыгаворвае: «А старых падпольшчыкаў яшчэ ведаюць...» Селі ў купэ. Хутчэй давай я рэзаць тлустую, як райкомаўскія анекдоты, каўбасу, хлеб. Усяго шмат. Пестрак нахінаецца ўзяць з паліто бутэльку. Цоп адну кішэню — нічога няма, цоп другую — і там пуста. Нездарма кажуць: вада не гарэлка — шмат не вып'еш. Таксама і закусь, асабліва загадзя ахвяраваная пад чарку, у рот не лезе. Дакалыхаліся да Стоўбцаў. Амаль паўночы трэба чакаць на станцыі цягнік на Мінск. Палічылі свае апошнія шанцы ды ў буфет. Заказваем па нейкіх сто пяцьдзесят. Афіцыянтка глядзіць па-савецку: слабыя кліенты. А яшчэ нічога закусіць не бяром. Нібыта няўзнак кладзём на стол свой хлеб і парэзаную каўбасу. Цягнемся да чарак. І паэт-франтавік рукавом чапляе крышталёвачку з дарагім змесцівам. Чарачка на цурачкі. І за яе трэба плаціць. А яшчэ, калі афіцыянтцы надумаецца, дык і за ўвесь прыбор, бо камплект. Зачапіўся рукаў, бо ў буфеце не распраналіся з-за марозу. Раненька, калі паэт-франтавік зноў спаў на вакзальнай лаўцы (прывык на службе ў ваенным друку да прывалаў), палічылі мы з Піліпам Сямёнавічам драбязу і белую, як за мутнымі шыбамі новы дзень, і зялёную, як тугу залы чакання, ды хоць разбаўленым півам прагналі крыўду. Адно, што развесяліла старога падпольшчыка — дык гэта маё паведамленне, што паэт-франтавік палкоўнік. Да самага Мінска пышкаў і паўтараў: «Паўкоўнік...»

У Мінску пайшлі да Пестрака на кватэру. З кніжнай шафы былі здабытыя дзве няпоўныя бутэлькі. Адна чамусьці з воцатам. Пасля гаспадар пачаў перабіраць фаліянты, пакуль у нейкім не знайшоў грошы. Гэткім метадам хаваць ад жонак грошы нашыя старэйшыя майстры слова карысталіся шырока. Дачакаліся адкрыцця рэстарана «Нёман» і там разгавеліся.

«Нёман» наогул навявае шмат успамінаў. Зноў жа адзін з іх пра Піліпа Сямёнавіча.

Групе творчай інтэлігенцыі ўручалі ўзнагароды ў Доме ўрада. Уручаў падкрэслена хамаваты партызанскі кіраўнік, маццяршчыннік Клімаў. Некалькі чалавек, у тым ліку Піліп

Пестрак, Алесь Асіпенка і я пайшлі ў «Нёман» адзначыць падзею. Прынеслі закуску. Пестрак казытнуў відэльцам і незадаволена канстатаваў: «Цо то за следзь? Я ў Лукішках лепшы еў». (Уладзімір Караткевіч любіў часта паўтараць заўвагу Аксаны Куляшовай пра «мукі» польскай дэфензівы з Пестраком з-за ягонага ўпартага характару.) Афіцыянт нешта не так падаў. Асіпенка зазначыў, што абслугоўвае не абы-каго, а ардэнаносцаў, на што афіцыянт адрэзаў: «А по мне что уголовники, что орденоносцы. Лишь бы деньги платили». Асіпенка, былы партызан і гарачы камсамолец, з некім яшчэ пайшоў грукацца ў дзверы дырэктара, а Пiлiп Сямёнавіч, глыбей нацягнуўшы саламяны а ля Хрушчоў капялюш, спакойна піў шампанскае, не забываючы, дзякуй яму за ўвагу, і мой фужэр. І мы сядзелі і цёпла гутарылі.

З гэтай цёплай гутаркай Пестраковай звязана шмат вясёлых здарэнняў. У зале ЦК камсамола Саюз пісьменнікаў наладзіў нешта накшталт ідэалагічнай канферэнцыі на тэму марксізму-ленінізму і ягонага ўплыву на ход сусветнай гісторыі. У прэзідыуме Мазураў і адпаведна нашыя класікі, быццам толькі з партрэтаў сышлі не зусім на зямлю, а за стол пад чырвоным сукном. Усё мусіла быць чырвоным, вядома, не ад сораму. І зусім не дзіва, што і нейкая арцель пасля рэвалюцыі называлася «Чырвоная сінька». Нейкім чынам вобраз «простого советского человека» — твар сіні, а нос чырвоны. Але гэта да слова прыйшлося.

Пра канферэнцыю. Падазрона савецкімі, у сэнсе чырванатварымі, кумачовымі рабіліся шмат якія ўдзельнікі такога святога форуму. Антон Бялевіч выйшаў на трыбуну, спрабаваў нешта сказаць, не змог. Хацеў хоць рухам рукі выказаць сваё разуменне сілы марксізму-ленінізму, але не разлічыў сваю сілу і ледзь не рухнуў разам з трыбунай. Так і выступіў, як на фота пісалі — «без слов, но от души». Вярнуўся ў залу да народа.

На трыбуне Пiлiп Пестрак — суперсавецкі па чырвонасці аблічча. Пачынае: «Марксізм-ленінізм — гэта не тое, каб выпіць дзве пляшкі каньяку і цёпла пагутарыць...» У парторга Саюза пісьменнікаў, пра якога казалі, што ён плача вушамі (парторгавы вушы ацаніў Рыгор Бярозкін, сказаўшы, што з кожнага можна зварыць па місцы сцюдзеню), пара павалiла з галавы, як туман з далёкаўсходняй сопкі. Парторг умомант зрабіўся такім кумачовым — хоць замест транспаранта нясі на дэманстрацыю. Мазураў адчуў сябе ніякавата. Хвіліна маўчання. І стары падпольшчык з ходу ўключыў

умоўны рэфлекс. «Марксізм-ленінізм — гэта такая сіла...» — казаў выступоўца так, як і трэба было. А прычына была простая. Буфетчыца цётка Маша ў падвальнай сталоўцы прадавала каньяк бутэлькамі амаль без ніякай закусі. І Піліп Сямёнавіч ад стала ў падвале ўзнёсся за трыбуну. На момант каньяк перамог ідэі. Але толькі на момант.

Даводзілася сядзець з Піліпам Сямёнавічам і за столікамі кавярні ля Дома друку (цяпер «Батлейка»), якую мы празвалі «Акварыумам». Пра вайну, пра партызаншчыну казаў загартаваны рэвалюцыянер. І дужа ж абураўся на «перапёлачку». Працаваў Пестрак у міністэрстве культуры. Дарэчы, гэта ён «прабіваў пытанне» і дамогся перамогі, каб у Мінску расчыніў свае дзверы тэатральна-мастацкі інстытут, цяперашняя БелАМ. «Сяджу я цэлы дзень, пішу, пішу, а гэтая ... прыйдзе да Панамарэнкі — чырк-чырк, і ўсё маё прапала!» Не хацеў чамусьці разумець рэвалюцыянер, што партыйны бос быў мужчынам і што лашчылі яго-нае вуха не толькі загады з Крамля, але і спевы салісткі оперы...

Гады, праведзеныя ў турме (сядзеў увогуле 15 гадоў), нейкім чынам паўплывалі на характар Пестрака. З аднаго боку — падазронасць і недавер, а з другога — любоў да субяседніка, да сяброўскага застолля. Пісалася і ўспаміналася пра Пестракоў партфель, дзе не пераводзіліся сала, часнок, бутэлька. Быў, вядома, і нож, не для класавай барацьбы. І ў сістэме вобразаў паэзіі і прозы неўтаймаванца сала займала не апошняе месца. Нездарма ж пра аднаго паэта, які шчыраваў у дакументальным кіно, наганяючы шорах на адміністрацыю кінастудыі заявамі, што сядзеў на адной парце то з Сільніцкім, то з Машэравым (з апошнім нават у адной лазні парыўся), казаў: «Гэны аброс грашыма, як япрук салам».

Польская турма для палітычных рознілася ад савецкай. Паспрабавалі б вязні ГУЛАГа выпусціць часопіс. А ў Лукішках быў доступ да літаратуры. І Піліп Сямёнавіч мог гадзінамі чытаць па памяці Бранеўскага (уплыў польскага паэта на вершах Пестрака відавочны), Ясеніна, Пастарнака. Ведаў і цытаваў працы філосафаў, эканамістаў, тэарэтыкаў рэвалюцыйных рухаў. Ён быў рэвалюцыянерам, якім цяжка было кіраваць. Казаў пра ўсіх усё, што думаў. У вочы. І, натуральна, пакрыўджаныя яшчэ пры жыцці Пестрака складалі пра яго анекдоты, дзе яны выглядалі Сакратамі, а Пестрак — Іванькам. Гэта пад канец жыцця згубіў недзе стары падпольшчык партбілет. Выклікае яго ў ЦК малады

функцыянер высокага рангу і пачынае распякаць, бачце, як магло здарыцца, такі пільны, такі вопытны, пляма на ўсю партыйную гвардыю. Трохі паслухаў Пестрак і, быццам так сабе, запытаўся: «Паслухай, хлопча, а як цябе завуць?» І ўвесь красамоўніцкі запал з цэкоўца як карова языком злізала. І партбілет знайшоўся пасля, бо хаваўся, як і грошы ад жонкі, у кнігах.

Любоў Пестрака да Пастарнака адбілася і ў камічным люстэрку свайго часу. У Саюзе пісьменнікаў адкрыты партсход. Адкрытыя і для непартыйных мас сходы былі рытуальнымі «во дни торжеств и бед народных». Ганьбуюць Барыса Пастарнака за тое, што прысудзілі яму Нобелеўскую прэмію. Яна ж брудная, бо з рук капіталістаў. Крытыкуюць раман «Доктар Жывага», хоць ніхто, лічы, што не чытаў яго і ў вочы не бачыў. Стараліся навыперадкі. Своеасаблівае сацыялістычнае спаборніцтва. Напал мацнеў, як пара на палку ў лазні. Крапіва, каб падкрэсліць адарванасць Пастарнака ад працоўных, сказаў з'едліва, як яму самому здалося, «сноб», прытым вымавіў як «сноп». З задніх радоў упаўголаса папрасілі ўдакладніць, які сноп — аўсяны ці ячменны. Потны ад праведна камуністычнага гневу ўсхапіўся Кірэенка: «Я ніколі не чытаў Пастарнака і чытаць не буду. Але я супраць!» Пафас падаў. І тут слова ўзяў акадэмік Барысенка. Пачаў вяршынна: «У той час, калі наш народ сямімільнымі крокамі ішоў да зззяючых вяршынь камунізму, гэты вораг, гэты здраднік, гэты крывасмок, гэты...» І тут позірк савецкага акадэміка ўпаў на Пiліпа Сямёнавіча, які сядзеў у першым радзе, бо спазніўся крыху. Міжвольная паўза. Прамоўца ўдыхнуў паветра гневу і выдыхнуў: «Гэты Пестрак...» Зала прыціхла. Чакае. Слова просіць Пестрак. «Яшчэ Пётр першы казаў, што акадэмікам трэба казаць па-пісанаму...» — кінуў рэпліку і сеў. Толькі дадаў сваё нязменнае «пшшсс». Зала загрымела ад рогату. Мерапрыемства было сарвана. Рэзалюцыі, здаецца, не вынеслі. Знік сур'ёз. Яго з'еў кур'ёз. А ўсё гэтая адкрытасць сходу і прысутнасць непартыйцаў.

Недзе ў сярэдзіне 80-х гадоў сядаю ў таксі. Чытаю шыльдачку: «Пестрак Піліп Сямёнавіч». Пляменніку ў гонар дзядзькі далі імя. Расказваў, як прыязджаў дзядзька на радзіму, як касіў разам з аднавяскоўцамі, а пасля наладзіў застолле. Луг быў сталом, абрусам — мурог.

У апошнія гады жыцця паэта еду ў тралейбусе. Заходзіць са сваім славутым партфелем Піліп Сямёнавіч. І тут убачыў — дзядзька нейкі вязе колькі свежавыгабляваных

дошчачак. Яшчэ потных жывіцай ад гэбліка. Сучкі так і гараць, як вугалькі грудак маладухі. Падышоў, удыхнуў, уцягнуў у сябе пах сасны і пацалаваў у сучок. І пачуў я знаёмае «пшсс». Шэпт пілы і прысвіст гэбліка.

Было яшчэ адно любімае слова ў Пестрака — «галубка». Калі завяршылі мы ў «Нёмане» вышэй памянёнае падарожжа, кіраўніка групы і гаспадара застолля давялося мне ўгаворваць ісці дамоў адпачываць. І падтрымліваць зноў, акі баля́рына, пад локці. Але дадому Піліпу Сямёнавічу ісці яўна не хацелася. Хоць і не трэба было фаліянты перабіраць, і без таго мы трохі такі перабралі. Як цяжка ні было, але падвёў я рэвалюцыянера і лірыка да дзвярэй ягонай жа кватэры. Націснуў на кнопку званка. У гэты момант з вышэйшага паверха спускалася маладая і дужа зграбная паштарачка. Як добрая вясцінка з неба. Піліп Сямёнавіч расцвіў усмешкай і, на адлегласці акрэсліўшы маладым рухам рук контуры грудак паштарачкі, пачаў скарачаць адлегласць. І лёгкакрыла вылецела — «галубка!..». Ды дзверы расчыніліся, і на парозе ўзнікла хатняя фігура жонкі. Не чакаючы аддзякі, скаціўся я па сходцах лесвіцы — і, як казалі ў Вушачы, проздзверы.

Вылятала на мяккіх крылах слова «галубка» і ў Каралішчавічах, калі рэвалюцыйны рамантык пад гітару спяваў: «Милая девица, что тебя бросила в бурные волны реки?» Рамантыка і раманс — даўняя радня.

Аўтар эпапеі, раманаў, аповесцяў, апавяданняў перадусім быў Паэтам. Любіў жыццё, слухаў жыццё, слухаўся жыцця. І жыццё любіла яго. І налівала любімцу свайму і салодкага, і горкага, і вясёлага, і сумнага ўкоптур. Каб піў нагбом!

# *А пісаць Грыша ўмее...*

— Дык, значыць, малады чалавек, на чым мы спыніліся ў мінулы раз? — спакойна і сур'ёзна запытаўся следчы.

А на плячах у маладога чалавека толькі што былі капітанскія пагоны, на грудзях — баявыя ордэны высокае пробы. І прысудзілі яшчэ дзесяць год. Прычым адным з асноўных злачынстваў значыліся ўцёкі.

А ўцёкі былі такія. Вайна падыходзіла да Мінска. Урад і партапарат уцякалі першыя на чале з Панамарэнкам. Вязняў мінскае турмы вывезлі ў лес пад Чэрвень. Перад тым як замесці сляды (сталінскі афарызм быў у дзеянні: «Есть человек, есть проблема, нет человека, нет проблемы»), прапанавалі крымінальнікам адысці ўбок. Ён быў палітычны. Не выйшаў. Калону энкавэдысты расстралялі з кулямётаў і, каб не было памылак, у давяршэнне закідалі гранатамі. Калі заціхлі стрэлы і выбухі, малады чалавек (чуў, як у яго каля вуха прасвісталі дзве кулі) падняўся. На супрацьлеглым канцы крывавага капца ўбачыў жывога. Бег да яго сапраўды ашалеўшы. Гэта быў паляк аднекуль з-пад Брэста. Паляк запытаўся: «То тэраз до немцув?» Малады чалавек заківаў галавой: «Не могэн, естэм жыдэм». Паляк удакладніў, ці абрэзаны ў яго, малады чалавек адказаў, што так. Абняліся і разышліся ў розныя бакі.

У бліжэйшым ваенкамаце малады чалавек сказаў, што ён з мясцін пасялення. Стомлены паджылы капітан цвёрда перапыніў: «Нічога я не чуў. Забудзься, што казаў мне. Вось табе прадпісанне, ваюй!» І ваяваў. І даваяваўся.

У Патсдаме забралі ваеннага карэспандэнта Рыгора Саламонавіча Бярозкіна. А перад чарговай пасадкай (першы раз пасадзілі ў 37-м) паспеў атрымаць водпуск, пабыць у Маскве. Не ўцярпеў і ў Мінск наведаўся да сваіх, да родных. А нехта даў сігнал куды трэба. Кажуць, што, магчыма, той, пра каго пісаў пасля лагераў Рыгор Бярозкін як пра здольнага, той, што ў апошнія гады жыцця найлепшага крытыка ў п'яных прыступах даводзіў, быццам Бярозкін у скрынках з-пад артылерыйскіх снарадаў развозіў на фронце

сіянісцкую літаратуру. Бярозкіна няма, а гэны пільны плят-кавоз нешта іншае пра некага хрыпіць.

І рэдка каму магло прыйсці ў галаву, хто першы раз ба-чыў, чуў Бярозкіна, што прайшоў гэты дасканалец думкі і слова кругі не Дантавага, а яшчэ страшнейшага савецкага пекла. Бо ў часіны добраахвотна-прымусовага зліцця моў асобу «опрометчивую» кіравалі ў апраметную.

У канцы 50-х гадоў добры лёс звёў мяне, маладога і аблавухага паэта, з мэтрам, крытыкам, чыйму слову давя-ралі, нават позірк чый улавіць стараліся. Асабіста мне ўсмешка Рыгора Саламонавіча, ягоны зварот да мяне — Грыц, не кажучы ўжо пра нейкую пахвалу, значылі ўсё. Нядаўна Навум Кіслік прыгадваў, як на вяселлі ў мяне мама мая пераказвала мае словы і Бярозкіну і яму: «Вось калі Рыгор Бярозкін скажа, што я паэт, тады ўсё!» І не раз мы сыходзіліся з Навумам на думцы, што трэба было запіс-ваць за Бярозкіным ягоныя жарты, хохмы, выдумкі, вы-хітрыкі.

Не хацеў і ніколі не казаў Рыгор Саламонавіч пра ўсё чорнае і пакутнае. Свой боль, свой жах насіў у сабе. І міглі-вымі іскрынкамі жартаў і досціпаў адганяў змрок напамінаў і ўспамінаў. Хоць такім чынам уцякаў ад цяжару, які ціснуў на ягоную ўражлівую, поўную дзяціннасці душу. Таму і за-сталося ад Бярозкіна шмат вясёлага і задзірыстага, свет-лага і радаснага, бяскрыўдна-хітрынкавага і глыбока роз-думнага.

І ўсплывае, выплывае, наплывае ўсё Бярозкінава, што грэе, радуе, журбоціць.

Заходжу ў «Неман». Рыгор Саламонавіч праглядае рэ-дакцыйную пошту. Разгарнуў «Знамя юности». Там асвят-ляецца тыдзень саду. На развароце шапка: «Пасадзіш дрэ-ва — друг вырасце». Заядлы курэц завівае колькі пасмаў дыму за вуха і працягвае ўслых: «Пасадзіш друга — дрэва вырасце». Захінае газету.

У Віцебску па бруку падскоквае матацыкл. Матацыкліста абдымае, каб не ўпасці, дамачка. Бярозкін кінуў сваім па-шчупаковаму пукатым вокам і патлумачыў: «Перед упот-реблением взбалтывать». Якраз стаялі мы непадалёку ад аптэкі.

У выдавецтве «Беларусь» была пышнагрудая, з асабліва крутымі клубамі бухгалтарка. Трапна, як тую кнігу, назваў яе Бярозкін «метательницей бедра». Плоцева і неабразліва.

І не ўсміхнуўшыся казаў: «Заходжу я ў майстэрню да Азгура, а на галаве ў Сакрата Кірэенка».

«...Мангол ажаніўся з яўрэйкай. Нарадзіўся сын. Назвалі Чынгіз-хайм».

Аднаго паэта ён празваў Хрыстапор Калун.

«...Раманіст, узяўшы сэрца ў далонь, як гранату, заплюшчвае вочы і кідаецца на дзот, а адтуль куры фур-фур-фур...

...Пэўным крытыкам уяўляецца, што паэт-трыбун і спіць у трыбуне...»

Сустракаю на радыё Рыгора Саламонавіча. Захоплены: «Чытаў новыя вершы Ігарка Шклярэўскага. Хлопчык вершы з паветра робіць. Гэта ж не пасляабедзенны трагік Вінакураў».

Уяўна глыбакадумнага крытыка ахрысціў Бярозкін вундэрхундам. Гэта пра яго распавядаў. Ідзе згорблены, нібыта пуды мудрых думак нясе. Бярозкін у яго і пытаецца, чаму такі замаркочаны, такі заклапочаны. Адказвае, што дужа хвалюе яго лёс паўднёвав'етнамскай паэзіі.

Любіў Бярозкін распавяданне нібыта Рыгора Няхая. Гэта пародыя на псеўдапартызанскую героіку: «Сяджу ў стозе сена. Вакол немцы. Выпіць хочацца, ■ ў кішэні ні рубля...»

Пра адну літаратурную даму казаў, што ў яе вочы, як у назіральніцы Равенсбрука...

Паказваў у асобах сцэну ў Саюзе пісьменнікаў, калі было шмат сакратароў. Прыдумаў псіхалагічна дакладна. Прымаюць у Саюз былую партызанку, журналістку з «Советской Белоруссии».

Шамякін кажа пераканаўча, што ведаў мужа пісьменніцы, рэдактара абласной газеты, сапраўднага камуніста. Трэба прыняць.

Брыль на правільнай рускай мове гаворыць коратка, падтрымлівае прапанову.

Мележ кажа, што нічога не чытаў пастулпанткі, але неяк ішоў ля «Сінтэтыкі», пачынаўся дождж. Стаў пад дашак магазіна. І тут паступантка сказала, што ёй дужа падабаюцца «Людзі на балоце». Гэта сведчыць пра тонкі густ пісьменніцы. Трэба прыняць.

Панчанка маўчыць, нервова змагаючыся з самім сабой.

Ставіцца на галасаванне пытанне аб прыёме ў Саюз пісьменнікаў. Усе падымаюць рукі. Панчанка з-за пляча паўдалані...

Пра паэта, які ценем хадзіў за Куляшовым,— двухспальны халадзільнік...

Да юбілею Броўкі напісаў артыкул у «Вячэрні Мінск» (тады яшчэ і па-беларуску драбніцу тыражу ціснулі) і, сам

з сябе пакепліваючы, хваліўся: «У двары пачалі вітацца суседзі, у цырульнях пазнаваць мяне. Адчуў я, нарэшце, сілу друкаванага слова».

Цытаваў савецкую класіку:

> І гучна брахалі сабакі
> Над нашай шчаслівай зямлёй.

Так адгукнуўся адзін паэт-пяюн на палёт Белкі і Стрэлкі ў космас.

Добры настрой выклікалі ў мэтра і радкі магіляўчаніна, па-зямляцку расчульвалі:

> Пасецца калгасны статак
> Каля блакітнай ракі,
> А там, у Злучаных Штатах,
> Рэжуць кароў мяснікі.

У застоллі ґрунтоўным, у нахапковым застоллі, адчыняючы ваду, прыгаворваў: «Мы клялі вас тады, Мінеральныя Воды». Пачатак Броўкавай паэмы распачынаў размову шклянак.

Вясёла паказваў крытык, як у дождж ад старога будынка Саюза пісьменнікаў да плошчы Якуба Коласа праводзіў яго Мележ, увесь час просячы: «Грыша, паўтары ты гэтую фразу пра мяне, дзе ты падкрэсліваеш маё майстэрства і талент...»

Пра аднаго паэта казаў, што ён кідае лозунгі: «Смерць бюракратам!», «Смерць чыноўнікам!». І над галавой круціць чырвоным сцягам.

Дасціпнай выдумкай было нібыта выказванне рэцэнзента: «Нават нязначныя адзначаныя недахопы Петруся Броўкі з'яўляюцца дасягненнямі нашай паэзіі».

Часта Бярозкін, ужываючы слова Васіля Сёмухі, выдурняваўся, строіў з сябе прасцячка. Мог з абсалютна сур'ёзным выразам на твары заявіць: «Для мяне што рубаі, што Наваі — усё нешта ўсходняе».

Так здарылася, што ўвесь час пасля вайны беларускія народныя казкі выдаваліся (дый цяпер выдаюцца) толькі ў апрацоўцы Алеся Якімовіча. Бярозкін і прыдумаў узор Якімовічавай апрацоўкі: «— У чым справа,— запытаўся воўк у зайца».

Жарты жартамі, а здзіўляў Рыгор Бярозкін і маладых і старых выключным веданнем сусветнай паэзіі. Гадзінамі мог чытаць па памяці ад беларускай, рускай, украінскай да антычнай класікі. Чытаць так, як не могуць чытаць ні акцёры, ні паэты. А сам жа быў выдатным паэтам. Пісаў на ідыш, па-руску, па-беларуску. Віртуозна і пашанліва-

дакладна перакладаў паэзію. Ды нічога не сабрана, не захавана.

Аркадзь Куляшоў рабіў захады, каб вызваліць яго, калі гэта было небяспечна. А некаторыя ўжо вызваленага крытыка хацелі вызваліць ад хлеба надзённага. Не давалі працы, не друкавалі. Перабіваўся рэцэнзіямі, як чорнарабочы літаратуры. I заставаўся нязломнадухім.

I засталіся мудрыя кнігі Рыгора Бярозкіна.

I не сумуюць кпіны і жарты Рыгора Бярозкіна.

Яго любілі, яго паважалі, з ім лічыліся творцы, і з ім хацелі, ды не маглі, разлічыцца выпадкоўцы ў літаратурным жыцці.

Згадалася здарэнне. Прынёс Бярозкін у выдавецтва прадмову да зборніка паэзіі Хаіма Мальцінскага. Прыскакаў на мыліцах і Мальцінскі. (Гэта Мальцінскі даводзіў Бярозкіна на першых часах пасля жаніцьбы Рыгора Саламонавіча адным і тым жа пытаннем: «Грыша, ці быў ты сёння мэлах элаін (анёлам зверху)?») Спачатку ветлівае ўзаемавітанне. Потым слова за слова, і перайшлі на ідыш. Спрэчка набірала разгон. Паэт замахнуўся на крытыка мыліцай. Бярозкін убягае ў пакой (асноўная эмацыянальная размова ішла на калідоры) і патрабуе аддаць яму прадмову, хоча падраць. Мне як рэдактару трэба заўтра здаваць зборнік у набор. Хаваю прадмову. Бярозкін выбягае. Праз які час заходзіць ужо спакойны Мальцінскі. Просіць даць яму пачытаць прадмову. Чытае, святлее не толькі аблiччам, але і душой і, быццам нічога толькі што не здарылася, думае ўслых:

— Што ні кажы, а пісаць Грыша ўмее...

# *Юрка Гаўрук*

Неяк гадзіны ў дзве ночы пастукаўся да мяне ў пакой у Дубултах аўтар вострасюжэтных дэтэктываў Андрыс Колбергс. Запрашае ў кампанію, ужо цёплую. Пярэчу, што не п'ю. Ды не піць прасіў мяне Андрыс, а каб удакладніў яму блатны пераказ «Стракозы і мураша». Сонным голасам пачаў я: «Жил-был крот-муравей, и жила-была фурсетка-прафурсетка стрекоза. Муравей замастырил себе хавиру, натоптал мандреца. Хавает себе мандрец поманеньку да припухает. Пришла зима, пришел пургевич. Тут стрекозу и провебло. И почимчикивала она к муравью: «Крот-муравей, открой свою хавиру, дай мандреца похавать, бля буду, дохожу в натуре начисто».— «А не хотела бы ты буя?» И взял он дрын и начал ее дрыновать».

У Каралішчавічах у зажурана-гарэзлівым настроі перадаваў мне ў галасах вандроўны сюжэт на фені знаўца англійскай, французскай, нямецкай і іншых моў, перакладчык, інтэлігент, і вонкава і душэўна, выкшталцоны Юрка Гаўрук. Гэта любімага вучня Брусава Юрыя Паўлавіча Гаўрука як «нацдэма» паслалі на сібірска-таежныя курсы, каб удасканаліць на працягу дваццаці з гакам гадоў свае веды ў рускай мове. «Великий и могучий» гучаў з вуснаў сапраўдных арыстакратаў, з вуснаў канвою, з вуснаў крымінальнікаў, якіх спецыяльна садзілі разам з ненавіснай «самаму чалавечнаму чалавеку» інтэлігенцыяй, каб дэмаралізаваць. Каб зламаць дух непакоры.

У Каралішчавічах таксама расказваў Юрый Паўлавіч, як хадзіў да Якуба Коласа пад час кароткага наведвання Беларусі перад чарговай пасадкай. Прасіў Якуба Коласа паспрыяць выданню драмы Шэкспіра, якую пераклаў ён, Юрка Гаўрук. Якуб Колас кепска сябе пачуваў. Размова была шчырая. Але калі зайшоў прыстаўлены да народнага паэта сакратар, якога некалі Мікола Хведаровіч называў пасцельнічым, што мулка слаў, Якуб Колас вачыма паказаў Гаўруку перавесці тэму размовы. Не давяраў, значыць. Ведаў, хто паслаў сакратара.

Тады ж расказваў Юрый Паўлавіч пра дужа дарагі касцюм, які ён справіў перад пасадкай. Меў густ. Любіў добрыя рэчы. Нават успамінаў пра іх.

Падараваў мне кнігу ў сваім перакладзе. Дасюль у мяне цёпла і ўтульна ад навел Маруа, якія мякка і годна гучалі па-гаўрукоўску.

Дужа захапляўся Юрый Паўлавіч халодным Брусавым, Левікам, у чыіх перакладах уся класіка гучала аднолькава.

З падазронай патрабавальнасцю ставіўся да перакладчыкаў, асабліва маладых. Памятаю, як колькі гадзін даводзіў мне, што Васіль Сёмуха не справіцца з перакладам «Фаўста». Калі меў намер (а тады меў я і сілы болей, і яшчэ свежа памяталася англійская мова) перакласці ўсяго «Чайльд Гарольда», Юрый Паўлавіч суха запытаўся: «Вам гэтак трэба грошы?» І адразу ахаладзіў. Пераклаў я толькі часткі з Першай песні «Паломніцтва». Можа, у гэтай суровай патрабавальнасці і была свая праўда. І ў галаву прыходзіць яўрэйская прыпавесць. Трэба было абрабіць неацэнны дыямент. Ніводзін майстра не браўся. Узяўся абрабіць толькі адзін майстра. І аддае ўладальніку. Той пытаецца, а ці ведаў майстра пра кошт гэтага дыямента? На што майстра спакойна адказаў, што ён дык ведаў, а вось чалядднік, які яго абрабляў, дык не ведаў сапраўднага кошту дыямента. Гэтак, відаць, было і з Юркам Гаўруком, які ведаў цану дыяментам сусветнае паэзіі, але чаляднікам не давяраў.

Лічыў Юрый Паўлавіч, што ніхто не можа перакласці Сяргея Ясеніна. У нас з ім адбылася ледзь не спрэчка.

Ніяк не мог пагадзіцца з перакладам Аркадзя Куляшова: «Я адзін выходжу на дарогу». Чаму Я наперадзе, а ў Лермантава не з Я пачынаецца.

Відаць, вучыць можна не столькі хвальбой, колькі крытыкай. Бо сапраўдная ласка звычайна з суровым тварам.

# Зямляк

Кожны ўшацкі школьнік ведаў, што Пятрусь Броўка — наш зямляк. Пуцілкавічы зусім недалёка ад Вушачы. Шмат каму імпанавала, што ў вершах земляка ўпамінаецца нашая Ушаччына. Але аднойчы за любімага земляка ледзь не палова класа атрымала двойкі.

Вучылі на памяць верш «Пасылка». Гэта пра тое, як усе ў калгасе ладзяць пасылку, вядома ж, Сталіну. Дома ў школьнікаў галеча, пасніца. Ну і нейчая маці, слухаючы, як пакутуе дачушка, завучваючы даволі доўгі верш (бо дары прыносілі і пчаляры, і садоўнікі, і пастухі) не вытрымала і паправіла адно слова ў радку. І калі першая, каго выклікала настаўніца да дошкі, дайшла да гэтага радка, яна і прадэкламавала:

> У нашым калгасе жанчынамі пашуць —
> І ложыць старая ручнік вышываны.

Пашуць замест пашана. Як разумею цяпер, беднай настаўніцы Сібірам дыхнула. Абарвала вучаніцу, паставіла двойку. І колькі пасля ні выходзілі, усе, як у вядомым акцёрскім анекдоце пра Валабуева, чыталі «пашуць».

Колькі разоў наважваўся расказаць Петрусю Усцінавічу, але, загаварыўшыся, забываўся. Затое ягоны шафёр, калі ўзначальваў акадэмік Броўка «Беларускую Савецкую Энцыклапедыю», у добрым настроі не за рулём чытаў вершы па школьнай праграме, дзе пра Сталіна было шмат, як і ва ўсіх паплечнікаў паэта.

Пры жыцці Пятрусь Броўка быў папулярны шырока. Як на кожную папулярную асобу былі і на яго брахлівыя вершыкі. Ён быў аптыміст, які на вачах аўдыторыі напампоўваў сябе пафасам. І тады ляцеў, забыўшыся на зямлю. Грамадзянскі пафас, як раней казалі, трымаў яго і маральна, і фізічна. Усё вырашаў хутка. Нахапку. Быў такі ідэалагічны сакратар ЦК Гарбуноў. Любіў на сходах у Саюзе пісьменнікаў даваць указанні, ставіць задачы, вызначаць накірункі. Гэта на яго абароне (калі з ЦК ссылалі ў га-

наровую ссылку ў Акадэмію навук) сказаў без кроплі гумару Кандрат Крапіва: «Мае звыш 500 навуковых прац». Ішлі выбары ў акадэмікі. Дык нехта не з гуманітарыяў і не са «светапоглядных» дактароў навук, акадэмікаў дадаў: «...улічваючы ўсе нататкі ў раённых газетах». І гэты Гарбуноў як вястун з ЦК выступаў раз перад пісьменнікамі, ставячы за мэту напісаць сучасныя частушкі, нарысы пра перадавікоў. Ён быў тым апошнім з цэкоўскіх, які пры пісьменніках яшчэ стараўся гаварыць па-беларуску. І дадаў: «Броўка частушак, напеўна, не напіша». *Е* замест *э* надавала слову іншы змест. Зала заўсміхалася: напеўна не напіша. Броўка адразу ж пахваліў ідэі Гарбунова і канкрэтна даў заданні: даручыць падумаць Тарасу Хадкевічу, даручыць падумаць Міколу Ткачову. Ведаў, што пярэчыць цэкоўскаму — тое ж самае, што дзьмуць супраць ветру, а «падумаць» да нічога не абавязвае.

На пачатку 70-х гадоў была паездка на Ушаччыну да Петруся Броўкі і на Полаччыну да Генадзя Бураўкіна і Алеся Савіцкага.

У Пуцілкавічах сталы накрытыя былі пад ліпамі. Проста ў разорах халадзіўся каньяк. Быў райком партыі як не ў поўным складзе, прадстаўнікі абкома. Абавязвала фігура Петруся Броўкі. А яшчэ Алесь Савіцкі быў прадстаўніком ЦК на грэшнае ўшацкае зямлі. Хапала тостаў, хапала чаго ліць па тосты. Начавалі на сене ў хляве ў Броўкавай пляменніцы Настассі. Ды не дужа спалася. І вырашылі не па пратаколе пакаштаваць Настассінай бражкі. Апошняе, што яшчэ помнілася, дык гэта, як мы з Петрусём Усцінавічам, седзячы на падлозе, звесіўшы ногі ў адчыненую яму, па чарзе раскручвалі слоік і цадзілі ўжо ажамеры.

У сярэдзіне гэтага застолля, ці дакладней будзе сказаць падложжа, Броўка прапанаваў мне ўступіць у партыю. Вяла супраціўляючыся, я толькі запытаўся, а хто рэкамендацыю дасць. Броўка адказаў, што ён дасць рэкамендацыю. А другую рэкамендацыю даць прапанаваў Савіцкаму, але той, наколькі помню, не дужа гэтаму ўзрадаваўся. Пасля, калі настойліва прапаноўвалі мне ўступіць у партыю парторгі Грамовіч, Кулакоўскі, у мяне быў дужа цвярозы козыр: рэкамендацыю даваў мне сам Пятрусь Усцінавіч, калі пілі, а цвярозы ні разу пра гэта не заікнуўся. Гэта было паратоўным кашчунствам. Ад мяне адсталі. З гэтай паездкі мяне цвяроза ўразіла пільнасць Алеся Савіцкага. З сабою ўзяў я магнітафон «Вясна», няўклюдны, прымітыўны. І ўвесь час стараўся яго ўключыць. Помню, па дарозе дамоў

уключыў магнітафон, бо ўсе былі вясёлыя. Назаўтра на плёнцы нічога не было. Думаю, Алесь Ануфрыевіч выключыў своечасова.

Бачачы сябе на партрэтах, у школьных падручніках, Броўка не дужа насіўся са сваёй славай. Любіў жарт, разумеў яго.

На адным з пісьменніцкіх з'ездаў у Маскве ўрадавы прыём прыпаў на 25 чэрвеня — дзень нараджэння Броўкі. З сярэдзіны застолля Броўка выйшаў. Пайшоў яго праводзіць. Ідзём па крамлёўскім двары, а імяніннік і кажа: «З усіх цароў люблю Пётру. І не толькі таму, што цёзка. Гэта ж ён пасылаў Меншыкаву запіску: «Пришли Катьку, страшно есть хочется».

Мяккім голасам заўважаю:

— А нам здавалася, што вашае пакаленне толькі кароткі курс ведала.

— І гэта ведала! — успамінна ўсміхнуўся мой субяседнік.

Неяк я ў панібрацкім запале выгукнуў: «Цісну Вашу лапу!» І сумеўся. Броўка скрасіў маю збянтэжанасць: «А калі дзяўчыне дагодзіш, яна цябе гладзіць, прыгаворвае: «Лапушка мая». Адна актрыса з Віцебска пасля мне неяк хвалілася, што мае вершы Броўкі, напісаныя ў яе гонар. Пафас паэт любіў ва ўсім.

Апранаўся Броўка сціпла, але ўсё на ім заўсёды было вымыта і адпрасавана. А напярэдадні 70-годдзя, на пачатку чэрвеня 1975 года, давялося ўбачыць земляка зусім па-зямляцку зямнога.

Званю ў дзверы. Адчыняе мне выхудалы чалавек сталага веку ў традыцыйных шырспажывецкіх трусах і майцы. Жонка Алена Міхайлаўна было затукала на яго, чаму ў такім выглядзе, але гаспадар запярэчыў, што я свой.

Пачынаўся дужа спякотны чэрвень, а былому франтавому фотакарэспандэнту Аркашову захацелася як мага болей нарабіць кадраў юбіляра ў поўным парадзе, што называецца. На канапе ляжыць пінжак, дзе пачэплены ўсе ордэны, усе знакі і адзнакі.

— Во, паглядзі, які цяжар на сабе трымаў, ды яшчэ пад сонцам. Ледзь не сканаў. І навошта мне гэта?

Крыху перавёў дых, паспакайнеў і тут жа дадаў:

— Тут, Грышка, уся гісторыя беларускай савецкай літаратуры.

І смутак, і гонар, гаркота і асалода — усё, як у жыцці. Перада мной быў не ўсемагчыма аблаўрэачаны і ордэнаўве-

шаны Пятрусь Усцінавіч Броўка, а просты, як бы абскублены ўшацкі дзед Стахван. І блізкі ён быў мне, і зразумелы. А сялянская ашчаднасць праявілася і ў маленькай заўвазе:

— Але я ўзяў стары пінжак, бо добрага шкада, каб дзюркі круціць...

Гэткі ж самотны і бездапаможны ляжаў ён у двухпакаёвым нумары ў лечкамісіі. Глядзеў тэлеперадачу пра Ушаччыну.

Даверліва распавядаў Броўка, як пад час агрэсіі, якую пазней па-савецку сарамліва назвалі канфліктам на фінскай мяжы, Янка Купала хваліў Фінляндыю, фінскі народ, як абураўся ганебнай вайной. Значыць, давяраў Петруську (так пад добры настрой называў маладога сябра), бо за такія размовы абодва маглі апынуцца далёка на поўначы.

Праўда, я не спытаўся пра лесніка Шыманскага, які быў у купалаўскіх Ляўках, а ў вайну сустрэў Броўка гэтага яўна «мастацтвазнаўцу ў цывільным» у Маскве.

Затое пачуў распавяданне, як зайшоў неяк Броўка да аднаго пісьменніка. Той некуды адхінуўся, а на стале ў машынку закладзены ліст. Зірнуў госць, аж гэта данясенне ў нядрэмную ўстанову. А ўнізе подпіс: Беразняк. Спалохаўся я, успамінаў Броўка, адышоўся і гляджу ў вакно, як быццам нічога і не бачыў. Зусім нядаўна адзін наш паэт, які ад званка да званка адбыў сталінскія курорты і застаўся чалавекам і выдатным майстрам, пацвердзіў гэты псеўданім рупліўца, толькі ўдакладніў: Беразак. І мне прыгадалася студэнцкая паездка на Случчыну, дзе ўпершыню пачуў, як на бярэзнік казалі там беразак. Гэты пісьменнік, якога цяпер называюць старэйшым, а раней удумлівым, што азначала занудлівым майстрам, родам лічыцца са Случчыны.

Страх, які перадаўся і маладзейшым, асабліва ўчэпіста трымаў Броўку. Ён, страх гэты, называўся пільнасцю. Ужо недзе ў канцы 70-х гадоў пайшлі мы з Броўкам у «Юбілейны» гатэль да Якава Хелемскага, які асабліва шмат і выдатна пераклаў на рускую мову Петруся Усцінавіча. За невялікай чаркай разгаварыліся. Хелемскі пахваліў прызнанага мэтра: «А ты, Пятрусь, стаў пісаць лепей і лепей». Броўка ўзвіўся ў радасным забыцці: «А што раней? Нельга ні пра каханне, ні пра што людскае. Толькі ўра партыі, ура Крамлю!» Мяне як нячысцік пацягнуў: «Пятрусь Усцінавіч! Круцішча!» — і паказваю пальцам. Броўка ў запале не заўважае. Раптам, крыху астыўшы, пытаецца: «Што круцішча?» Жэстамі паказваю, што «службовы» магнітафон. «Ну, няхай

круціцца. Не баюся я!» Толькі на секунду паўза, і Броўка кажа: «Пойдзем на вуліцу, тут нея́к душна. На вуліцы ж — вясна...»

Былі, як цяпер — смешнаватыя, а на той час сумнаватыя здарэнні. Выходзіў чарговы том Збору твораў Броўкі з публіцыстыкай ды ўспамінамі. Я рэдактар Збору твораў. Выклікае намеснік галоўнага, аўтар эпахальных тамоў, ледзь не напісаў апухальных, і катэгарычна: «Ну, што, даскакаўся? Пішы тлумачальную запіску!» А ў карэктуры такая памылка: замест «партыя бачыць найдалёка» набралі «недалёка». Выходзіць, памылка палітычная, а не граматычная. Ведаючы, што Броўка б выгарадзіў мяне, адказваю, што тлумачальную запіску варта пісаць нам абодвум, бо ён жа, былы газетчык і пільны камуніст, падпісваў у набор тэкст. Абмяк. Броўку пра гэта не казаў. Каб не расхваляваць без патрэбы.

А хваляваўся, здаралася, зямляк за земляка. Звоніць. Чую, узбуджаны нечым. Думаю, нехта нейкія чубы звёў. Прыходжу. Здагадаўся. «Гэта Вы наконт дэпутацтва,— кажу,— дык я б там не глядзеўся і аднаго б склікання не ўтрымаўся».— «Ну, дык ты не перажываеш?» — пытаецца. Адказваю, што не. «Падзякуй,— кажа ўзрушана,— сябрам і адной установе, бо такую характарыстыку далі як нацыяналісту і ненадзейнаму». «У мяне,— тлумачу,— з гэтай установай любоў узаемная». А гэта Броўка вырашыў мяне зрабіць дэпутатам Вярхоўнага Савета. У тыя часы нават пазнейшае фармальнасці не было, ЦК і КДБ назначалі дэпутатаў. Калі пачалася гэтая валтузня, праз добрых людзей мяне папярэджвалі, каб не хадзіў да Навума Кісліка дамоў, не брахаў на ўладу. Бо тое, пра што гаварылася ў Навума, праслухвалася.

Праз колькі часу дайшло да мяне: болей за ўсё расхваляваўся Броўка не гэтулькі за тое, што я не прайшоў у дэпутаты, а што ўпершыню яго не паслухалі. Можа, пачалі і яму не давяраць.

На пасадзе старшыні Саюза пісьменнікаў Броўку паважалі. Падначаленыя непасрэдна па апараце СП ставіліся багавейна. Так, калі атрымаў я першы ордэр на кватэру, на хаду вырашылі замачыць. Генадзь Кляўко, Уладзімір Нядзведскі і я запрасілі раздзяліць радасць доўгі час нязменнага сакратара Міколу Ткачова. Пасля працоўнага дня селі ў кабінеце Броўкі (гэта ў старым яшчэ будынку) за Броўкаў стол. Каньяк, хлеб, сырыя яйкі. Асушылі па адной. Толькі я разбіў яйка аб аналагічныя «запчасткі» бронзавага каня, што ўпрыгожваў старшынёўскі стол, як Ткачоў прапа-

наваў перайсці на другі паверх. Бо гэта ж конь Петруся Усцінавіча. І «запчасткі» ў каня як бы Броўкавы.

Пра ідыятызм не вясковага жыцця, а савецкага, асабліва літаратурнага, можна казаць бясконца. І пры канчыне Броўкі ідыятызм гэты праявіўся.

Стаю ля труны. Дарагі мне чалавек. Старэйшы таварыш. Ушацкі. Усе словы блытаюцца ў галаве. Раптам падыходзіць нехта з рухавых членаў Саюза і віншуе мяне. Недаўменна, хутчэй машынальна пытаюся, з чым гэта? Той член і кажа: «Тваё прозвішча ёсць пад некралогам у «Правде». Не каменціруючы мінулае, зазначу, што ў Саюзе пісьменнікаў сапраўдная вайна была — у падпісанты пад некралогам не трапіла цэлая група таварышаў на чале з Кірэенкам. Дабіліся праз ЦК, каб паўторна далі некралог усе беларускія газеты, дзе былі падпісаны ўсе, хто любіў бачыць сваё прозвішча разам з членамі ЦК.

Пра такіх партыйных работнікаў і членаў Саюза пісьменнікаў у Петруся Броўкі было добрае сырамятнае сялянскае слоўца — хамуты!

# *Акадэмік*

Першае чытанне Пятра Глебкі запомнілася тым, што шмат слоў было незразумела перакручана — ва ўшацкім маім успрыманні. Гэта тычыцца аднатомніка 50-х гадоў. Аднолькавымі цаглінамі былі выдадзены і Броўка, і Глебка, і Куляшоў. Як разумею цяпер, да нейкае важнае савецкае даты.

Імя Пятра Глебкі ў вучняў было звязана з цяжкім запамінаннем клятвы Сталіна над труной Леніна. Незразумела гучала першая ўжо фраза: «Падымі мяне, сіла класа, над галовамі паўшых ніц...» Лягчэй запаміналася, праўда: «Вышывана там, дзе Горы, на святой зямлі грузін». Святая зямля грузін таму, тлумачылі нам настаўнікі, што там нарадзіўся Сталін.

Яшчэ да універсітэта, да майго прыезду ў Мінск, чуў ад мамы і ад мястачковых: «А гэны вылез з машыны перад рэстаранам, чырвоны, як бурак. А плашч увесь як цяляты пажавалі. Няўжо так прапіўся, што людскага плашча сабе купіць не мог?» Гэта, цяпер магу патлумачыць, Глебка выбіраўся (дакладней, назначаўся ЦК) дэпутатам ад нашае акругі. Ну і пасля цяжкое працы трэба было падсілкавацца ў рэстаране. А Вушача — мястэчка маленькае, усё як на далані. А плашч быў амерыканскі, якія толькі ў моду ўваходзілі. Міністр замежных спраў БССР Кісялёў любіў браць з сабой Глебку, бо той мог начамі сядзець, гуляючы ў карты, за адпаведнай дозай капіталістычнага галавабойнага напою. Аж некалькі разоў браў міністр за акіян з сабой акадэміка (тады ўсе, хто быў у пашане ў ЦК, мелі званне).

Пасля ўжо ў Мінску ўпершыню ўбачыў я Глебку, пачуў, як ён гладка і з ходу ўзнёсла выступае і за жалобным сталом, і з любое прычыны. У рэстаране «Нёман», куды падчас залятаалі мы, маладыя літвераб'і, часцяком палуднаваў акадэмік Глебка, абавязкова за пузатым поўным графінам, які гарэў, як гіль, на першым снезе рэстараннае сурвэткі. Зноў жа мама мая, неяк пабачыўшы Глебку

бліжэй, сказала, што яму не трэба рот расчыняць, калі п'е, бо ў яго ніжняя губа, як латачок — толькі лі.

Здарылася мне быць з Глебкам на Дэкадзе беларускае літаратуры ў Таджыкістане. Уночы, вядома, не хапіла таго, што грэе і на поўначы ў снягах. Глебка даў ідэю, каб схадзіць у буфет, можа, што ўдасца раздабыць. Асабліва маральныя былі супраць. Але вясёлы розум узяў перавагу. Паслалі самага маладога. Буфетчыца (а размясцілі нас на дачы Саўміна ці ЦК Таджыкістана) сядзела з нейкімі цэкоўскімі візіцёрамі з Масквы. Разгаварыліся. Беларуска. Дала мне некалькі пляшак каньяку. Праўда, па дарозе ў буфет міліцыянер, адзін з невядома колькіх ахоўнікаў дачы слуг народа, спытаўся, куды іду. Паабяцаў, што не забудуся і яго. На што ён сумна адказаў: усе абяцаюць. Дык вось калі шчаслівы вяртаўся я з буфета, наліў паўнюткую «малянкоўскую» шклянку міліцыянеру. Кажу, што няма закускі. Ён працягвае ўгору руку і зрывае важкую гронку вінаграду. Сапраўды, цэкоўскі Эдэм!

Наступныя ночы на правах земляка хадзіў у буфет і браў сам, а грошы клаў у дамоўленым месцы, чым дзівіў маскоўскіх начальнічкаў. Амаль як пры камунізме на дачы ЦК. Дадам, што асабліва ідэйныя нашыя першыя цягнулі свае чаркі, калі з'яўляўся каньяк.

Праз колькі дзён Глебка ад'язджаў у Маскву, а там у бальніцы ляжаў Пятрусь Броўка ці то сакратарыў у Саюзе пісьменнікаў. Дык акадэмік зайшоў удзень у буфет пры значку дэпутата Вярхоўнага Савета рэспублікі папрасіць з сабой пляшачку каньяку. Буфетчыца зрабіла яшчэ сінейшыя, чым у яе былі, вочы і здзівілася: «Які каньяк? У нас толькі сокі...» Тады Глебка папрасіў мяне: «Ты маладзейшы. Мне не даюць...»

А пасля вярталіся з Масквы цягніком. Мне, маладому і п'янаватаму, карцела неяк зачапіць акадэміка. І пачаў я ганіць «Руска-беларускі слоўнік», да якога прычыняўся Глебка. Што ён мне ні даводзіў — не падабалася. Вядома ж, адпаведная гадам самаўпэўненасць не дазваляла мне ні з чым пагадзіцца. Нарэшце недзе каля паўночы Глебка з апошняй надзеяй выгукнуў: «А я замест «вучашчыйся» прыдумаў «навучэнец»!» І я пачаў захапляцца словам. І Глебка ў дэпутацкае купэ сваё паклікаў буфетчыцу. І мы аж да Мінска замочвалі ўдалае слоўца.

Шмат часу прайшло, але непрыемна ўкалола і не праходзіць папраканне ў дзённіку Глебкі. Калі рыхтавалі дзённік да друку, гэтае папраканне не далі. Але яно за-

сталося ў крыўдлівай памяці. Глебка гараваў, што моладзь заражана нацыяналізмам. Гэта, як і ў лісце Андрэя Александровіча ў ЦК, пасля ўсіх адседжванняў і этапаў, дзе ён даводзіў «ідэйным пастухам», што і Янка Купала, і Максім Багдановіч — нацыяналісты. Ліст гэты паказваў мне адзін паэт, набліжаны праз шклянку да целаахоўнікаў Машэрава. Але даруем усім гэным «інтэрнацыяналістам».

У акадэміка Пятра Глебкі было надзвычай прыгожае, беларускае вымаўленне. І на тым дзякуй яму!

# *Вясёлы дзівак*

Не лесам, а пушчаю анекдотаў, вясёлых здарэнняў, неверагодных прыгодаў пры жыцці аброс Антон Бялевіч. Прыкідваючыся вясёлым дзіваком, паэт хоць гэтак стараўся жыць амаль нармальна ў рэгламентаваным існаванні.

У поце чала свайго здабываў хлеб надзённы, пішучы нарысы, вершы да юбілейных дат, абавязкова даўгія паэмы. І пры такім тэмпе і вале заставаўся шчырым беларускім паэтам у сваіх незаказных вершах і паэмах. Дазволю сабе маленькае адступленне адразу.

Неяк быў я рэдактарам анталагічнага тома беларускіх балад, як заўсёды, грунтоўна і дасведчана складзенага Янкам Саламевічам. Дык магу катэгарычна падкрэсліць, што лепшымі, сапраўднымі баладамі былі і застаюцца ўзоры Уладзіміра Караткевіча і балада пра Маланку Антона Бялевіча.

Цяпер, як гэта і вядзецца здаўна, на хвалі захаплення Караткевічам дужа шмат з'явілася і сяброў, і апекуноў, і падтрымцаў таленту нашага Уладзіміра Вялікага. А першым рэдактарам, які багаславіў у жыццё «Матчыну душу», быў Бялевіч, да каго да канца дзён цёпла ставіўся Караткевіч.

Неаглядны ў разгуле, смелы, калі сапраўды смелым быць было рызыкоўна, Антон Бялевіч выходзіў раніцай на людзі альбо з'яўляўся ў рэдакцыі з гатоваю прадукцыяй адпрасаваны, паголены, ледзьве ненапудраны. Савецкі, сацрэалістычны варыянт беларускага шляхтуна.

І гэты ж — пылінкі з сябе здзіманец,— маючы зусім благі зрок, паляцеў з Масквы за лінію фронту да партызан. У маскоўскіх гатэлях як не ўсе песняры беларускага народа нудзіліся па радзіме на словах друкаваных, а паляцела за лінію фронту некалькі. Далёка пасля вайны адзін з нудзьбітоў па маці-радзіме гуляў у більярд. Трэба заўважыць, што пісьменнік гэты ўсю вайну працаваў у штабе партызанскага руху ў Панамарэнкі. Вярнуўся ў Мінск як лепшы прэферансіст і більярдыст, бо цяжкія гады барацьбы з ворагам вытанчылі майстэрства. І калі да гэтага штабіста

кай капусту варыць, марыць шмат не магло, але не хацелася ж нікому і голых касцей. І пачалі паддобрывацца, ці, як у нас кажуць, падхлебліватца:

— Таварыш Талкуёў. Даражэнькі Талкуёчак...

А ён толькі болей халярує.

### *Цясютка*

Ушача была партызанскай сталіцай. У Лепелі стаяў нямецкі гарнізон. Адпаведна і частка ўшацкіх паліцэйскіх там была. Пасля вайны былыя ўшацкія партызаны панадзіліся ў Лепель па кароў. Прызнавалі сваіх. Часам і чужую карову за сваю прызнавалі. У Вушачы жыў Сімкін. І ён вырашыў прызнаць карову. І прызнаў. Але гаспадыні не надта каб хацелася аддаваць сваю кароўку ў чужыя рукі. Справа дайшла да суда. У Сімкіна і пытаюцца:

— Чым вы можаце давесці, што карова вашая?

— Я ёй кажу: Цясютка, а яна мне: мммууу...

### *Туды і чапляй*

У Вушачы было дзве маці-гераіні. Абедзве былі вясёлыя і вострыя на язык. Іх так і звалі — Гераіні. Аднае з іх трэба было ўручыць адпаведны ордэн. Даручылі намесніку старшыні райвыканкома, крыху сарамліваму не па пасадзе. Віншуе гераіню і чапляе ордэн. Яна:

— Куды ты мне чапляеш?

— Ну, вядома, на грудзі.

— Чым заслужыла, туды і чапляй!

### *Відаць, і ты...*

Ажаніўся бедны з яшчэ бяднейшай. Зжыліся, як кажуць, на самоў хвост. Прыйшла вясна. Ідзе жанацік, а яго ветрам у бакі водзіць. На траву выйшаў бычок. Схудалы. Скура ды косці. Глядзеў-глядзеў на яго жанацік дый кажа:

— Відаць, і ты, бычок, жанаты...

### *За што?*

Мама распавядала, як у трыццатыя гады прывялі ў суд старую. Ёй пад восемдзесят гадоў. Прыйшлі дзеці, унукі, праўнукі. Чытаюць прысуд — дзесяць гадоў. Уся радня ў слёзы. А старая нічога не разумее:

— За што? Ці ж я крала? Я ж на сваім шнурку два снапкі на ніткі ўзяла.

Показка спачувае: за маё жыта і я ж біта. А тут бабка за свой лянок.

### *А ты лыжачкай*

Завітаў у хату салдат. Маладзіца засмажыла служываму яечню ў калена, як кажуць ушацкія. Паставіла на стол. Пасадзіла разам з салдатам і сынка. Сама завіхаецца каля печы (так і рупіць ужыць гэтую класічную фразу з нашае побытнай прозы). Ледзь малы памкнецца да патэльні, госць коле яго ў руку відэльцам.

Малы крыўдзіцца:

— Мама, мама, а салдат відэльцам.

— А ты, сынок, лыжачкай...

### *Ні кашкі, ні малачка*

Зайшоў салдат пераначаваць. Здарожыўся. Сеў. А насупраць яго гаспадыня ў адной спадніцы без нічога сподняга і ў вясёлай паставе. Гаспадыня і пытаецца ў падарожнага, што яму даць, ці кашкі, ці малачка? Салдат адказвае:

— Ні кашкі, ні малачка, толькі сядзі, бабка, як сядзела...

### *Як сонца падымецца*

На льнозавадскім пасёлку жыў Піліп. Скрыпач. Ахвотнік да маладзіц. Суседская дачка была як дзве кроплі вады падобная да ягонай. Жонка была западлівая. Казалі, што калі песцілася ў ложку з Піліпам, да сэрца прыкладала мокрую анучку,— каб не стала. І жонкі не стала, а хлапчукі, падобныя да Піліпа, нараджаліся ў маладзічак. Ды гады пачалі браць сваё. І пайшоў Піліп у Вушачу пашукаць вады ад немачы. Знахарка, якая лячыла такой, была вя-

сёлая на язык. І параіла. На ўсход сонца стаць, спусціўшы порткі. Як сонца пачне падымацца, і ўсё астатняе таксама...

### *Абы цяляткі*

У аднаго ўшацкага доўга не было дзяцей. Нарадзіўся сынок. Радасць. Ды злыя на язык хацелі ахаладзіць шчаслівага бацьку, намякаючы, што не ён творца. І адказаў гаспадар нядобразычліўцам:

— Чые бычкі не бычкі, абы мае цяляткі...

### *Не ездзіў на валах*

Ушацкі сувязіст Апёнак ставіў громаадвод у калгасе былой заходняй вобласці. Мяжа ішла ў нас дужа недалёка. Нахапіўся вечар. Апёнак сабраўся ісці дамоў. Старшыня кажа: вазьмі ровар і едзь. Сувязіст аднекваўся, бач, лепей пехатою пойдзе. Назаўтра скардзіцца старшыню, што замарыўся, пакуль дамоў дайшоў. Старшыня напамінае пра ровар. Апёнак гаворыць, што ён на валах ніколі не ездзіў. Старшыня тлумачыць — ровар не вол, а веласіпед. Апёнак злуецца:

— Так бы і казаў, што веласіпед. А то ровар, ровар. Падумалася мне, што гэта вол.

### *Перажывём неяк*

У Вушачы быў, так бы мовіць, мастак, што, у асноўным, піў, як у бот ліў. Часам на «чарніла» (фарбы былі казённыя) зарабляў, ледзьве пэцкаючы няхітрыя савецкія плакаты раённага маштабу ды афішы, калі якое кіно будзе. Сустракаю гэнага мастака пад час хрушчоўскае кампаніі барацьбы з фармалістамі і абстракцыяністамі. Як і належыць — п'яны-п'яны. Суцяшае сябе і мяне за кампанію:

— Ну, нічога. Нас усіх б'юць, перажывём неяк.

### *За свае грошы*

На прастольнае савецкае свята ўдзельнік вайны валіцца аблічча ў лужыну, падымаецца ды зноў у тую ж лужыну. Жанчына заўважае:

— Божа, сіла твая святая! За свае грошы так мучацца.

### *Моўчкі*

У раённай ушацкай гасцініцы ніяк не можа ўгаманіцца п'яная шафярня. Раве музыка. Жанчына, слабая на нервы, крычыць:

— Дайце жыць!

— Жыві моўчкі! — чуецца ў адказ.

### *Скрабок*

Мужык быў падмяталам. Жонка цвялілася з яго, іначай як «скрабок» і не звала. Не вытрываў, такога часу даў, ажно гаварыць жонка не можа, дык хоць кіпцюрамі шкрэбае па падлозе. Усё роўна — скрабок!

### *Прынёс*

Пастухі пасуць авец. Раніца. Туманок. З хмызу падкраўся воўк дый ухапіў ягнятка. І ўцякае з дабычай на спіне ягнятнік. (Мама некалі мне тлумачыла вузкія прафесіі ваўкоў. Той, які коней рэжа — канятнік, жарабят — жарабятнік, на гусей палюе — гусятнік.) А пастухі галёкаюць з двух канцоў:

— Ці гэта воўк?

— А няго ж (устойлівы выраз ідзе) заяц.

— Ці ён панёс?

— А няго ж (той жа выраз) табе прынёс.

Пакуль турукаліся, шэрага і след прастыў. Развражлівы ўшацкі характар не заўсёды карысць прыносіць.

### *Не круг*

Ушацкія любілі прыгавор: «Куме мой, куме, дурны твой вуме. За аднаго абеду сем вёрст еду». Казалі і пра такіх, у каго ў роце мухі жэняцца: каша ў печы, а малако ў клеці, дык у клець з кашай па малако хадзілі. І сапраўды — старцу вярста не круг.

### *Толькі з панам Богам*

Пасля вайны з Заходняй Беларусі шмат хто імкнуўся паехаць у Польшчу. (Хоць пасля пісалі: «Ожэл бялы, але жонд радзецкі».) Агітатарам з Усходняй было дадзена

заданне чыніць перашкоды. У бальшыне сваёй ад'язджанцы гэтыя былі палякамі касцельнымі. І вось на адным сходзе ўшацкі актывіст вырашыў пасадзіць маладзіцу ў галёшу. Просіць:

— Ну, калі ты полька, пагавары са мной па-польску.

Маладзіца адсекла:

— Па-польску я толькі з панам Богам размаўляю, а з такім чортам, як ты, і гаварыць не хачу.

Зала грымнула рогатам. Агітацыя была зведзена нанішто. Атрымалася па Марксу: смеючыся, чалавецтва расстаецца са сваім мінулым.

### *Каб яшчэ была*

Маці хварэла. Дачка прала кудзелю. Кудзелю спрала. Маці памерла. Дачка галосіць:

— Каб яшчэ кудзеля была, дык мая мамка б жыла.

### *Не носяць за пазухай*

На ўшацкае зямлі гэтулькі камянёў, аж людзі вераць, што камяні растуць. Было, цэкоўскі інспектар адвячоркам пасля абеду, які ў вячэру перарос, едучы ў райкомаўскай машыне, хваліў начальства за такую ўвагу да авечкагадоўлі. Яно і на цвярозую галаву ў тумане валуны лёгка за авечак прыняць.

І дагэтуль распавядаюць, як нехта ехаў на працу ў наш раён з Магілёўшчыны ды браў з сабою два камяні — гнёт на гуркі, на капусту. Яму адразу параілі выкінуць, бо на ўшацкае зямлі камянёў хопіць на ўсё. Толькі камень за пазухай ушацкія не носяць.

### *Дзеці вінаватыя*

Шляхцянка ў касцёле трымае малітоўнік дагары нагамі. І суседка, якая ўмее чытаць, пытаецца, чаму пані так малітоўнік трымае? Шляхцянка адказвае:

— То дома дзеці пшэвруцілі.

### *Ненармальны*

Нехта з ушацкіх шафёраў паехаў у суседнюю Смаленшчыну, але забыўся ўзяць з сабой папаску. Заўсёды

ж не забываўся, асабліва калі ехаў у Расію. Прыехаў. У адну хату, у другую — просіць, каб што прадалі, ці масла, ці яек, ці сала. Як на марсіяніна глядзяць за такую просьбу. Нарэшце, калі ногі прыбіў да самага азадку, нехта злітаваўся дый паслаў у канцавую хату: «Там ненармальны жыве». А ненармальны, як высвятлілася, таму, што трымае свінчо, курэй, нават кароўку. Ён з Беларусі пераехаў. Зямляк.

### *Адметны*

У партработніка пасля вайны галіфэ былі абшыты скурай, праціраліся ад паседжанняў. Усё яшчэ пад камісараў стараліся саўслужбакі. А вушацкія яго адразу ж празвалі — хромавая с..ка.

### *Добра*

Маладзіца, у якой зноў завёўся прытыка (так вушацкія завуць прымакоў), радуецца:

— За пнём галава, за калодай ногі. Добра, калі ў хаці які шавель ёсць...

### *Проста хацеў*

Званок у вушацкую міліцыю — у Сарочыне (вёрст з дзесяць ад мястэчка) аварыя! Міліцыя. «Хуткая дапамога». Прылятаюць — нікога няма, нічога не стрэслася. Выходзіць спакойны, пад добрай чаркай дзядзька:

— Ды нічога не было, я проста хацеў заехаць у Вушачу...

Давезлі. Заехаў дзядзька за колькі хвілін на пятнаццаць сутак.

### *Палатунак не па зубах*

Пра вайну 1812 года распавядалі ў Кавалеўшчыне. Холад. Голад. Маладзіца з дзецьмі сядзіць у нейкае яме. Прыходзіць галодны француз, жэстамі даводзіць, што хоча есці. У маладзіцы ў глінянай місе камянькі, падае французу. Ашалела зірнуўшы на гэтакі не па ягоных зубах палатунак, француз, як любяць пісаць нашыя эпапеісты, падаўся ў бок лесу.

### *Дзякуй*

У Кублічах у аднаго яўрэя сын ускочыў на каня і хацеў праскочыць праз мяжу. Яна ішла побач з мястэчкам. Памежнікі схапілі ўтрапёнца. Прыбег бацька і пачаў шчыра:

— І дзякуй ваш, таварышочкі, што затрымалі майго баламута. Ён жа, дурань, мог, не давядзі Бог, у Польшчы апынуцца.

### *Што рабіў дзед*

Старэйшае пакаленне ўшацкіх і недаўмевала, і бакі ад смеху надрывала, калі па радыё перадавалі купалаўскую «Паўлінку».

З радыё чулася:

Дзед боб малаціў,
Баба падсявала.

А кожны слухач сам сабе працягваў:

Дзед у бабы папрасіў,
Баба не давала.

Ці яшчэ:

Баба сеяла расаду.

Адзін толькі радок спяваў акцёр, а слухач зноў-такі дапяваў:

Дзед прыладзіўся к ёй ззаду.
Баба тропнула нагой —
Дзед з расаднічку далой.

Янка Купала фальклор ведаў. Ведаў, дзе кропку паставіць.

### *Ушацкі вугал*

Цесляры атрымалі заданне ад райкома зрубіць зруб пад установу не як яны рубілі спрадвеку «ў пальчыкі», а ў так званы нямецкі вугал (па-народнаму гэта завецца «ластаўчын хвост»). Каб доўга не мудрыць і не мучыцца, зрубілі яны зруб «у пальчыкі», абрэзалі пілой і дошкамі абабілі. І выйшаў «ушацкі» вугал.

### *Пойдзем*

Павяла маладзіца карову да быка. А бык нягеглы. Коўзаецца па беднай жывацінцы ды валіцца. Глядзела-глядзела гаспадыня дый кажа:

— Пойдзем, мая кароўка, тут не глэбля, адно ўбейства.

### *Кароткі дыялог*

Павезлі ў сваты картавага. І наказалі, каб маўчаў, пакуль сваты сватаць будуць маладую. Сядзяць абое, маўчаць. Сваты салаўямі заліваюцца. Малады бярэ нож і пачынае скрэбці подавы хлеб, на лістах кляновых спечаны. Маладая не вытрывала і пытаецца:

— Чаго ты наш х'еб ск'ябеш, што яму, сваяйбіць?

— А што я, казёй, каб з істам есці?

Дагаварыліся!

### *І за скрып*

Прынёс малады кавалер да шаўца шыць боты. Дамовіліся пра цану. Нейкія два рублі. Заказчык было пайшоў, але вярнуўся і папрасіў, каб боты былі абавязкова са скрыпам. Шавец згадзіўся, толькі дадаў:

— А за скрып яшчэ рубель.

Сакрэт скрыпу проста раскрываўся: пад падэшву клалася сухая бяроста. Скрыпела як са злосці.

### *Мала*

Пасля вайны часта рабіліся рэформы. Перад кожнаю, каб пазбавіцца ад заўтра ўжо збясцэненых грошай, штурмам, як Рэйхстаг, бралі магазін. Падчыстую падмяталі ўсё з паліцаў. Дык у чарговы штурм маладзіца з недалёкае вёскі позна ўскочыла ў магазін. Схапіла два хамуты, надзела на шыю, так і выбегла. Як быццам мала было хамута калгаснага прыгону і хатняга клопату.

### *Ані тромбалі-бом*

Бацюшка гуляў з ксяндзом у карты. Прысягнуў сабе, калі выйграе, будзе служыць абедню, калі прайграе — не

будзе. Прайграў. І пад самую раніцу ідучы дамоў, разбудзіў званара і наказаў:

— А заўтра, Іван, ані тромбалі-бом, ані дзын-дзалі-дзын, ані за вяровачку.

### *Тром блін папалам*

Ушацкім чулася, як звоняць званы ў розных храмах. У царкве:

Бліны, бліны, клёцкі...
Бліны, бліны, клёцкі...

У касцёле:

Тром блін папалам...
Тром блін папалам.

Галодны жывот чуў сыціва.

### *Шчыры фальклор*

Звычайна фалькларысты самі, наколькі хапала фантазіі ды ўмення кілзаць рыфму, славілі калгаснае жыццё, старанную працу, дзіва дзіўнае калектыўнае. А мне запомнілася чатырохрадкоўе, так бы мовіць, ушацкая дайна, дзе паказаны адносіны калгасніка да ўсяго калгаснага:

А ў брыгадзе нумар тры
Згніла бульба на гары,
Старшыня адно гаворыць:
— Не бяры да галавы.

Гэта звычайна, калі чалавек марна каму грозіцца, кажуць: зробіць яму на гары гразь.

### *Уважылі*

Пад час акупацыі да подпісу пад партрэтам Гітлера «вызваліцель» — нехта дадаў — «ад мяса, ад малака, ад усяго добрага».

Пасля вайны ў чахлым ушацкім скверыку гіпсаваму Леніну, каб не азяб, надзелі фуфайку і ў працягнутую руку паклалі некалькі мерзлых бульбін.

Правадыра ўважылі!

### *Зялёнае пытанне*

Местачкоўка забеглася да суседкі. Гаспадыня некуды адхінулася. Вярнулася ў хату і пытаецца ў ранняй госці:

— А што ў цябе зялёнае на роце?

— А што, відаць? Гэта ж я тваю зялёнку выпіла. З учарашняга галава шуміць.

На пахмелле і зялёнка, як самагонка.

### *Запомніла*

Лісіца, шукаючы спажывы, ушчамілася ў карчэўе. Не магла галаву выцягнуць. Заяц і прыладзіўся дый зрабіў усё, што трэба. Назаўтра бяжыць лісіца на шарэнніку, добра не разгледзеўшы ўчарашняга палюбоўніка (ушацкія казалі сюбар), вясёла вітае:

— Здароў, бобра!

— Бобра не бобра, але дагадзіў добра!

### *Тады і надзенеш*

Старшыня сельсавета, як і належала на такой пасадзе, піў «без пальцаў». (Звычайна, калі цяля адсаджваюць ад каровы, на першых часінах у пойла кладуць пальцы і паёнік прывыкае піць.) Жонка абнасілася. Запрасілі іх на нейкія гулі. Жонка і лямантуе, што няма чаго надзець.

— А ты надзень сукенку ў гарошак.

— А дзе яна? Няма.

— Як будзе, тады і надзенеш.

### *І сам дзіўлюся*

Прахапіўся сярод ночы гаспадар, і нешта павяло яго ў клець. А там злодзя. Гаспадар за няпрошанага госця, аж гэта — кум. Дзіва, дый годзе: і кум і злодзя. А тут яшчэ начны госць дадае:

— Дзівіся, кумок, і сам дзіўлюся: клаўся на печы, а прачхнууўся ў кумавай клеці...

Добра яшчэ, што хоць не каля кумы прачхнууўся!

### *Ды спаць*

Цыган прыйшоў наймацца касіць сена да гаспадара. У цане сышліся. Тады цыган кажа, што трэба паснедаць. Прынесла гаспадыня снеданне. Паснедаў ды зноў сядзіць.

— Чаму касіць не ідзеш? — пытаецца гаспадар.

— А давай, бацька, я заадно і паабедаю.

Паабедаў. Пасядзеў, прапануе:

— А давай, бацька, я і павячэраю. Тады цэлы дзень касіць буду.

Калі з'еў і вячэру, вясёла заявіў:

— А павячэраўшы — ды спаць!

### *Шчодры*

Пан даў бабцы грош. І як толькі сустрэне дзе старую, пытаецца:

— Бабка, я табе далэм грош?

— Дзякую, паночку, даў.

Адказвала, адказвала бабка на адное і тое ж пытанне пана, ды ўсё ж не вытрымала. Падала няшчасны грош шчодраму пану, прыгаворваючы:

— Забірай назад. Я такую ласку і ў жыда знайду.

### *Што паслаў*

Маладзіца ўзяла маленькага сынка з сабою ў лазню. Памыла, прыхаіла. Апранаюцца ў прымыльніку. Сынок угледзеўся ў маці нешта не такое, як у бацькі, спытаўся:

— Што гэта ў цябе?

— Што Бог паслаў,— у смяху адказала маладзіца.

Дома збіраюцца на вячэру. Гаспадар пытаецца:

— Што вячэраць будзем?

— Што Бог паслаў,— традыцыйна кажа гаспадыня.

Сынок, пачуўшы матчыны словы, запярэчыў:

— Хай тое чорт есць, што Бог паслаў!

### *Мазюка*

Мой апошні крэўнік па бацькавай лініі Пятрок як не ўсё жыццё праездзіў спачатку як шафёр, а потым як газавік (вялі газапровад па тэрыторыі былога Саюза, яшчэ тады нярушанага) свет з прысветкам. Мова ў яго, натуральна,

як у Дземянцея, з ухілам да рускае. Але што ў маленстве чуе чалавек, адгукнецца праз дзесяткі гадоў. Капалі недзе на Пскоўшчыне чарвей, на рыбу ідучы. Пятрок бярэ аднаго і кажа «мазюка». Рабочыя не зразумелі, што такое мазюка. Тады Пятрок выхітрыўся і кажа, што па-беларуску чарвяк — мазюка. У нас маломў, у якога выскокваў стручок са штонікаў, казалі, каб схаваў мазюку.

### *Хор*

Так казала вушацкая цётка пра спевы:

— Пачынаюць, як камары, тады, як мухі, тады, як авадні, а тады як гікнуць!

### *Жаласнік*

Адносна выхавання жонкі ў народзе былі рэкамендацыі, якія розніліся ад шэкспіраўскіх. Хоць бы такія: «Бабу бі молатам, зробіш золатам. Бі жонку, як шубу, а любі, як душу». Адзін ушацкі жаласнік, адчуваючы прыліў гневу праведнага, крычаў нецярпліва:

— Дунька, надзявай шубу — біць буду!

А некаторыя вушацкія жанкі былі перакананыя: калі не б'ець, значыць, не любіць...

### *Руплівы*

На размазняватага чалавека ў нас ёсць цягучае слова, якое расцягвае гукі, нібыта мярліна ногі валачэ: нявывалака. Была і такая прасмішка:

— Пакуль бацька змалаціў, сын жох — і абуўся, пакуль бацька з току прыйшоў, памыўся, а сын жох — і пад'еў!

### *Парадне ла*

Дзеўка нарадзіла дзіця. У адчаі надумалася яго ўтапіць. Пайшла пад сакрэтам (у нас казалі: пад хурымам) сказаць пра свой намер старэйшай суседцы. Тая і параіла:

— Пацалуй яго спачатку, а потым тапі.

Прыйшла дзеўка да рэчкі, пацалавала малое і панесла дамоў. Параднела, пабалючэла дзіця, маці ў дзеўцы прачнулася.

### *Толькі сярпок вазьму*

Была баба гультайка. Была ў яе ўнучка і сучка. Сачыўка ўжо зазімоўвала. Суседкі пытаюцца ў гультайкі:

— Чаго ты сачыўку не жнеш?

— А на чорта я яе буду жаць. Сучка здохніць, унучка замуж зойдзіць, а я памру.

Зіма настала. Агарнуў холад, засціг голад. Есці хочацца. Пад страхой венік вісеў і калодачка. Вецер як усходзіцца — венічак шась, калодачка бразь. Баба і гукае:

— Зараз, зараз. Толькі сярпок вазьму. Ён тут, на стале.

Выйдзе, а нікога няма.

### *Як садзяць бульбу*

Заўсягды паўтарала мама, як трэба садзіць бульбу, каб роўненька клалася ў разору. А то іншы садзіць так, як бык с..ць.

І яшчэ трэба, каб кожная бульбінка была адбаблена — адарваны расток (як пупок у нараджэнца).

### *Во!*

Унук гадуецца ў «дзеддоме» (у дзеда з бабай). Бацькі і воч не паказваюць. Нарэшце прыехаў бацька, прывёз розных смакаў, гасцінца. Дзед радасна просіць унучка:

— Пакажы, дзе твой тата?

— Во! — паказвае падраслы ўжо хлопчык на фотакартку, якая вісіць на сцяне за шклом.

### *Павінны быць*

Яўрэй пайшоў з сынам у грыбы. Ідзе па лесе, галаву ўгару задраўшы. Сын следам бацьку пераймае. І сур'ёзна пытаецца:

— Тата, тата, а ў грыбоў вочкі ёсць?

— Павінны быць!

### *Кароткі адказ*

Дзядзька прыехаў у Вушачу нешта купіць. Сустрэўся яму дзяцюк, сын даўняга сябра, які жыў у далейшай вёсцы. Дзядзька рады спытацца:

— Мікола, як там бацька?

— Гатоў! — коратка адказаў сын.

Маладому і смерць не ў страх.

### *Андарак*

Свякроў не любіла нявестку. Усё нявестка была ёй вяліка. Ходзіць па хаце свякроў дый бурчыць:

— За гэтай недарэкай нідзе не пройдзеш.

— Дык яе ж няма,— кажуць старой гаспадыні.

— Як няма? А вунь жа ейны андарак вісіць.

### *Як пан*

Пасварыліся муж з жонкаю. І адбыўся часовы падзел. Муж ляжыць і разважае перад сном:

— Мая жонка, як сучка ў пярнатах, а я, як пан, на голая лаўка...

Кожнаму сваё.

### *Адкупіць*

Сыну, які не паважае маці, не клапоціцца пра яе, напамінаюць, што яна ж цябе гадавала, калыхала, сасіла. Ён адказвае:

— Я магу ёй адкупіць суды малака. (Суды — два вядры.)

Было шчодрае на аддзяку сынняе сэрца, што і казаць.

### *Пераможца*

Самы лепшы ўчастковы ў раёне лічыцца той, у каго меней за ўсё выяўлена самагоншчыкаў. Хто не зусім прапіў галаву, не падаваў звестак са свайго ўчастка, а складаў сабе графік, у каго пахмяляцца яшчэ цёпленькай самагонкай, каб горла не застудзіць. Яно ж і міліцыянту трэба па службе ўгару ісці, як цыгану па драбінах.

І вось у вушацкім Доме культуры ў Дзень міліцыі аб'яўляюць пераможцаў у спаборніцтве за цвярозасць і парадак. Называюць першага па раёне і клічуць на сцэну атрымаць сувенір. А пераможца падымаецца і зноў ападае. Відаць, шчыры быў пяршак у гаспадара, у каго пахмяліўся на дарогу...

### *Прамачыць горла*

Гаспадар, вялікі жмундзяк, баіцца, што парабкі шмат з'ядуць. Перад ядой прымушае іх піць ваду. Так, думае ён, у іхніх чэравах застаецца меней месца на страву. Цярпелі, цярпелі парабкі, пакуль адзін не даўмеўся. Бярэ поўную кварту вады дый гучна прыгаворвае:

— Трэба размачыць горла, каб паболей жорла!

Гаспадар пачуў і спалохаўся. Перастаў паіць вадой перад ядой.

### *За парабка*

У Петруся Броўкі быў брат, які жыў таксама ў Мінску. Іншы раз, калі куды выязджаў Броўка з сям'ёй, прасіў брата прыглядзець за дачай. Пакарміць ката і маленькага сабачку. Паехаў брат у Пуцілкавічы да Броўкавай пляменніцы дый скардзіцца ёй на сваю долю:

— Яны мяне за парабка маюць. Я ж у іх скаціну гляджу...

### *І выцерся*

Пайшлі мы з мамай у Купалаўскі тэатр на чарговы юбілей Кандрата Крапівы. Ад імя партыі як свайго вернага спадручнага юбіляра вітаў Машэраў. Па паперцы, падкрэслена цяжка і няправільна вымаўляючы беларускія словы. Потым па партыйна-савецкай традыцыі пацалаваў Крапіву. Я нічога не заўважыў, а маме кінулася ў вочы: пацалаваў, выцягнуў насоўку і акуратна выцерся. Што і казаць, былы педагог меў кшталт.

### *Дык і едзь!*

Хлопец з ушацкай вёскі стаў мараком, да капітана дарос. Але жонка ўпрасіла яго перайсці на яе прозвішча ў

памяць пра любімага цесця. А то род зводзіцца. І зрабіўся хлопец з Балабоўкі (даўняе чыста ўшацкае прозвішча) Бальшаковым. Прыехаў сын да бацькі, але не з бацькавым прозвішчам. Бацька адрэагаваў адпаведна з моцнымі эпітэтамі:

— Не хочаш мяне за бацьку прызнаваць, не хачу цябе прызнаваць за сына. Што я, паліцэйскім быў, ці ўкраў што, ці забіў каго? Стаў Бальшаковым, дык і едзь бальшаком!

### *Увесь у мыле*

Яшчэ з паганскіх бадай што часінаў «клёцкі з душа́мі» ў вушацкіх рытуальная страва і на Дзяды, і на хаўтурах, і на памінках. Клёцкамі з душамі кормяць, калі мужчыны ідуць на цяжкую працу. І дарагіх гасцей вяльмуюць клёцкамі з душамі.

На традыцыйнай сустрэчы партызанаў ушацкі рэстаран наварыў катлы клёцак. Усе і камбрыгі і некамбрыгі елі са смакам, як у нас кажуць, абялёдавалі прысмакі. Толькі камбрыг Квіцэрыдзе адмовіўся. Пакрыўджаныя ўшацкія, калі потым знаёмілі нейкіх гасцей з мясцінамі партызанскай славы, паказвалі лазню, якую немцы акружылі, калі камбрыг Квіцэрыдзе мыўся. Між іншым, падкрэслівалі:

— Выскачыў голы, валасаты, увесь у мыле, ледзьве ўцёк...

### *Прыкідваецца*

Пайшлі ў лазню суседзі. З імі і глухі. Пачалі мыцца, парыцца, хвастацца. Адзін жартаўнік вазьмі дый ліні на глухога кварту вару. Закрычаў, заякатаў няшчасны. А весялун яшчэ дабаўляе, нібыта ліе халадзёнку на гарачыя камяні:

— А прыкідваўся, што не чуіць...

### *Набытак*

Любілі ўшацкія прыпавесць пра прасталытку і беззаганку. Памерлі абедзве. У нябеснае канторы адной выдалі даведку (у нас казалі дублікат) аб бязгрэшнасці, аб прыстойнасці. Другой нагрузілі мех, не раўнуючы як бычыных хвастоў, мужчынскіх патарчак. І падаліся беззаганка і пра-

сталытка ў рай. А рай абнесены ровам, у якім палае агонь пякельны. Як ні торкала беззаганка даведку — гарыць папера. А прасталытка звязала свае сувеніры накшталт каната (ёсць жа вясёлая папеўка: «Як я была малада, тады была рэзва, да салдата па канату сама ў хату лезла») і перайшла цераз роў у рай. Прыдаўся матэрыяльны набытак.

### *Ванцак*

Захварэла маладзіца на ванцак. Якія лекі ні давалі — рады не маглі даць. Тут аднекуль вазьмі дый з'явіся здаравіла. Узяўся вылечыць. Толькі ўсіх з хаты выгнаў, каб не пярэкаліся. А ўсім жа цікава, як лячыць будзе. Праз запятыя вокны ўсё-ткі згледзілі. Толькі і разважалі:

— Як паглядзець, дык дзярэць, а як знаіць, ды ванцак выганяіць...

Разважалі, пакуль лекуну моцы было.

### *Светач*

— А ты што, за светача быў? — пыталіся ў таго, хто даводзіў бацькоўства банкарта (байструка). Быць светачам — значыць стаяць у нагах з лучынкай, калі дзяцей робяць. Напрыклад, вушацкія былі перакананыя, калі рабіць гэтую адказную працу на гарохавінах, малое будзе сукрыстае, ці, кажучы лірычна, амурыстае. Таму і цешыла вушацкіх кнігарня ў Полацку з назваю «Светач». Усміхаліся старэйшыя, якія мову ведалі не па казённых падручніках.

### *І мне*

Кум запрасіў кума ў госці. Частуе. Налівае. Але калі поўніць сваю чарку, гаспадар увесь час пералівае, прыгаворваючы разгублена: «Ух ты!» Глядзеў, глядзеў госць дый папрасіў:

— Кумок, налі ты і мне хоць раз з ухты!..

### *Чычыліць*

Носіць бусел сыноў-пагоднічкаў і носіць. А ў селяніна не хапае рашучасці, як у драўлянага дзядзькі, зразьбяранага

славутым Апалінарам Пупкам, зашчаміць адной рукой буслову дзюбу пад паху, а другой, трымаючы сякеру, як адсекчы: «Досыць!» Вяртаецца з ворыва заезджаны, як і ягоны конь, гэты багатыр на дзяцей, а перадапошні сынок пра самага малога здалёку крычыць:

— Тата, тата, і Мікітка ўжо хлябец чычыліць!..

Абрадаваў.

### *Непрыкаяны*

Любілі ўшацкія показку пра старога кавалера, як ён усё ўмеў абгрунтаваць:

— Ці б я гальштук не насіў. Надзену, а хто-небудзь — цоп і панёс сабе... Ці б я на рыбу не схадзіў. Зловіш, а пасля не ведай, што з ёй рабіць. Калі яе ля ракі варыць, раскладзеш агонь, а лес загарыцца. А пакуль дамоў занясеш, згніе.

Ці б я на базар не пайшоў ды не купіў скароміны якой. Ды грошы ў руках не будзеш несці, выставіўшы, а ў кішэню пакладзеш, басякі падцікуюць — хоп, і не зловіш. Так і ем поснае.

Ці б я не жаніўся. Жанюся, а жонку возьмуць ды перахопяць.

Ці б я не купіў парасё. Ды парасё нанач адно не пакінеш — ваўкі сцягнуць. А ў хаце з ім не спаць.

Так і жыву аб нічым, нішчымніцай даўлюся, неабмыты, неабшыты, непрыкаяны, непрыхаіны.

### *Пырскі*

Вушацкі малец быў на заробках там, «где золото роют в горах». Вярнуўся з нейкімі шэлегамі, якія тут жа і пусціў на вецер у «Вецярку». У кожным райцэнтры такія ўстановы былі абавязкова. Піў не прасыхаючы, мок у гарэлцы.

Вушацкія жанчыны казалі як бы спагадліва:

— Прыехаў з залатых пырскаў...

Пырскаў хапала напачатку ад шампанскага, а напрыканцы ад піва.

### *Старцы пабіліся за сухарцы*

Каб неяк скрасіць нуду дарогі і голад хоць на словах ашукаць, старцы разважаць пачалі. Адзін папросіць хлеба,

другі малака. Той, хто будзе прасіць хлеба, задуменна і кажа:

— Укушу я хлеба ды хліб-хліб малака.

— Ах ты такі-растакі, я малако буду прасіць, а ты па два разы хлібаць?

І сварка ў бойку перайшла. І счубіліся. І на паўшкі пайшлі. Як не пазабівалі адзін аднога, яшчэ да вёскі не дайшоўшы. І ні вячэры, ні цяцеры...

### *Сама*

Маладзіца галосіць, запытваючыся, ці то ў мужа, які ляжыць на куце на «паповых санях», ці то ў тых, хто прыйшоў развітацца з суседам:

— А хто ж мяне пабуджаць будзе?

Адна не вытрымала дый кажа:

— За хлеў захочаш, сама ўскочыш.

### *Драматургія побыту*

Мая апошняя радня па бацькавай лініі пратарэклівая цётка Марушка скардзіцца:

— У зялезным магазіне тапароў людскіх няма, толькі такія, як галовы па тэлевізару адсякаюць...

Выходзіць, цётка і алебарды бачыла.

# *Прыбабунькі*

*Гэтае ўшацкае слова, у якім гучаць і байка, і бабуля, і булькат каменьчыка, кінутага ў крутавір усмешкі і прасмішкі, аб'ядноўвае такія навуковыя паняцці, як прыказкі, прымаўкі, каламбуры альбо досціпы. Яны са мною змалку хадзілі, бо прыбабунькі ў мамы маёй былі на кожным кроку, на першым прыскоку. Я ўзяў іх ад мамы, з матчынай хаты яны пайшлі са мной, каб грэць, бадзёрыць, надзеіць мяне ў халоднай дарозе жыцця.*

— Хлеб-соль!
— Ядзім, ды свой.

— Добры вечар!
— Добра лечыў, ды памёр.

— Спакойнай ночы!
— Бачыць шпаковы вочы ды глядзець на палок, каб цябе чорт павалок.

— Па што, воўча?
— Па апошняе.

— Адкуль?
— З-пад кур, петухоў сын.

— Калі?
— Не калі, а жывых пушчай!

— Гразь, гразь, чаму ты не гарыш?
— Я б гарэла, каб не была карэла.

— Дайце нажа.
— Ушкодзься, бяжа!

— Дай закурыць.
— Закуры кату пад хвост (адказваюць малому).

— Значыцца...
— Калі значыцца, дык і цэліцца.

— Як цябе завуць?
— Чым крупы дзяруць.
— Крупы дзяруць драчкай, цябе завуць срачкай!

Вашапруд на кут, а добраму чалавечку добра ў запечку.

За гарой табе Насярэйка кланяўся.

Красавіца, што з-пад стала кусаецца.

І тыя хвалілі, што цераз шлеі валілі.

І качачка казала: ты-ты-ты-ты...

Дзень добры таму, хто ў гэтым даму!

Бліны з падскокам.

Спара ў дзяжу, і сын на вясну!

Дай, Божа, сесці на шчаслівым месці.

Хорша, Базыль, не рассыпай табакі.

Хорша, тата, не ўдавіся.

Каб шырэй ступаў, дык на чарку б папаў.

Сядзь, хай не вісяць, адарвуцца — разаб'юцца.

Забірайце збрую і едзьце к гаю.

Калі ты курэц, дык і май свой тытунец.

Дурны, дурны, а скваркі любіць.

Яму гавары, а ён брык дагары.

Пазыкі не ходзяць без'языкі.

Глядзеўшы з рук, зробішся, як крук.
Не хваліся сеўшы, а хваліся з'еўшы.

Той самы блін, ды ў рэшаце.

Не выходзіць у Хадоры тры бліны.

Хваціў кашу шылам.

Лёг — не еўшы, устаў — не спаўшы.

Пайшла сучка баразной.

Цалое, малое, большае папалам.

Так не так, ператакаваць не будзем.

Беднаму Іваньку і ў п..... каменні.

Як увойдуць злыдні на тры дні, дык і за сем год не выганіш.

За тры гады боты, як перуном, спаліла.

Пашкадаваў воўк кабылу — пакінуў хвост ды грыву. Ці будзе яна жыва?

Выспеіць касцянка — выспіцца шляхцянка.

Карову б'ець зык, а бабу бабскі язык.

Новае сітца пакуль навісіцца, а як навісіцца, дык і пад лаўкай наляжыцца.

Якія мы самі, такія нашы і сані.

Пазайздросціў хрэн лапцю.

Надаела сабачай лапе ляжаць на стале, дык хай пад сталом паляжыць.

Чаго б сляпы плакаў, каб сцежку бачыў?

Хоць сабачына, абы вочы не бачылі.

У дурной птушкі дурныя песні.

Запытала зіма, дзе ты лета быў.

Не быць казе на лазе, не есці ёй брэду.

Зарадзіў Бог чалавечка — ні баран, ні авечка.

З кім не рос, з тым не дзьмі ў нос.

Не купіў бацька шапкі,— хай галава мерзніць.

Неспадзеўкі — дзіця ў дзеўкі — жох.

А я жох сваё з запазухі.

Няўлад мая сучка — за хвост ды на плечы.

Толку, як з кілы мазгоў.

Ранняя птушка цярэбіць дзюбку, а пазная — вочкі.

І няўмека пячэць, як з засеку цячэць.

Не лезь жаба, дзе коні куюць.

Хлібай, не дбай, хоць жыдка, ды многа.

Хоць сучку, абы грошы кучку.

Людскі рот — не гарод, не паставіш плот.

На чужы раток не накінеш нараток.

Не будзь ні войтам, ні сватам, не будзеш чалавекам праклятым.

Сам чорт адступіўся.

Раз'еўся, як шыла.

З вялікіх выбораў — лапці ды абора.

Нагінаючыся, не нацалуешся.

Абыходзімся мы без таго Гаўрылы, што каля нас не жывець.

Фіц выйграў, фіц прайграў.

Дзесяць гадоў нявестка зжыла і не ведала, што сучка без хваста.

Што не гожа, тое непрыгожа.

Матка не знаіць, што цялятка рыкаіць.

Нечага козамі сена псуваць, яны і лыкі з'ядуць.

На гора і сядун — дзіця.

На чужое шчасце і мухай не ўпасці.

З гора кот капусту есць.

Ні з колам у горла.

Грозен рак, ды ў срачцы вочы.

Плач, галасі — рады не дасі.

Падняўся вышэй папараці.

Усюдых згож, як шавецкі нож — і боты шыць, і бульбу крышыць.

Худы, як склезень.

Сыты, як рыдзель (як брысік).

Мурзаты, як заткала.

Халодна, як у ваўкаўні.

Мокры, як мачонка.

Ссох, як майскі венік.

Сыт, хоць нажы вайстры на ім.

Дай Божа ў наймé людзям, ды не мне.

Хочаш мець злосніка — пазыч грошы.

Аддай рукамі, а хадзі нагамі.

Даюць, ды з рук не пускаюць.

Дзе няма роста, там няма і прыгоства.

Дабрахвочы глядзіць скупому ў вочы.

Садраць, як чорт за бацьку.

Лепей касіць касой, чым дугой.

Смакам, смакам, смакаўно, а ўсё ж лепей за гаўно.

Ва ўдавы два наравы, а ў удаўца без канца.

Збялеў як ліпа.

Біся, сварыся, а на дабрыдзень слова кінь.

Чужога рабёнка хоць маслам маслі, а ён дзёгцем усё роўна смярдзіць.

Каб табе даў Бог здароўя з жабіны прыгоршчы.

Чужое дабро возьміць (бярэць) за рабро (вылезці праз рабро).

Кароўка — мамка, а сала — ямка.

У каго няма статку, у таго няма і ўпадку.

Цяжка толькі пачаць, а кінуць ураз.

На від мужык хоць лапаць, абы жыць — не плакаць.

Каб госці не селі косцю.

Хай той плачаць, хто бярэць, хай той скачаць, хто ідзець.

У Бога дзён не рэшата.

Каму рупіць, таму і вочы лупіць.

Дайце Саўку спраўку.

Мазгі ў ствол пайшлі.

Служы верна і крадзь памерна.

У яго даўгоў, як у зайца ламоў.

Не слухаіць, хоць ты яму вуха выварачвай.

Дзве бабы і Тумаш — поўны кірмаш.

Не налечышся, а скалечышся.

Дзе дзіцё адно, там заўсягды не ладно.

Адна жаўна і тая з гаўна.

Пагода аж трасецца.

На ваўка памоўка, а мядзведзь спадналуску.

Ждала, ждала і жда́нкі паела.

Каб усё было на піндурах.

Не перадкуй, як сабака перад пастухом.

Корчыцца, як скурат на агні.

Мы з табой, як рыбка з вадой, нас ні вада не размыіць, ні свіння не разрыіць.

Жывець шэртам, вэртам, перавэртам.

Ежа — толькі шалёнаму сабаку на хвост выліць.

Ядкі на зуб.

Перад сячэць, а зад валачэць.

Калі ж будзе тое лялё?

Далёка п'яны гойкаў.

Воз не воз — на семярых падвёз, а мне і досыць.

Па Пахомку шапка, па гаўну і пакрышка.

У мяне кароткі завароткі.

Яму не калёсы занасіць.

Чалавеча, ці ёсць у цябе галава на карху?

Пацалуй мяне сягоння, а я цябе заўтра.

Сваё сонца і ў попеле відно.

Не знайшоў шчасця зрання — не шукай яго на змярканні.

Кожная пачвара знойдзе сабе пару.

Заяц не трэплецца.

Заяц і той злосць маіць.

Кожнаму дразду па сваім гнязду.

Не хадзі да папа, што ў нядзелю свята.

Ён табе не шыш-варона і не кукуй-заяй.

Завіло ў матылях.

Рабі, рабі, а дзюра мала.

Не бачыў ты яшчэ савы смаленай.

Жыву, нічога не маю, але і з вазоў не хапаю.

Яму стала ні па каню, ні па аглоблях.

Не хухры-мухры, а рух-рух.

Глядзі, зробіш кісла.

Засмярдзіць пад сталом, запахніць на стале.

Багатым быць маю надзею: прадам сучку ў нядзелю.

Сава відна па палёце, а сакол па паглёдзе.

Даць уносніцу (улычніцу).

Багаты на кані, а махляр на свінні — і махляр перагоніць.

Застаўся толькі дух ды пятух.

Пішчыць, як свіння ў пярэплаце (у дрýках).

Не нашага носу палосу.

Лепі першы гнеў, чым апошні.

У гневаша (надуцькі) губы тоўсты, а срачка тонка.

Заробіць стыдніцу.

Свая рука не суќа.

Устаў, яшчэ чорт у кулачыкі не біў.

Былі б пабразгáчы, будуць і паслухáчы (паслугáчы).

Хадзіць у панібрацці.

Гдзе тылькі фэст, там пан Юзаф ест.

Ні каровы, ні каня, жыву сабе, як панЯ́.

Хоць альховы, ды смаляк.

Чым поршы, тым горшы.

Вось твой хамут, вось твая дуга, і я табе болі не слуга.

Такая праўда, што сучка дзёгаць з'ела і ў ляпе бела.

Мяне на работу не хвалілі, але і на ежу не ганілі.

Загарэлася бяроста ў срачцы.

Малы — з чорта пералетка.

Набойнае шыла танна каштуіць.

Не падпускаіць ані на храбт.

Таўстая, як кукамі збіта.

Лепі палавы хлеб, ды першы, чым другі пшонны.

На базары і бык цельны, і певень з яйцом.

Не быў ты на смычковым пераездзе.

Не столькі брагі, колькі звягі.

У кожнай хаце ўшак бываіць.

Язык без косці, што захочаць, тое і хвосціць.

Пакуль лес адзенецца, невядома, дзе хто дзенецца.

Лежань ляжыць, а яму доля бяжыць.

Па дастатку пякуць букатку.

Хоць наўздагон, ды навыперадкі.

Крычала, крычала: «Падай патарчала!»

І да мяса трэба закраса.

Дзярэцца, як жаба на крэў.

Галодны, як воўк жаробны.

Разгуляўся, як сабака ў торбе.

Любіў бы Грасім, каб чорт грошы насіў.

Журавы паляцелі — палудзень паняслі.

Малады — першую галаву на карку носіць.

Еш, пакуль не запяеш.

Не круці духамі.

Усім кагалам і бацька з жыгалам.

Якая жонка ды не жонка, а ўсё ж лепі за парасёнка: хату адчыніць і зачыніць.

Хоць насяры ды ўтапіся.

Тры п.... попелу не варты.

А дзе ж тое дзелася, што ў штанах вярцелася?

Жыць будзіш, але не захочаш.

Няма чаго ма́ліцца, калі з запазухі валіцца.

Згаварыўшыся, і бацьку можна забіць.

Як зяць на парог, дык цешча за яйцы.

У яго ў роце мухі любяцца.

Тады мужык з жонкай сварыцца, калі ў катле трасца варыцца.

Кармі гаўном — заб'еш гальнём.

Гонкая дзеўка, хоць на ёй вішні абірай.

Даўгі, хоць сабак вешай.

Жывіце, як брацці, а рахуйцеся, як жыдзі.

Зрабіць (некаму) на гарэ гразь.

Каб цябе порах узяў.

П'юць так, што сабакі морду ліжуць.

Пакуль па каню, па аглоблі скарэй.

Не бачыўшы цэлага, і лапленаму рад.

Сіраце даварыцца ў жываце.

Дзяўчына, як жалуд.

Мужык так гаруіць па жонцы, як баба па іголцы.

Ці мужык памёр, ці пранік сплыў.

Будзіць горка — праплююць, а салодка — праглынуць.

Краса пракраці́цца, а розум прыгадзіцца.

Саламяны мужык і залатыя дзеткі, а не прамяняеш.

Вон! Каб і вонках не было.

Дурны, аж круціцца.

Па малаку ног не павалаку.

Калі сяродка поўная, тады і канцы іграюць.

Збіраіцца, як свёкар полкі (пялёнкі) паласкаць.

Баба, як ракіта, прыжывушчая.

І святы б паскакаў, каб гарэлкі паспытаў.

Асіна не лясіна, каза не скаціна.

Ад чаго яму стала, ад круп ці ад сала?

Не хочаш расказваць — нясі ў кішані.

Усё ж не з-за вугла, а з-за стала.

Бог не слухаіць, што свіння рухаіць.

Зайшоў за Дунай і дамоў не бувай.

Каб не еў, не спаў, у Амерыцы б стаў.

Будуць бліны каля Дзвіны.

Гаршчок гаршку ганьбу даець, а абодва дзюравыя.

Чмут-беламут, у чортавы лапці абут.

Бягом, горб ушчаміўшы.

Як з піпкі выгарыць.

Прыйшоў з сяла, гоніць з двара.

Што ўбіў, тое і ўехаў.

Кожны сабе мякашом, а другому коркай.

Ніводная гаспадыня пад пяколкам не здохла — усе жывуць.

На балючыя вочы пароша валіцца.

Калі гаспадыня з голаду памрэць, дык яе пад прыпечкам пахаваюць.

Не хаці ты ракаў і не мачы ты с..ку.

Памог, як кашаль кольцы.

Густая каша дзяцей не разганяіць.

Дабранач — усе блохі нанач.

Дасць Бог дзень, дасць і пажытак.

Ешце, хоць кішкі на плечы.

Пень гарэў, а воўк с..ку хвастом грэў, іскра пала і раднія стала.

Хто дуж, той лепш.

Абы з рук далоў, а з ног само зваліцца.

Няхай жывець, красуецца, пакуль на хрэн не ўссунецца.

Памагло не памагло, а ад сэрца адлягло.

Гадзі́ць, як благой скуле.

Цяпер праўду ваўкі з'елі.

Яшчэ і марац пад нос зашмарыць.

Вялік пень, ды дуплен.

Ёсць што казаць, няма каму слухаць.

Цяжка пачаць, а кінуць лёгка.

Глядзі, каб цябе сарокі не ўкралі, падумаюць, што сыр,— гэтак вымыўся.

Дванаццаць з поўначы прабіла, прывёз на базар Зуська мыла і пачаў таргаваць.

Кожнае дыханне любіць папіханне.

Не да любеблі, калі рукі пакрэплі.

З Богам, Хадорка, калі людцы здараюцца.

Да Змітры дзеўкі хітры, а пасля Змітры хоць зад вытры.

У вас папелі, а ў нас паелі.

Цялятка ў срачцы, а ён з абушком бегаіць.

Адарваў гнілому цяляці хвост.

Зроб бела і гуляй смела.

Шлёп гаўно ў кашу, у панскую ды не ў нашу.

Сабака не з'есць, пакуль не пакачаіць.

Прайсці туркі-баркі.

Горка рэдзька, ды ядуць, дрэнна замужам, ды ідуць.

Валуй раменныя вушы.

Прыдзіць каза да ваза, ды не будзіць сена.

І духу-паху не чуваць.

Пусціўся Мікіта на валакіту.

Мая душка не перабірушка.

Гэта табе не ў яйцы́ пішчыць.

Хоць за вала, абы дома не была.

Сава спіць, а курэй чуіць.

Трэба жыць і мучыцца, пакуль смерць налучыцца.

У багатага пана багатыя яйцы.

Напіўся да зялёных мятлікаў.

У яе малання з-пад хваста свішчыць.

Кій на кій завадзіць, а абед на абед — не.

З лясочку дачакаеш, а з пясочку — не.

Нечага таму богу кланяцца, каторы на нас не глядзіць.

Еш, пакуль рот свеж, а як завяніць, не загляніць (а як памрэш, і калом не ўвапрэш).

Белае, як свіное цела.

Шанасць такая, як воўк кабылу шанаваў.

Золата ўсюдых золата, а гаўно ўсюдых гаўно.

П'ець, як у бот ліець.

У мяне хоць куніца, ды ў рот, а ў цябе сініца, ды ў год.

Залапіць вочы (даць хабар).

Мы паедзем, мы пайдзём, надаелі мы людзём.

Краса завяніць, а шчасце не абманіць.

Вяселле наша — хлеб і каша.

Думай за́ мара, а смерць за плячмі.

Злодзя пройдзіць — хата астанецца, а агонь нічога не пакініць.

Голад — не цётка, ён ілжэць і крадзіць.

Цярпі, Грышка, спасён будзіш, а не выцерпіш, чартом будзіш.

З'еш хрэн, а рыба дорага.

Не будзь выдатнікам, не будзь астатнікам.

Хто чаго хочаць, той таго даскочыць.

Хто чужое не шануіць, той свайго не маіць.

Жонка радня па парог.

Такі добры, толькі на небе звёзды збіраць.

У іх вада неразлітая (пра сяброўства).

Варона на многа сукоў садзіцца, ні на адным не жывець.

Бог не без ног.

Добра вам жыць! (Кажуць на развітанне.)

Злосць пакінь на заўтра, а работу зрабі сягоння.

Каб не плеш, дык і гола б не было.

Прышануй адзежынку дома, ■ яна цябе ў людзях.

Бяжыць руя́, пабягу і я.

Усе дабры бабры.

Жыві, пакуль галава сядзіць.

Зялён, што рута, і кісел, што атрута.

Не руш нічога і не бойся нікога.

Вырабатаны, як конь.

Хто з языком, той з пірагом.

Усмак не пераржвеш, а ў ласцы не пражывеш.

Каб захацеў, знайшоў бы рукі.

Добра, што табе ўдалося, як Салосі.

Калі люлька адарвецца, і гаспадарка звядзецца.

Яна баба нягідкая, як конь.

Цыган прадаець рукавіцы і кажух з Каляд.

Ногі таўстыя, па жыдзянёнку.

Не стаў сябе ніжэй падашвы.

Зайца забіў метраў дваццаць.

Шалёная дачка і недапечаны сын.

Дзе рот, там і смурод.

Кладуся спаць, як уміраць.

Багаславёна і на стол пастаўлёна.

Браўшы добрае, трэба аддаць добрае.

Кілбас цэлы баз.

Пайшла слава да Аршавы.

Перад зайцам жабы ўцякаюць.

Як Сора сказала, так Мэндэль запішаць.

Адзін дзень з ношкай, а другі з калатушкай.

Як е, так і вуе.

Дажыліся кулікі — ані солі, ні мукі.

У вар'ята што дзень свята.

А хай вас дажджом намочыць!

Харош, як свіння ў дождж.

Так стараўся, аж язык замакрэў.

Адбяры, Божа, стыд, буду п'ян і сыт.

Бог, як у пень, душу ўторкнуў.

Свая хатка, як родная матка.

Дзе конь качаіцца, там поўсць астаніцца.

Нос, як кічаўка (кісялёўка).

Ушацкія бляхары паехалі ў Вушачу кусацца.

Дзе трушком, дзе бяжком, а дзе і шагам.

У сваёй хаці і качарга маці.

Розум па запатылку (патыліцу) цячэць.

З аднаго боку пячэць, а з другога душу валачэць (ля вогнішча).

Падупалага не лічы за прапалага.

Дурныя як аглоблі.

К чорту ў зубы залезіць.

Ну, як дуж-крэпак?

Ні скубці, ні смаліць.

Купцы на расторгі.

Знойдуцца на рукі мукі.

Ні стуль ні ссюль.

Крычы, хоць разарвіся.

Найшоў дзеўку па свайму калену.

Твой «січас», як жыдоўскі «зараз».

Яму мазгі выпетрыла.

Салому еш, а фасону не губляй.

Забі мяне лапцем, калі не так.

Абцёр троху пархі, дык і капызіцца.

Сяннік не падушка, нявестка не дачушка.

Хай у вас будзе не спіта, не з'ета!

На ласы кусочак знойдзіцца куточак.

Плача, як па ўмірушчаму.

Мужыку калена пакажы, толькі праўды не кажы.

Шыла, шыла і гаўном завяршыла.

Не бойся сабакі брахлівага, а бойся куслівага.

Падторкнуўся, як чорт з каўшом пад брагу.

Лгаць, як у лёд.

Добрая цацотка (цаца).

Як у мядзвежжу вушку (утульна).

Каб ты так з носам быў, як гэта праўда.

Як сабака падхартаны.

Як на шпігах сядзець.

Сесці макам (саладом).

Цыбуля, як тынок.

Гаворыш, як спіш.

Ні ў пір, ні ў вір, ні ў добрыя людзі (з некім).

Гавары, кум, ды абедай.

За другім бачыць пажашкі, а за сабой і бярвенні не бачыць.

Цёмна, хоць ражна выставі.

Хочаць замуж, як дурань стрэліць.

Свой лес — свае зайцы.

Муха не разарвець бруха.

Торкаў, торкаў, то ў буракі, то ў моркву.

Як хочаш, вышэй с..кі не падскочыш, ты скачаш і яна з табой.

Ляжыць ужо на боскай пасцелі.

З малачком і зямельку абгоніш (мама дадавала: як абгоніцца ў роце, дык і праглынецца).

За «слабо» і цыган павесіўся.

І Аўгіння нявінна, і Ігнат не вінават.

Заробіў бочку мякіны.

Хто дарогу пытаіць, той не блукаіць.

З усіх капылоў далоў.

Як бязрукаму рукавіцы.

Круціцца, як жулік на кірмашы.

Гакі-бакі забіць (спірацца).

Духі падхартала (ад голаду).

Тое-сёе ды нічога.

Ходзіць, як непрыкараны.

Добры чалавек пабаіцца ківа, а благі не пабаіцца і кія, калі не паможаць ківў, не паможаць і кій.

Цыганскі пот грэіць.

Куды вароне не ляцець, усё адно гаўно дзяўбаць.

Хто не ідзець, той гáліцца, а хто зойдзець, той каіцца (замужжа).

Як была ў мяне кабылка мышастая, па вярсце ў час шастала.

Такім кавалкам мяса і варона не падавіцца.

Заробіў курам на соль.

Лыжка гнецца, нос смяецца, душа радаваецца.

Нясецца, як чорт з грэшнай душой.

Мужчына абы троху лепшы за чорта, сем красуняў возьміць.

Які груган, такая і песня.

Чорная авечка і белая авечка, а дух адзін.

Чужыя слёзы паб'юць бел-камень, паб'юць і лозы.

Даў пылі, як заяц кабылі.

Без прычыны і смерць не бываіць.

Да работанькі анінютанькі, а да любатанькі — ах, мае матанькі.

Яна ўся з хітрасці сшыта.

Ні да цябе п'юць, ні да цябе «здароў» кажуць.

Дзе харчы, там і тарчы.

За хатуль ды адтуль.

Дзе любяць, не ўчашчай, а дзе не любяць, нагі не накладай.

Памяць яму заарала.

Старцу пажар не страшан.

Тры чвэрці да смерці.

Што праўда, то не грэх, што торба, то не мех.

У чорта спіна сцёрта, а ў нашага брата не пачата.

Хамут са старой кабылы.

Сем пол наперадзе, чаму ж мяне не бераце, і трыштыкі туды ж такі.

Дзе воўк радзіўся, той і куст міл.

Што ты, як вуда, у бакі ходзіш?

Як трахану, дык аж чэрці пасыпяцца.

Сабаку сніцца хлеб.

І ў вераб'я сэрца ёсць.

Жывець на гулявы́м хлебе.

Багаты дзівіцца, чым бедны жывіцца.

Глядзяць, як карова на карову.

Каб ты сцежку мацаў!

Бог сірот жалеіць, толькі шчасця не даець.

Датуль матка міла, пакуль срачку мыла.

Хачу дамоў, як вады напіцца.

Лапаць не князь — абуў ды ў гразь.

Пенсія малая — пальцам вымакаеш.

Не дай Бог ні дадзенага, ні крадзенага.

З кута ў кут — і вечар тут.

Досыць зубы шчэрыць, будзем вячэраць.

Неяк зладзім — хлеб ёсць, сала ўкрадзім.

Благому Яську ні ў чэсць, ні ў ласку.

Дзівак рыбак: на вадзе сядзіць і піць просіць.

Два медвядзі́ ў вадным логавішчы не тоўпяцца.

Рыба куплена, воз накрыт.

# Змест

## *Сяброўскае слова*



## *Эсэ і некананізаваныя ўспаміны*

**Барадулін Р.**

**Б 24** Аратай, які пасвіць аблокі: Сяброўскае слова, эсэ і некананізаваныя ўспаміны.— Мн.: Маст. літ., 1995.—350 с.

ISBN 5-340-0139-1.

Новую кнігу народнага паэта Р. Барадуліна складаюць артыкулы пра творчасць выдатных пісьменнікаў -- У. Дубоўку і Л. Геніюш, П. Панчанку і В. Быкава, М. Аўрамчыка, У. Лісіцына, Я. Янішчыц, К. Цвірку і шмат іншых.

У другім раздзеле аўтар успамінае тых, з кім сябраваў і працаваў, сустракаўся і жыў побач — у маленстве, маладосці, у літаратуры; гэта слынныя дзеячы культуры, землякі і сябры, такія, як П. Пестрак і Р. Бярозкін, П. Броўка і Г. Цітовіч, У. Караткевіч і М. Стральцоў, Л. Баразна і А. Анікейчык.

Да ўспамінаў натуральна дадаецца падборка «Здубавецця», як працяг жыцця народнага — мудрага, смешнага, дасціпнага, натуральнага — заключанага ў слове, як у бурштыне.

**Б $\frac{8820600900 — 073}{М302(03) — 95}$ 69—95**

**ББК 83.3(4Беи)6**

Літаратурна-мастацкае выданне

БАРАДУЛІН РЫГОР ІВАНАВІЧ

*Аратай, які пасвіць аблокі*

*Сяброўскае слова, эсэ і некананізаваныя ўспаміны*

Рэдактар *Н. А. Давыдзенка*. Мастак *М. Р. Казлоў*. Мастацкі рэдактар *А. І. Цароў*. Тэхнічны рэдактар *Л. М. Шлапо*. Карэктар *К. У. Дзмітрыенка*.

Здадзена ў набор 02.09.94. Падп. да друку 05.05.95. Фармат $84\times108^1/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура тып Таймс. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 18,48+0,84 укл. Ум. фарб.-адб. 19,32. Ул.-выд. арк. 18,49. Тыраж 2200 экз. Зак. 1460.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 3. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа, 220005, Мінск, Чырвоная, 23.